*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 21 лютага 1986 г. № 8 (3314) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.




«Партыя будзе ўсямерна садзейнічаць павышэнню ролі літаратуры і мастацтва, — адзначаецца ў праекце новай рэдакцыі Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. — Яны заклікаць служыць інтарэсам народа, справе камунізму, крыніцай радасці і натхнення для мільёнаў людзей, выражаць іх волю, пачуцці і думкі, актыўна дапамагаць іх ідэйнаму ўзбагачэнню і маральнаму выхаванню».

Сярод тых, хто будзе на XXVII з'ездзе КПСС прадстаўляць вялікі атрад творчай інтэлігенцыі нашай рэспублікі — народная артыстка БССР Марыя ЗАХАРЭВІЧ. (Яе вы бачыце на здымку). Напярэдадні ад'езду ў Маскву яна сказала нашаму карэспандэнту:

**— Грамадзянская пазіцыя мастака, яго асабістая адказнасць за сваю творчасць — вось што сёння ўяўляецца мне надзвычай важным, першаступенным. Кніга, спектакль, кінафільм, карціна, песня павінны актыўна ўздзейнічаць на думкі і пачуцці людскія, хваляваць, узрушаць.**

**Нам трэба больш пільна ўзірацца ў жыццё, чуйна ўлоўліваць новыя павевы, трымаць руку на пульсе сучаснасці. Толькі так мы здолеем прыкмеціць галоўнае, на поўны голас казаць пра набалелае, абуджаць у душах людзей самыя высакародныя парыванні.**

**Для акцёра кожная роля — сустрэча з новым чалавекам. Загадка, якую трэба разгадаць. Тайна, якую трэба зведаць. Істота, якую трэба палюбіць, абараніць. На гэта выдаткоўваецца шмат энергіі. Хочацца, каб не гублялася яна марна,— усе мы прагнем вобразаў маштабных, значных і яркіх.**

**НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА**




# «Вучыцца ў Леніна...»

Іван ШАМЯКІН



Высокага даверу — прадстаўляць на XXVII з'ездзе КПСС рэспубліканскую партыйную арганізацыю — удастоены народны пісьменнік Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, член ЦК КПБ Іван Шамякін.

Днямі з ім сустрэўся наш карэспандэнт.

**— Зусім нядаўна, Іван Пятровіч, вы завяршылі раман «Зеніт». Літаратурная творчасць, вядома, планаванню не падлягае. І ўсё ж ёсць штосьці сімвалічнае ў тым, што новы твор вы скончылі напярэдадні партыйнага форуму. У друку ўжо змяшчаліся ўрыўкі з гэтага вашага новага твора, публікаваў іх «ЛіМ». Скажыце, калі ласка, больш падрабязна пра ўзніненне задумы.**

— Раман пакуль што ў чарнавым варыянце, але сюжэтна завершаны. У ім я зноў звярнуўся да пачатку сваёй ваеннай біяграфіі, да тых незабыўных гадоў, калі маё пакаленне грудзьмі сваімі засланіла Айчыну. Раман і напісаны на аснове ўспамінаў аб перажытым. Вядома, валодаючы сюжэтам, я ўсё гэта мог сачыніць у лепшым сэнсе гэтага слова, але хацелася больш прытрымлівацца дакументальнай асновы, таго, што было ў сапраўднасці. У «Зеніце», у параўнанні з іншымі маімі раманамі, аповесцямі, менш за ўсё творчай фантазіі — там прысутнічае тая рэальнасць, сведкам якой быў я сам і мае баявыя таварышы, тое, што давялося перажыць.

Магчыма, я быў не на самым пярэднім краі вайны, але ўсё-такі ў даволі гарачым пункце яе. Яшчэ да вайны трапіў у Мурманск, у зенітную артылерыю. Дывізіён наш ужо тады стаяў на баявых пазіцыях, прыкрываючы мурманскі порт, адзін з аэрадромаў, электрастанцыю, якая, дарэчы, у той час была самай паўночнай у свеце. І натуральна, што ў першы ж дзень нападу фашыстаў—дваццаць другога чэрвеня — мы ўступілі ў бой з гітлераўскай авіяцыяй.

Спачатку фашысцкія самалёты не надта бамбілі Мурманск, спадзеючыся, што хутка яго возьмуць. Асноўныя ўдары былі накіраваны туды, дзе размяшчаліся нашы часці. Асабліва складаная абстаноўка ўзнікала ў верасні, калі ворагу ўдалося прарваць фронт, але наша чатырнаццатая армія здолела адбіць усе атакі. Фашысты былі адкінуты, і дзесьці на дзевяностым кіламетры ад Мурманска, па рацэ Заходняя Ліца, лінія фронту стабілізавалася і стаяла да сорак чацвёртага года.

Гэта адзіны выпадак на нашым фронце, дзе вайна, так сказаць, была пазіцыйнай. Пасля гэтага фашысты пачалі бязлітасна бамбіць Мурманск і асабліва порт, бо гэта быў адзіны порт у еўрапейскай частцы, праз які наша краіна ў цяжкі, крытычны час мела сувязь са знешнім светам, з тагачаснымі саюзнікамі — амерыканцамі і англічанамі. Тым самым Мурманск меў вялікае стратэгічнае значэнне. Менавіта пра гэтыя падзеі хацелася расказаць у рамане. Праўда, пра першы перыяд вайны гаворыцца больш рэтраспектыўна, бо асноўныя падзеі разгортваюцца ў яе завяршальны перыяд. Я не проста расказваю аб тым, як ваявалі зенітчыкі, вялася абарона Мурманска, Кандалакшы, Запаляр'я ўвогуле. Задачу, якую паставіў перад сабой пры напісанні гэтага твора, я, магчыма, звузіў, калі мець на ўвазе гістарычны фон, але расшырыў яе ў іншым — у паказе чалавека на вайне. Хацелася ў абставінах, якія добра ведаю, паказаць жанчын на вайне. Тэма гэтая даўно хвалюе не аднаго мяне— у дзеючай арміі было амаль мільён жанчын. Колькі незвычайных, гераічных лёсаў!

**— У пэўнай меры раман «Зеніт» — своеасаблівы працяг такіх вашых твораў, як аповесць «Шлюбная ноч», раман «Гандлярка і паэт», а таксама іншых, у якіх паказана жанчына на вайне?**

— Умоўную паралель паміж гэтымі творамі правесці можна. Але на фронце былі іншыя абставіны. У нашым дывізіёне, увогуле ў часцях супрацьпаветранай абароны, асабліва пачынаючы з сорак другога года, служыла шмат дзяўчат. Вядома, ваяваць ім было вельмі нялёгка, тым больш у суровых умовах Запаляр'я, але яны хутка авалодвалі ваеннымі прафесіямі, рабіліся добрымі байцамі. Умела карысталіся прыборамі пры кіраванні зенітным агнём, а таксама станавіліся трэцімі нумарамі пры гарматах і нават наводчыцамі былі, найперш у батарэях мелкакалібернай зенітнай артылерыі.

Асноўныя падзеі ў рамане разгортваюцца летам сорак чацвёртага года, калі дывізіён, у якім служаць мае героі, перакідваецца спачатку ў вызвалены ад фашыстаў Петразаводск, а потым трапляе ў Польшчу, Германію, на Одэр. У рашаючай аперацыі — фарсіраванні Одэра — вызначаліся і нашы дзяўчаты-пражэктарысткі.

**— У новым вашым рамане, як і ў папярэдніх творах, сярод літаратурных персанажаў ёсць нямала камуністаў?**

— Натуральна, у «Зеніце» нямала вобразаў і камуністаў, і камсамольцаў. Усе маладыя байцы — і дзяўчаты, і юнакі — былі ў нас камсамольцамі, а камандзіры і палітработнікі — камуністамі. Нават і расказ у творы вядзецца ад першай асобы — як успамін былога камсорга дывізіёна.

**— Дзяўчыны?**

— Не, камсорг у маім рамане хлопец, завуць яго Павел Шыянок, беларус. Ён вяртаецца ў гады сваёй маладосці, прыгадвае баявых сяброў-таварышаў, тых, з кім дзяліў і радасці, і нягоды.

**— У новым рамане, як, скажам, і ў рамане «Вазьму твой боль», пераплятаюцца падзеі мінулага і падзеі сучаснага?**

— Так. Мой герой ужо нямала пражыў, стаў прафесарам, выкладае гісторыю ва універсітэце, напісаў некалькі даследчыцкіх кніг аб вайне. Успамінаючы сваю маладосць, Павел Шыянок суадносіць перажытае з тым, што адбываецца ў свеце сёння. Ён, выхавацель моладзі, бацька, дзед, горача прымае да сэрца тыя праблемы, што хвалююць чалавецтва, палітыку партыі ў справе абароны міру, раззбраення, уратавання чалавецтва ад ядзернай катастрофы.

Павел Шыянок камуніст яшчэ з той, ваеннай пары. У рамане дзейнічаюць і іншыя члены ленінскай партыі — парторг Канстанцін Калбенка, камандзір дывізіёна Кузаеў... Увогуле, я не ўяўляю вялікага твора пра вайну без вобразаў камуністаў. Апавяданне — іншая справа, сюжэт у ім, як правіла, эпізод з жыцця героя, і сацыяльная характарыстыка тут неабавязковая. Тое ж — і ў невялікай аповесці. Але раман ды яшчэ шматпланавы!? У «Зеніце» падзеі адбываюцца і ў штабе дывізіёна, і на батарэях, на Одэрскім плацдарме ў ноч прарыву. Там камандавалі і вялі за сабой людзей камуністы, паказваючы прыклады асабістай мужнасці і гераізму, натхняючы іншых. Кожны з іх знаходзіўся на сваім месцы, падымаючы байцоў у атаку. Так было ва ўсіх часцях — у пяхоце і ў танкавых часцях, у авіяцыі і ў артылерыі, у партызанскіх атрадах. Ды і ў тыле, на заводах, на палях, у шахтах, на чыгунках перамогу кавалі камуністы.

**— Вашы сакратар партыйнай арганізацыі Ігнат Ладынін з рамана «У добры час», сакратар гаркома Ігнатовіч і сакратар абкома партыі Сасноўскі з «Атлантаў і карыятыдаў» — не проста камуністы, а кіраўнікі пэўнага рангу. Ці ёсць нешта адметнае ў стварэнні вобразаў камуністаў-кіраўнікоў? Як вы ў такім разе працуеце? Пішаце вобраз абагульнены, беручы характэрныя рысы многіх людзей, ці выразна ўяўляеце перад сабой канкрэтны прататып?**

— Мушу сказаць, што няма такога пісьменніка, які б не лічыў сваім святым і галоўным абавязкам ствараць праўдзівыя, пераканаўчыя вобразы камуністаў. І не толькі ў творах аб мінулай вайне, але і аб сучаснасці ў яе шырокім плане. Цяпер, калі перад усім народам партыя паставіла велічныя задачы па паскарэнні сацыяльна-эканамічнага развіцця, якраз праз вобразы камуністаў можна раскрыць і паказаць ва ўсёй значнасці і паўнаце праблемы, падказаныя самім часам, адчуць жыццё ва ўсёй яго паўнаце і шматграннасці.

Вобраз камуніста праходзіць праз усю маю творчасць. Я не пісаў іх эпізадычна. Камуністы ёсць ва ўсіх маіх творах, пачынаючы з першага рамана «Глыбокая плынь». З'яўляліся яны ў раманах па-рознаму. Часта маеш перад сабой нейкага канкрэтнага прататыпа, але ёсць і вобразы абагульненага плана, у якіх увасоблены рысы многіх людзей, каго я ведаў, з кім сустракаўся ў розных абставінах. Усё залежыць, як кажуць, ад самой задумы. Відаць, прымальныя абодва прынцыпы адбору фактычнага матэрыялу. І ў Сасноўскага ёсць свой прататып, і ў Забаўскага...

**— Вы, Іван Пятровіч, пісьменнік партыйнай тэмы ў самым шырокім разуменні гэтага вызначэння. Вось і хочацца спытаць, якім вы ўяўляеце сабе ідэал сённяшняга камуніста.**

— Над самім паняццем ідэал камуніста я шмат задумваўся, калі працаваў над раманам «Петраград—Брэст», ствараў вобраз Уладзіміра Ільіча Леніна, паказваў яго саратнікаў, раскрываў тую барацьбу, якую даводзілася весці ленінцам у суровых умовах паслярэвалюцыйных гадоў. Ленін — вось ідэал камуніста. На ўсе часы. Для ўсіх. Прыклад для кожнага. У яго трэба вучыцца прынцыповасці, мэтанакіраванасці, уменню аддаваць усе свае сілы народу. Наша партыя вырасціла мільёны прынцыповых, сумленных камуністаў, якія ўвасабляюць сабой усё тое лепшае, што выхавана ў чалавеку перамогай сацыялістычнай рэвалюцыі, новым савецкім ладам жыцця.

**— Вы падкрэслілі, што кожны пісьменнік павінен лічыць сваім галоўным абавязкам ствараць праўдзівыя і пераканаўчыя вобразы камуністаў. Але ці не здаецца вам, Іван Пятровіч, што маладзейшыя пісьменнікі не надта смела бяруцца за паказ у сваіх творах і камсамольцаў, і камуністаў?**

— Маладыя пісьменнікі не

**ПОСТУП ТЫДНЯ**

# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ

## аб Пленуме Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза

**18 лютага 1986 г. адбыўся Пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**Пленум абмеркаваў наступныя пытанні:**

**1. Аб Палітычным дакладзе Цэнтральнага Камітэта КПСС XXVII з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**2. Аб асноўных выніках агульнапартыйнага і агульнанароднага абмеркавання праекта новай рэдакцыі Праграмы КПСС і ўнясенні яго на разгляд XXVII з'езда КПСС.**

**3. Аб выніках абмеркавання змяненняў у Статуце КПСС і ўнясенні праекта змененага Статута партыі на разгляд XXVII з'езда КПСС.**

**4. Аб дакладзе XXVII з'езду КПСС аб Асноўных напрамках эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1986—1990 гады і на перыяд да 2000 года.**

**5. Аб выніках усенароднага абмеркавання праекта «Асноўныя напрамкі эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1986—1990 гады і на перыяд да 2000 года» і ўнясенні гэтага праекта на разгляд XXVII з'езда КПСС.**

**Па гэтых пытаннях заслуханы даклады таварышаў Гарбачова М. С. і Рыжкова М. І. Пленум адобрыў прадстаўленыя даклады, праекты новай рэдакцыі Праграмы КПСС, зменeнага Статута партыі і Асноўных напрамкаў і прыняў рашэнне ўнесці гэтыя дакументы на разгляд маючага адбыцца XXVII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**На Пленуме разгледжаны арганізацыйныя пытанні.**

***Пленум выбраў т. Ельцына Б. М. кандыдатам у члены Палітбюро ЦК КПСС і вызваліў яго ад абавязкаў сакратара ЦК КПСС у сувязі з пераходам на работу ў Маскоўскі гарадскі камітэт партыі.***

**Пленум вызваліў т. Грышына В. В. ад абавязкаў члена Палітбюро ЦК КПСС у сувязі з выхадам на пенсію.**

**Пленум вызваліў т. Русакова К. В. ад абавязкаў сакратара ЦК КПСС у сувязі з выхадам на пенсію па стану здароўя.**

**На гэтым Пленум ЦК КПСС закончыў сваю работу.**

# НА АРБІЦЕ—СТАНЦЫЯ «МІР»

**У адпаведнасці з праграмай даследавання касмічнай прасторы 20 лютага 1986 года ў Савецкім Саюзе зроблен запуск арбітальнай навуковай станцыі «Мір».**

**Станцыя «Мір» аснашчана новай сістэмай стыкоўкі з шасцю стыковачнымі вузламі і з'яўляецца базавым блокам для пабудовы шматмэтавага пастаянна дзеючага пілатуемага комплексу са спецыялізаванымі арбітальнымі модулямі навуковага і народнагаспадарчага прызначэння.**

**Цяпер у калязямной касмічнай прасторы функцыяніруюць дзве савецкія арбітальныя станцыі «Мір» і «Салют-7». Паводле даных тэлеметрычных вымярэнняў, бартавыя сістэмы абедзвюх станцый працуюць нармальна.**

**Кіраванне палётам станцый «Мір» і «Салют-7» і апрацоўка паступаючай інфармацыі ажыццяўляюцца падмаскоўным цэнтрам кіравання з дапамогай станцый сачэння, размешчаных на тэрыторыі Савецкага Саюза, і навукова-даследчых суднаў Акадэміі навук СССР.**

***Запуск арбітальнай навуковай станцыі «Мір», ажыццёўлены ў гонар XXVII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, з'яўляецца новым крокам у асваенні касмічнай прасторы.***

Паводле паведамлення ТАСС.

# КІНЕМАТАГРАФІСТЫ—З'ЕЗДУ

**У адным са сваіх выступленняў Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў сказаў: «Час патрабуе напружанай, творчай работы ўсіх партыйных арганізацый з верху да нізу. На ўсіх участках, скрозь і ўсюды камуністы павінны быць прыкладам выканання грамадзянскага абавязку, добрасумленнай працы на карысць грамадства, паўсюдна сцвярджаць ленінскі стыль у рабоце». Словы гэтыя падказалі назву поўнаметражнага каляровага дакументальнага фільма аб'яднання «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм» — «Час патрабуе», які беларускія кінадакументалісты прысвячаюць XXVII з'езду КПСС.**

**Стужка, створаная рэжысёрамі В. Сукманавым і У. Цеслюком, расказвае аб тых зменах, якія адбыліся ў жыцці савецкага грамадства ў апошні час.**

**У мінулы чацвер фільм быў паказаны журналістам, пасля чаго адбылося абмеркаванне гэтай стужкі, якая, па аднадушным меркаванні выступіўшых, стала важкім творчым падарункам аб'яднання партыйнаму форуму.**

**В. ЛІСАЎ.**

# «МАЛАДЫЯ — МАЛАДЫМ»

**Пад такім дэвізам адбыўся ў Доме літаратара вечар, прысвечаны XXVII з'езду КПСС. Маладыя пісьменнікі сустракаліся з маладымі чытачамі — рабочымі, студэнтамі. Пра час і пра сябе гаварылі на вечары А. Емяльянаў, А. Пісьмянкоў, Л. Паўлікава, У. Марук, Х. Лялько, У. Арлоў. Яны прачыталі свае вершы, урыўкі з празаічных твораў. В. Спрынчан прапанаваў прысутным свае пераклады. Прамоўцы адказалі на пытанні слухачоў.**

**Ад сумежных відаў мастацтва на вечары выступілі кампазітар М. Марозава і артыст Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы Г. Давыдзька.**

**Маладых літаратараў вітаў сакратар ЦК ЛКСМБ М. Самафалаў. Ён уручыў ім Ганаровыя граматы камсамола рэспублікі.**

**Вёў гэтую задушэўную сустрэчу старшыня камісіі па рабоце з маладымі СП Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы Янка Сіпакоў.**

*Л. ЮРЧЫК.*

ахвотна бяруцца за стварэнне вобразаў камуністаў? Думаю, кідаць такія папрокі не трэба. Я не сумняваюся: кожны з маладых хоча напісаць такія вобразы, разумее, наколькі гэта важна для літаратуры, для чытача, які чакае сустрэч з жывымі паўнакроўнымі чалавечымі характарамі. Але не ў кожнага аўтара ёсць належны вопыт. І не толькі жыццёвы, а і творчы. Далёка не кожны з іх меў магчымасць назіраць за работай партыйных работнікаў, як, скажам, прадстаўнікі майго пакалення, якія прайшлі вайну, пражылі доўгае жыццё, некаторыя самі працавалі ў партыйных і камсамольскіх органах.

Нельга не згадаць Андрэя Макаёнка, які быў сакратаром гаркома камсамола, працаваў у райкоме партыі, журналістам, галоўным рэдактарам часопіса... А Іван Навуменка? Быў падпольшчыкам, ваяваў у партызанскім атрадзе, потым у дзеючай арміі. Пасля вайны вучоба, якая падняла яго вунь да якіх званняў — прафесара, акадэміка! Праца ў рэдакцыі абласной газеты, пазней — у «Звяздзе». Гэта ўсё звязвала будучага пісьменніка, вучонага з паўсядзённым жыццём, з работай, у прыватнасці, партыйных гаспадарчых органаў, давала магчымасць штодня сустракацца з партыйнымі, савецкімі работнікамі, якія праз пэўны час сталіся прататыпамі герояў твораў. Сённяшнія ж маладзейшыя пісьменнікі ў пераважнай большасці падобнай жыццёвай школы не прайшлі.

Але многія з іх паспяхова падыходзяць да раскрыцця вобразаў камуністаў. Маю на ўвазе найперш маладых празаікаў, якія — упэўнены — і ў далейшым будуць паспяхова працаваць над асваеннем гэтай самай адказнай і высакароднай тэмы. Бо паказваць наша жыццё — сучасны калгас, саўгас, буйное прадпрыемства, навукова-даследчы інстытут і не звяртацца да вобразаў камуністаў, значыць адыходзіць ад самой праўды рэчаіснасці, у пэўнай меры спрашчаць яе паўсядзённыя праблемы.

**— Сімвалічна што партыйныя і пісьменніцкія з'езды па часе правядзення амаль супадаюць. Адбываецца мабілізацыя яшчэ нявыкарыстаных не толькі вытворчых, але і творчых сіл. У сувязі з гэтым, Іван Пятровіч, крыху пра задачы работнікаў слова, пісьменнікаў. Якімі вы ўяўляеце іх сабе ў сувязі з тымі зменамі, што адбываюцца ў апошні час у жыцці ўсяго савецкага грамадства?**

— Хочацца спадзявацца, што размова на нашым рэспубліканскім пісьменніцкім з'ездзе, які адбудзецца ў канцы красавіка, будзе прынцыповай і аб самым істотным, важным. Гэтае ж істотнае заключаецца ў тым, што цяпер, як, бадай, ніколі раней, літаратары павінны адчуваць сябе ідэалагічнымі байцамі, якія ў адказе, можна сказаць, за лёс усяго чалавецтва. Трэба пісаць творы, якія б абуджалі грамадскую думку, актывізавалі яе. Трэба няспынна весці жывы, гарачы, зацікаўлены дыялог з чытачом. Трэба пісаць творы, якія чыталі б. Нельга абыякава адмахвацца ад таго, што чытацкая цікавасць да нашых паэм, раманаў, аповесцей, вершаў, апавяданняў зніжаецца. Гэта важнейшая прафесійная праблема, якая слаба вывучаецца — што трэба чытачу ў наш час?!

**— Напярэдадні партыйнага з'езда кожны камуніст трымае сваю асабістую справаздачу. Але ж камуніст-кіраўнік трымае яшчэ справаздачу і за калектыў, які ён узначальвае. Вы — галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Раскажыце, з якімі набыткамі калектыў выдавецтва ўступіў у дванаццатую пяцігодку?**

— Наша выдавецтва маладое, яму не споўнілася яшчэ і дваццаці гадоў. Але яго работа — выданне энцыклапедый, універсальных і галіновых — дае права сказаць, што зроблены значны ўклад у нацыянальную культуру. Не сакрэт, што многія высокаразвітыя краіны яшчэ не маюць сваіх шматтомных энцыклапедый. У нас жа ў рэспубліцы за час існавання энцыклапедычнага выдавецтва выпушчана больш за сто тамоў энцыклапедычнай літаратуры.

Працягваецца работа над чарговымі тамамі «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва». Завяршаецца выданне пяцітомнай «Энцыклапедыі прыроды Беларусі». Сёлета выходзіць унікальная энцыклапедыя «Янка Купала». Такіх даведнікаў у краіне вельмі мала — выйшлі толькі шаўчэнкаўская і лермантаўская энцыклапедыі. Прыйдуць да чытача чарговыя тамы Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, падрыхтавана сумесна з Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР.

Вядзецца работа над другім выданнем «БелСЭ» — яна будзе не дванаццаці, а чатырнаццацітомнай. Рыхтуецца «Энцыклапедыя маладой сям'і», энцыклапедычныя даведнікі «Бульба», «Лён», «Георгій Скарына». Адным словам, планаў і задум надзвычай шмат, работа цікавая.

**— Поспехаў вам, Іван Пятровіч, у вашай шматграннай дзейнасці!**

Інтэрв'ю ўзяў
**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# ПЯРО ЖАР-ПТУШКІ



Хто з нас у дзяцінстве не чуў казку пра жар-птушку? Хто не марыў злавіць яе, мець яе цудоўнае залатое пяро?

Мроіў пра сваю жар-птушку і Яўген Ковель. Яна, гэтая мара, і павабіла сельскага хлапчука на сталёвыя магістралі. Скончыў школу і падаўся ў Мінск на вучобу ў тэхнічнае вучылішча чыгуначнікаў. Пасля яго памочнікам машыніста прызначылі. Нялёгкая гэтая праца. Аднак у роспач не падаў. Увіхаўся, стараўся, вопыту набіраўся.

— Злаўлю сваю жар-птушку, — жартаваў.

І лавіў. Памагаў яму ў гэтым Леанід Іванавіч Гук. Першы машыніст Ковеля, першы настаўнік. Як за сынам наглядаў, за сваім памочнікам. І добрым словам падтрымае, калі трэба, і паўшчувае, калі ўбачыць прамашку. Што ні кажыце, сапраўдны педагог. Пазней, калі ў Яўгена Мікалаевіча з'явіліся свае вучні (а іх было багата), ён заўсёды думаў: «А як на маім месцы зрабіў бы Леанід Іванавіч?» Так і вучыў маладзейшых. І таксама добра атрымлівалася. Анатоль Ермалкевіч, Міхаіл Плакса, Сяргей Рыльцоў з удзячнасцю будуць успамінаць «ковельскую акадэмію»: машыністамі сталі пасля яе.

Але гэта было крыху пазней, пасля таго, як Яўген Мікалаевіч сам добрую навуку прайшоў. Адслужыў у радах Савецкай Арміі на граніцы, павучыўся ў Гомельскай дарожна-тэхнічнай школе і на курсах машыніста, скончыў Маскоўскі чыгуначны тэхнікум.

Вось тады і даручылі яму вадзіць цяжкія грузавыя саставы.

А неўзабаве і загаварылі пра яго ў дэпо, у прыклад пачалі ставіць. Маўляў, любіць свой цеплавоз, заўсёды графік вытрымлівае, эканоміі паліва дабіваецца. Слоў на вецер не кідае.

— Які сакрэт у цябе?—пыталіся сябры.

— А ў мяне пяро ёсць,—адказаў.

— Якое?

— Залатое. Жар-птушкі, — адкажа і засмяецца.

Праўда, нікому не гаварыў, колькі часам поту праліць даводзіцца, каб не «ламаўся» той графік. Вось, скажам, як было ў адным з рэйсаў. Вёў ён тады цяжкі састаў на Баранавічы. Справа звычайная: стаіць ля пульта кіравання, назірае за паказаннямі розных прыбораў. Але што гэта? Штосьці нервуюцца стрэлкі. Ага, так і ёсць. Не працуе задняя секцыя цеплавоза. Паспрабуем на пярэдняй пераадолець пад'ём ля Гарадзеі. Ну, цеплавоз, ну, малайчына, не падвядзі! Надзейны сябра не падкачаў, на ладнай хуткасці ўскочыў на той пад'ём. Але ж на адной секцыі далёка, як кажуць, не паедзеш. Спыняцца для рамонту нельга: «паламаеш» графік, створыш аварыйную сітуацыю. І тады машыніст і яго памочнік на хаду пачалі рамантаваць заднюю секцыю цеплавоза. Яны не прыкмецілі, колькі часу ім спатрэбілася на праверку розных рэле, блакіровак, запуск рухавіка. Але ў Баранавічах іх сустракалі дакладна мінута ў мінуту.

Заданне адзінаццатай пяцігодкі па аб'ёме перавозачных работ машыніст Я. Ковель выканаў датэрмінова. Яго калегі з дэпо бралі слова адпрацаваць два дні на зберажоным паліве. Яўгену Мікалаевічу падалося гэтага мала: пяць дзён вадзіў на той «эканоміі». Ды яшчэ ў гонар 40-годдзя Вялікай Перамогі правёў бясплатны рэйс.

Не вельмі любіць хваліцца Ковель пра свае поспехі. Затое іншыя пра яго цэлы мех могуць расказаць. І таварышы па рабоце, і кіраўнікі лакаматыўнага дэпо. І пра тое, што ён ударнік камуністычнай працы, і што мае ордэн Працоўнай Славы трэцяй ступені. Раскажуць пра яго таварыскасць, працалюбства, прафесійнае майстэрства, грамадскую актыўнасць. Яўген Мікалаевіч Ковель—дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі і, трэба сказаць, давер выбаршчыкаў апраўдвае з гонарам.

А колькі часу назад прывёў ён пасажырскі цягнік Вільнюс — Мінск, зайшоў у дэпо, сустрэў сваіх калег. Тыя пачалі віншаваць яго. Маўляў, вялікі давер табе аказаны, паедзеш дэлегатам на XXVII з'езд КПСС, будзеш рашаць важныя партыйныя і дзяржаўныя справы.

— Шанцуе ж табе,—сказаў хтосьці.

— Безумоўна. Пяро жар-птушкі дапамагае.

— Пакажы!

— Вось яно.

І Яўген Мікалаевіч працягнуў рукі. Працавітыя, мазолістыя, рабочыя рукі...

**А. АСТРЭЙКА.**

## *ПРАЦАЎНІКАМ ВЁСКІ*

**У чарговы раз агітацыйна-мастацкія брыгады вышэйшых навучальных устаноў сталіцы рэспублікі правялі рэйд па абслугоўванні аддаленых і маланаселеных вёсак Мінскай вобласці.**

**Народная брыгада інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі была госцем працаўнікоў Случчыны, дзе знаёміла аматараў мастацтва з аглядам «Людзі, будзьце пільнымі». Агітбрыгада БДУ імя У. І. Леніна праграму «Песня, апаленая вайной», паказала хлебаробам Любанскага раёна. «Партыйнаму з'езду — сэрцы і справы» — тэма выступлення агітацыйна-мастацкай брыгады факультэта іспанскай мовы інстытута замежных моў перад жыхарамі Крупскага раёна. Дарэчы, з гэтай навучальнай установы яшчэ два калектывы прынялі ўдзел у рэйдзе.**

**Змястоўныя праграмы паказалі працаўнікам вёскі агітбрыгады кансерваторыі, педагагічнага, політэхнічнага, тэхналагічнага інстытутаў.**

**Я. КУВАЛІН.**

## ПАМЯЦЬ ГЭТАЯ—ВЕЧНАЯ!







**У адзіным страі барацьбітоў супраць фашызму ішлі ў гады Вялікай Айчыннай вайны і беларускія пісьменнікі. Яны змагаліся ў дзеючай арміі і партызанскіх атрадах, былі падпольшчыкамі. Дваццаць шэсць з іх не дажылі да светлага дня Перамогі. Цяпер імёны загінуўшых залатымі літарамі напісаны на новай мемарыяльнай дошцы, якая была ўрачыста адкрыта ў аўторак у Доме літаратара.**

**— Знамянальна, — гаворыць, звяртаючыся да прысутных, старшыня ваенна-шэфскай камісіі СП БССР, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Л. Проншa, — што ўшанаваць памяць таварышаў па пяру мы сабраліся напярэдадні вялікага Свята — Дня Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту. Усе загінуўшыя былі салдатамі мінулай вайны і памяці аб іх вечна жыць у нашых сэрцах, у сэрцах шматмільённай арміі чытачоў.**

**Права адкрыць дошку прадастаўляецца старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэату Ленінскай прэміі, Герою Сацыялістычнай Працы Максіму Танку.**

**Паволі спаўзае белае палотнішча. На мармуры факел, які палае з гільзы, бы асвятляе чырвоную пяцікутную зорку, і словы: «Пісьменнікам Савецкай Беларусі, якія загінулі ў змаганні за Радзіму ў дні Вялікай Айчыннай вайны». Унізе ідуць прозвішчы, год нараджэння і год гераічнай гібелі. Дваццаць шэсць прозвішчаў. Такіх блізкіх і дарагіх кожнаму, хто любіць беларускую літаратуру, родны край. Завяршаецца гэты спіс словамі: «Вечная слава гераічным сынам Радзімы!»**

**Мітынг працягваецца. Ад імя воінаў і афіцэраў Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі выступае намеснік начальніка палітаддзела БВА, генерал-маёр, пісьменнік А. Сульянаў. Словы ўдзячнасці тым, хто аддаў сваё жыццё за светлы дзень Радзімы, гавораць П. Прыходзька, Р. Няхай, П. Пруднікаў, Я. Садоўскі, настаўніца СШ № 150 г. Мінска Д. Гальпер.**

**Гучаць вершы, прысвечаныя літаратарам-героям. І як паэтычная эстафета ўспрымаюцца іх творы, якія чытаюць А. Вярцінскі, Г. Булыка, Л. Драньно-Майсюк: бы знаходзяцца ў зале З. Астапенка, А. Жаўрук, А. Коршак, Л. Гаўрылаў, М. Сурначоў — паэты, якім, як і іншым загінуўшым літаратарам, вечна жыць і ў літаратуры, і ў памяці народа.**

**У. КУДРЭВІЧ.**

РЭПАРТАЖ У НУМАР

ПАВОЛІ гасне святло, аціхае шум залы. І цішыню кранаюць гукі добра знаёмай песні. У паўзмроку сцэны разгараецца пунсовы ўзор вышываных ручнікоў, высвечваецца прасніца, ля яе жанчына ў даматканым беларускім строі. І вось ужо ў крузе кінаэкрана паплылі родныя краявіды: нёманскія затокі і далі, хвалі спелай збажыны, сонечна-цёплыя сасновыя бары, і гэтаксама павольна, як бусліны ўзлёт, узняўся над залай напеў «Спадчыны»...

Так штовечар у Маскве, у Дзяржаўнай цэнтральнай канцэртнай зале «Россия» пачынале — разбітая снарадам цагляная сцяна. У пругкай цішыні залы гучаць вершы Роберта Раждзественскага пра абаронцаў Брэста. Песні «Памяць сэрца» (яе выконвае маскоўскі спявак Павел Кравецкі), «Ліст з 45-га», «Майскі вальс» (дынамічна, ярка іх спявае Яраслаў Еўдакімаў) пераходзяць ва ўрачыстыя гукі салюта. І вось — кампазіцыя «Хатынь» (выканаўцы ансамбль «Песняры» і Вялікі дзіцячы хор Цэнтральнага тэлебачання і Усесаюзнага радыё). Створаная для гэтага вечара на аснове песень «Салаўі Хатыні» і «Хатынь», яна гучыць гімнам адроджанай зямлі...



# Сем канцэртаў у «России»

ліся аўтарскія канцэрты народнага артыста Беларускай ССР кампазітара Ігара Лучанка. (Праходзілі з 1 па 6 лютага). Зусім непадобныя былі яны на традыцыйныя кампазітарскія справаздачы: іх можна вызначыць як своеасаблівыя тэатралізаваныя прадстаўленні. Гэта быў тэатр песні! Арганічна спалучыліся тут творы розных гадоў: і даўнія, што прызнаны ўжо «лучанкоўскай класікай», і апошнія, прадстаўленыя тут як песенныя прэм'еры. У суладдзі добра знаёмага і новага паўней раскрывалася і творчая асоба кампазітара, і шляхі яго пошукаў у такім папулярным і нялёгкім жанры — песні.

Першае аддзяленне канцэрта ўспрымалася як маналог мастака пра свае вытокі. Напачатку песні «Спадчына», «Мой родны кут», «Добры вечар, дзяўчыначка», «У нядзелечку спапаненечку», якія выконваў ансамбль «Песняры», песні «Верасы», «Світанак» у выкананні В. Кучынскага, Г. Галенды і У. Кудрына. Затым эмацыянальна-вобразны цэнтр — з'яднаныя ў своеасаблівы цыкл песні пра мінулую вайну.

...На кінаэкране карта Беларусі. Загараецца буйнымі літарамі: «Мінск», «Брэст». Паволі праходзіць па сцэне жанчына са свечкай. У трапяткім святле

А зараз — кароткае інтэрв'ю рэжысёра гэтай канцэртнай праграмы Любові Грачышнікавай.

**— Наша канцэртная зала — адна з самых буйных у Саюзе, наведваюць яе госці Масквы і замежныя турысты. Задача наша — знаёміць іх з мастацтвам краіны, прычым, складаць праграмы так, каб гэта быў не проста «парад выканаўцаў», а музычны спектакль. Памятаеце, не так даўно адбыўся ў «России» творчы вечар Раймонда Паулса, праходзілі канцэрты «зорак» савецкай эстрады. А на гэты канцэртны сезон запланаваны вечары вядомых кампазітараў-песеннікаў краіны, у тым ліку Ігара Лучанка.**

**Раней я чула ягоныя песні, але вось давялося сустрэцца з ім, папрацаваць з яго музыкай. Я праслухала мноства песень Лучанка. І ведаеце, чым мяне ўразіла гэтая музыка? Дабрынёй! Яе мог стварыць чалавек, які любіць людзей і які многае можа сказаць людзям. Мы так і назвалі нашу праграму: «І пакуль на свеце існуе любоў».**

...«І пакуль на свеце існуе любоў» — гэта адна з нядаўніх песень І. Лучанка, напісаная на вершы Р. Раждзественскага. У фінале канцэрта яе выконваў Іосіф Кабзон. Яна гучала як творчае крэда мастака, ягоная споведзь перад слухачамі. А матыў гэтай песні быў своеасаблівай лейттэмай другога аддзялення. На яе фоне лunалі пранікнёныя радкі Максіма Танка, Роберта Раждзественскага, Нэлы Тулупавай (чытала вядучая канцэрта Зінаіда Бандарэнка); яна зітавала песняроўскі цыкл пра беларускіх мадонн (песні «Алеся», «Вераніка», «Зачараваная мая», «Кветка шчасця») і «Баладу пра Віктара Хару», лірычныя песні «Ростань», «Высокія зоркі», «Заклінанне» і новыя, напісаныя для гэтага вечара. Выходзілі на сцэну выканаўцы: ансамбль «Песняры», салісты Леў Лешчанка, Іосіф Кабзон, Яраслаў Еўдакімаў, Валерый Кучынскі. За раялем — Ігар Лучанок...

Штовечар панавала ў зале жывая святочная атмасфера, суладдзе музыкі, сцэнаграфіі, святла. У гэткім прыўзнятым настроі праходзілі і дзённыя рэпетыцыі. Звычайна першымі з'яўляліся на сцэне артысты эстраднага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Зноў і зноў «шліфаваліся» пэўныя фрагменты; рэжысёр карэкціраваў светлавую партытуру канцэрта. Рэпеціравалі і салісты.

Першая рэпетыцыя Льва Лешчанкі пачалася за некалькі гадзін да канцэрта. Спявак лёгка ўвайшоў у кантакт з аркестрам; удакладняліся тэмпы песень, падбіраліся светлавыя эфекты. Пасля рэпетыцыі мы пагутарылі са спеваком. Вось ягоныя ўражанні:

**— Што мяне кранае ў песнях Лучанка? Іх юнацкая шчырасць і нацыянальныя вытокі. Мне здаецца, у яго песнях я адчуваю наогул беларускую музыку — такую шчырую, натуральную, непасрэдную. Я спяваю многа песень розных аўтараў, і ягоныя песні непадобныя ні на чые. Лучанок адчувае слова, драматургію верша, яго песні, калі можна так сказаць, «зручна спяваць», а гэта важна для вакаліста.**

**Упершыню прымаю ўдзел у яго аўтарскім вечары, але і раней спяваў яго песні. Для сённяшняга канцэрта выбраў песні, блізкія маёй творчай манеры: «Ростань» і дзве новыя «Толькі б любіць» і «Танга нашага юнацтва». І яшчэ: нечаканна радаснай аказалася для мяне праца з вашым эстрадным аркестрам. Я паставіў бы яго побач з лепшымі эстраднымі аркестрамі краіны.**

Дарэчы, на долю аркестра пад кіраўніцтвам М. Фінберга прыйшлося 25 з 36 нумароў праграмы. Калектыў склаўся з артыстаў аркестра Мінскага дзяржаўнага цырка і групы скрыпачоў Беларускай кансерваторыі. Ён выступіў як чулы акампаніятар салістам, выканаў эстрадныя п'есы І. Лучанка (саліравалі аўтар і лаўрэат Усесаюзнага конкурсу трубач Валерый Шчарыца). Пасля канцэртаў маскоўскія музыканты, крытыкі, супрацоўнікі радыё і тэлебачання, віншуючы аркестрантаў, са здзіўленнем даведваліся, што ў нас у рэспубліцы дагэтуль няма канцэртнага эстраднага аркестра, і кожнае такое выступленне трымаецца на прафесіяналізме і добрай волі музыкантаў. А для іх выступленне ў «России» было сапраўднай падзеяй...

Горача прымала зала нашых «Песняроў», заслужаных артыстаў БССР Яраслава Еўдакімава, Валерыя Кучынскага, маладую спявачку Таццяну Арлоўскую. Адкрыццём канцэрта сталі дэбютанты Масквы, салісты Беларускай дзяржаўнай філармоніі Галіна Галенда і Уладзімір Кудрын. А ці часта ўбачыш гэтыя імёны на мінскіх афішах? Хутчэй трапіш на канцэрты вандроўных «рок-птушак», чым беларускіх эстрадных выканаўцаў. Творчыя сілы нашай беларускай эстрады — адны з вядучых у краіне, вось толькі не хапае часам прафесійнай, сучаснай рэжысуры, увагі і пашаны з боку сваіх жа ўстаноў культуры.

Тыя выступленні ў зале «Россия» сталі падзеяй не толькі для кампазітара, а і для беларускіх артыстаў, і для тых, напэўна, хто пабываў на канцэртах. (Дарэчы, яшчэ ў першы дзень ля касы вісела шыльда «Усе білеты прададзены»). Пасля канцэрта мінскія карэспандэнты звярталіся да гледачоў, цікавіліся іх уражаннямі і чулі ў адказ: «Дзякуй вам, беларусам! Паслухалі вашы песні і быццам у вас у гасцях пабывалі. Захацелася прыехаць да вас у рэспубліку!»

Застаецца дадаць, што канцэрт гэты быў запісаны Усесаюзным радыё і Цэнтральным тэлебачаннем. Неўзабаве яго пачуе і ўбачыць шматмільённая аўдыторыя краіны.

Людміла МІТАКОВІЧ.

Фота В. ОСІПАВА.

# ШЧОДРАСЦЬ ТАЛЕНТУ



**Агата ў купалаўскай «Паўлінцы», Паўліна Бохан у «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы, Наталля Коўшык у «Калінавым гаі» А. Карнейчука, Карміліца ў «Рамэа і Джульеце» У. Шэкспіра, Белацелава ў «Жаніцьбе Бальзамінава» А. Астроўскага — гэта далёка не поўны пералік нават самых адметных сцэнічных роляў Веры Пола, актрысы яркай творчай індывідуальнасці, бліскучага камедыйнага майстэрства. Вучаніца Е. Міровіча, яна ўсё сваё жыццё звязала з Акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы.**

**Юбілейны вечар, прысвечаны 85-годдзю лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, народнай артысткі рэспублікі В. Пола, адбыўся ў рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў. Слова пра актрысу сказаў кандыдат мастацтвазнаўства А. Лабовіч. Веру Мікалаеўну горача віталі калегі-купалаўцы, прадстаўнікі тэатральнай грамадскасці рэспублікі.**

**П. ГАРДЗІЕНКА.**

# Экзамен трымала паэзія

**Радкі, вынесеныя на вокладку запрашальнага білета, гаварылі:**

Дзве мовы ў мяне —  
жыцця майго асновы.  
Мне іх не раз'яднаць,  
як рэчышча крыві.  
Они слились во мне  
Ў паток адзінай мовы —  
адзінай мовы братства і любві.

**Сапраўды, дзве мовы аднолькава блізкія, зразумелыя і дарагія вядомаму празаіку, паэту і перакладчыку Валянціну Тарасу і на абедзвюх з іх ён напісаў нямала цікавых твораў. У Доме літаратара ў мінулую пятніцу трымала экзамен яго паэзія — тут адбыўся творчы вечар паэта.**

**Прадставіўшы В. Тараса ўдзельнікам сустрэчы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Рыгор Барадулін пакінуў, як кажуць, яго адзін на адзін з зацікаўленай залай. Ён адразу ж знайшоў агульную мову. І тады, калі чытаў пераклады класікаў беларускай паэзіі і сучасных аўтараў на рускую мову, і калі чытаў уласныя вершы.**

**Прысутныя змаглі пазнаёміцца і з іншымі аспектамі творчасці В. Тараса. У прыватнасці, быў паказаны фільм «Неверагодная смерць», зняты на кінастудыі імя Аляксандра Даўжэнкі па апавяданні пісьменніка, а таксама стужка «Праз усю вайну», якая знаёміць з праграмай вакальна-інструментальнага ансамбля «Песняры», падрыхтаванай В. Тарасам па творах вядомых паэтаў. У яе, як вядома, увайшлі і песні, напісаныя на словы самога В. Тараса.**

**П. ЛУКАШОЎ.**



**ЧЫТАЦКІ ДЗЁННІК ПІСЬМЕННІКА**

# Тры аўтографы, тры кругі гісторыі

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

Гэтыя тры кнігі выйшлі летась у выдавецтвах, што знаходзяцца ў розных, аддаленых геаграфічна канцах нашай краіны і носяць, натуральна, розныя назвы («Ірфон», «Карэлія», «Мастацкая літаратура»). Яны розныя ў жанравых і тэматычных адносінах (зборнік паэзіі і прозы, гістарычная аповесць, кніга-паэма). Але атрымалася так, што ўсе яны трапілі мне ў рукі амаль адначасова, прачытаў я іх адну ўслед за другою і ўсе яны, аказалася, маюць, кожная па-свойму, беларускую «прывязку». І мне захацелася б сказаць пра іх, хоць бы коратка, у нашым друку.

Зрэшты, раскажу, для яснасці, усё па парадку.

Калі едзеш у літфондаўскі Дом творчасці і адпачынку (так ён называецца афіцыйна), то маеш звычайна нейкі план, у тым ліку і прыкідку наконт таго, што там, больш вольнай часінай, трэба будзе прачытаць (дачытаць адкладзенае раней з-за недахопу часу, пазнаёміцца з часопіснай навінкай і г. д.). Гэтак было і на гэты раз, у канцы мінулага года, калі збіраўся ў Дом творчасці, вядомы ў пісьменніцкім асяродзі пад назваю «Дубулты» (назва пасёлка ў г. Юрмале, што на Рыжскім узмор'і). Была даволі пэўная намётка адносна чытання—без спешкі, спакойнага, пад гул мора і пошум сосен на дзюне. Яна аказалася ў асноўным рэальнай. Але жыццё ўнесла істотныя карэктывы, дапоўніла яе. У Доме творчасці я сустрэўся зноў і пазнаёміўся на гэты раз бліжэй з таджыкскім паэтам Абдужаборам Кахары. Ён падарыў мне сваю новую кнігу. З цёплым сяброўскім аўтографам і такімі словамі: «Палавіна кнігі пра Беларусь. Я хацеў бы, каб ты прачытаў яе. Прачытаеш і ўбачыш, што значыць для мяне беларуская зямля».

Адно знаёмства цягне за сабой другое. Пры пасрэдніцтве Кахары я пазнаёміўся з яшчэ адным насельнікам Дома творчасці петразаводскім пісьменнікам Віктарам Пулькіным. Тут ужо прагучала амаль як пароль слова «Гаспадароў». Першым вымавіў яго Віктар Іванавіч.

— Гаспадароў? — перапытаў я, не адразу зразумеўшы, пра што ці пра каго ідзе размова. Удакладніў: — Вы пра казачніка?

— Ну так, — адказаў мой новы знаёмы. — Пра нашага агульнага, беларуска - рускага казачніка. Мы ў Карэліі адзначылі нядаўна стагоддзе з дня яго нараджэння. Добра было б, я думаю, сабрацца калі-небудзь разам у нейкім коле і пагаварыць пра гаспадароўскую спадчыну.

Да гэтай тэмы, да славутага народнага мудраца Піліпа Гаспадарова мы з Віктарам Пулькіным вярталіся потым не раз. Закраналі і іншыя тэмы. Шукаць іх не трэба было, яны знаходзіліся самі, бо, як высвятлялася, Пулькін бывае ў Беларусі, цікавіцца нашым фальклорам, знаёмы з Н. Гілевічам і А. Фядосікам. На развітанне ён падарыў—«з брацкім пачуццём, з запрашэннем у Карэлію» — сваю кнігу, пра якую да гэтага сціпла ўмоўчваў: «Пярун-трава. Аповесць пра казачніка Піліпа Гаспадарова». Сказаў яшчэ, што будзе працягваць працу над гэтай тэмай.

Так вось разам з колам знаёмстваў пашыралася кола майго чытання.

## Аўтограф першы «ЦЯБЕ ПОМНЯЦЬ»

Вызначальнай адзнакай кнігі Кахары «Цябе помняць», якая выйшла ў таджыкскім выдавецтве «Ірфон» у перакладзе на рускую мову, з'яўляецца тое, што гэта своеасаблівая творчая і грамадзянская справаздача пісьменніка да 40-годдзя Вялікай Перамогі. Кніга разнастайная ў жанравых адносінах, гэта зборнік паэзіі і прозы (ёсць і п'еса), твораў мастацкіх і дакументальных. Але ўсё гэта, напісанае ў розныя гады і ў рознай форме, аб'яднана адным і тым жа тэматычным і эмацыянальным пачаткам—непазбыўнай памяццю мінулай вайны, удзельнікам якой быў аўтар, то болем і трывогай, то гордасцю за здзейсненае, то клопатам пра лёс міру былога салдата, воіна-ветэрана. Мастак тут неаддзельны як ад асабістага, так і ўсенароднага вопыту змагання з фашысцкімі захопнікамі.

Другой адметнай асаблівасцю зборніка з'яўляецца тое, што ў ім дае знаць спачатку і да канца, у самых розных дачыненнях і перш за ўсё ва ўзаемасувязі з тэмай вайны тэма Беларусі. Яна пачынае гучаць з самых першых старонак кнігі, у прыватнасці з невялікага эсэ «Прэлюдыя», дзе паэт расказвае аб тым, як ён стаў паэтам. «Некалькі месяцаў, — успамінае ён, — мы змагаліся за вызваленне братняй Беларусі. Спалі проста на снезе ці прываліўшыся да камлёў дрэў, сырых, халодных сцен бліндажоў і акопаў. Наш салдацкі шынель быў для нас і падушкай, і матрацам, і коўдрай. Як часта ўспамінаў я мой сонечны Таджыкістан! Тут, у акопе, перад чарговай атакай я і напісаў верш, прысвечаны роднай рэспубліцы». У час адной з атак, расказвае далей Кахары, я быў цяжка паранены і кантужаны. Пасля працяглага лячэння прыехаў у родны гарадок Канібад. Аднойчы, ідучы па вуліцы, убачыў афішу аб прыбыцці ў гарадок ансамбля рубабістак. Вечарам у сваім, не раз прабітым шынялльку, на кастылях пайшоў на канцэрт. «Вядучы аб'явіў чарговы нумар: песню на словы сяржанта Абдужабора Кахары. Гэта быў верш «Таджыкістан», той самы, які я напісаў у акопе ў Беларусі»...

Беларуская зямля, на якой зусім юны яшчэ тады таджыкскі хлопец атрымаў двайное «хрышчэнне», як салдат і паэт, на якой праліў кроў і напісаў свае першыя вершы, зямля гэта стала для яго, як прызнаецца Кахары, другой радзімай. Яго цягне сюды, ён выкарыстоўвае кожную магчымасць, каб яшчэ раз прыехаць да нас, пахадзіць па Мінску, паездзіць па рэспубліцы, ну і, вядома, наведаць Віцебшчыну, у баях за вызваленне якой ён праліў кроў і якая, натуральна, асабліва запала ў яго сэрца. Беларускія ўражанні знайшлі адлюстраванне і ў яго кнізе, у прыватнасці ў нарысах «Самы шчаслівы дзень», «Рознакаляровыя дываны», «Званы Хатыні», «За гарызонтам дрэмле сонца», «Аб сябрах і Алесю Іванавічу» (у апошнім расказваецца аб сустрэчы з Алесем Махначом у Брэсцкай крэпасці). Шмат якія радкі гэтых фармальна празаічных твораў гучаць як песня, як узнёслая паэма, прасякнуты глыбокім паэтычным пачуццём—то тужлівым, жалобным, калі размова ідзе пра Хатынь, пра ахвяры мінулай вайны, то жыццярадасным, узвышаным у духу ўсходняй паэтыкі, калі апяваецца Беларусь сённяшняя.

Побач з гэтымі радкамі ў кнізе суседнічаюць і ўласна-паэтычныя, вершаваныя творы, навеяныя беларускімі ўражаннямі і назіраннямі. Наведваючы месцы былых баёў за вызваленне Гарадка, аўтар пачуў кранальны расказ пра партызана Колю-таджыка, аднаго, як ён кажа, з названых сыноў Беларусі. Паэт прысвячае свайму зямляку, беларускаму партызану пранікнёны верш «Цябе помняць», які даў назву ўсяму зборніку. «Сонца ў чамадане», «Дуб і сасна», «Комін», «Паясок»—другія творы, якія складаюць беларускі сшытак паэта. Кожны з іх цікавы па-свойму. А што датычыць верша-балады «Паясок», то апошні прываблівае ўвагу тым, што напісаны па матывах «Слуцкіх ткачых» Багдановіча і з'яўляецца своеасаблівай—і павучальнай, трэба сказаць, спробай паяднаць, сплавіць дзве нацыянальныя паэтычныя традыцыі. У адным са сваіх нарысаў Кахары расказвае пра унікальны дыван, які выткалі сумесна ткачыхі Віцебска і Кайракума і на якім розныя каляровыя гамы і арнаменты зліваюцца ў адным малюнку. Нешта падобнае нагадваюць і вершы нашага таджыкскага сябра, у прыватнасці балада «Паясок».

## Аўтограф другі «АПОВЕСЦЬ ПРА КАЗАЧНІКА Піліпа ГАСПАДАРОВА»

Я не паспеў распытаць у Віктара Пулькіна, як і калі ўзнікла ў яго задума напісаць пра выдатнага казачніка. Але справа ўвогуле ясная. Паспрыяў па ўсёй бачымасці біяграфічны момант. Прыезды Віктара Іванавіча ў Беларусь звязаны з тым, што яго жонка, вядомая ў Карэліі вучоны-фалькларыст, — беларуска па нацыянальнасці, родам са Жлобіна. Як вядома, адсюль жа, з вёскі Забабе, што пад Жлобінам, выйшаў і казачнік П. П. Гаспадароў. Другая верагодная перадумова—у характары літаратурна - творчай дзейнасці В. Пулькіна. Пасля заканчэння гісторыка - філалагічнага факультэта Петразаводскага універсітэта ім. О. В. Куусінена ён спалучае працоўную дзейнасць са зборам і вывучэннем вуснай народнай творчасці. Загадваючы навукова-даследчым аддзелам музея «Кіжы», В. Пулькін арганізоўвае і праводзіць этнаграфічныя экспедыцыі ў глыбінныя раёны Карэліі, сустракаецца з вясковымі музыкантамі-кантэлістамі, з носьбітамі традыцый народнага дойлідства Заанежжа, запісвае сказы, легенды, паданні. Потым і сам пачынае пісаць паводле матываў паўночна-рускага, карэльскага, вепскага, а часам і беларускага фальклору, стварае цыклы навел, напісаных у сказавай манеры. Цікавы факт: летась у канцэртных залах Масквы, Ленінграда і Петразаводска быў паказаны арыгінальны музычны твор для аркестра і спявачкі, створаны кампазітарам Г. Сядзельнікавым па сказу В. Пулькіна.

Так што, як бачым, зварот карэльскага літаратара да яркай постаці прадстаўніка вуснамоўнай народнай творчасці, імкненне ўзнавіць яго вобраз сродкамі гісторыка-мастацкага апавядання маюць пад сабой грунтоўную падставу.

Сваю аповесць В. Пулькін пачынае з расказу аб тым, як Піліп Гаспадароў надумаў пакінуць алонецкае сяло Шую, куды ён быў сасланы за ўдзел у сялянскім выступленні на радзіме, і перабрацца ў бліжэйшы горад Петразаводск. «В Петрозаводск пойду. В завод не возьмут ли? Срок моей ссылки кончился. Надо думать, как жить дале», — гаворыць Гаспадароў. Дзеянне адбываецца ў 1906 годзе—другім годзе першай рускай рэвалюцыі. Яе водгалас дайшоў і да глухіх куткоў Алонецкага краю. Шуеўскі рымар Сысой адгаворвае свайго «нездешнего обликом, крутолобого, с вислыми усами, широкоплечего постояльца»: «Что в городу-то в эдаку пору станешь делать, Филлип? Бунтуют заводские-то. Неспокойно в Петрозаводске...» Але тое, чым палохаюць, бунтоўнаму Гаспадарову якраз, падобна, па душы. І ён з сынам-малалеткам выпраўляецца пешкі ў горад. Там, у пошуках жытла і працы, сыходзіцца з рабочымі Аляксандраўскага завода, далучаецца да іх рэвалюцыйнай дзейнасці, да іх новай для яго маралі («Вместе мы сила, рабочий класс!»), і ў жыцці ўчарашняга беларускага селяніна пачынаецца, такім чынам, новая паласа. Адбываецца амаль так, як у адной з пазнейшых казак Гаспадарова: «Вось сустракаецца мужык з рабочым.

— Куды ідзеш?

— Праўду шукаць.

— Пойдзем разам».

Асноўны змест аповесці «Пярун-трава» і заключаецца, уласна кажучы, у паказе таго, як стыхійны бунтар, мужыцкі праўдашукальнік Піліп Гаспадароў засвойвае азы рэвалюцыйнай свядомасці, як у яго асобе выспявае новы тып казачніка, казачніка рабоча-сялянскага, як ідзе няпросты, часам пакутлівы працэс паяднання і ўзаемаапладнення старой як свет казкі з новай ідэалогіяй.

Перад аўтарам стаяла нялёгкая, несумненна, задача. Але ён з ёй, як мне здаецца, паспяхова справіўся: са старонак аповесці перад намі паўстае жывая, каларытная, выразна выпісаная як у рэальна-гістарычным, так і ў псіхалагічным плане постаць казачніка. Відавочна, што мастакоўскаму поспеху спрыялі, апрача ўсяго іншага, дзве істотныя акалічнасці. Першая — удала знойдзены стылістычны ключ, інакш кажучы — арганічнае валоданне аўтарам сказавай манерай апавядання. Казачнік пісаў казачніка. Ну і, канечне, робіць сваю станоўчую справу тая акалічнасць, што В. Пулькін не ўпускае ні на хвіліну з поля гледжання нацыянальнае паходжанне свайго героя (ён яго часта называе ласкава «беларусам»), тое сацыяльнае і прыроднае асяроддзе, з якога ён выйшаў. Яго Гаспадароў нават у сне спявае адну са сваіх любімых песень, пачутых у родным сяле. Аўтар выяўляе тонкае адчуванне беларускай мовы, добрае веданне тапанімікі і гісторыі нашага краю, у прыватнасці нашага Прыдняпроўя. Дзякуючы ўсяму гэтаму Гаспадароў паўстае перад намі не толькі як носьбіт пэўных фальклорных традыцый, але як і носьбіт традыцый нацыянальна-вызваленчай барацьбы народа, яго нацыянальнага характару. Апошняе выразна падкрэсліваецца пастаянным зваротам казачніка—праз успаміны дзяцінства, праз перанятыя ад аднавяскоўцаў казкі і легенды—да вобразу Яся-гаспадара, г. зн. Кастуся Каліноўскага. («С той поры, — чытаем у аповесці, — стало нам прозванье Господаревы, по Ясю-господарю»).

**Мы для братніх народаў**
**Бяздонныя**
**Верныя донары,—**

сказаў нядаўна ў сваім новым вершы, які так і называецца «Донары», Пімен Панчанка. Менавіта адным з такіх «донараў» стаў для братняга рускага народа і беларускі казачнік Піліп Гаспадароў. І закрываеш апошнюю старонку аповесці «Пярун-трава» з пачуццём удзячнасці да аўтара за зробленае ім.

## Аўтограф трэці «КУЛЬГА»

Сярод твораў, якія планаваў прачытаць абавязкова ў «Дубултах», была кніга, што выйшла ў свет адначасова з кнігамі Кахары і Пулькіна, але ўжо пад грыфам нашага выдавецтва «Мастацкая літаратура». Я маю на ўвазе выдадзеную асобным выданнем паэму Івана Ласкова «Кульга». Аўтар прыслаў мне яе па пошце з далёкага Якуцка — «на добры ўспамін, з пажаданнем новых вершаў і паэм». Гэта было якраз перад маім ад'ездам. Пагартаўшы паэму і адчуўшы, што гэта—з'ява, я так і напісаў аўтару: кніга, маўляў, заінтрыгавала і бяру яе з сабой у Дом творчасці ў якасці першачарговага чытання.

«Паэма ўваскрашае падзеі з часоў сярэднеазіяцкага эміра і палкаводца Тамерлана—Цімура Кульгавага. Паходы Тамерлана суправаджаліся разбурэннямі і вызначаліся страшэннай жорсткасцю да зняволеных народаў», — так прадстаўляецца чытачу твор у выдавецкай анатацыі. Калі зборнік Кахары нагадаў нам яшчэ свежыя ў памяці дні змагання з фашысцкай Германіяй, а дзеянне аповесці Пулькіна прымеркавана да часу Першай рускай рэвалюцыі, то паэма Ласкова пераносіць *нас на больш аддалены* ў часе гістарычны круг, аж у чатырнаццатае стагоддзе. Тры кнігі—тры кругі гісторыі.

Паэму «Кульга» мы чыталі, можна сказаць, удвух з Кахары. Справа ў тым, што калі я сказаў пра яе свайму таджыкскаму калегу, то ён праявіў да паэмы самую жывую цікавасць. Яго зацікавіла, у прыватнасці, з якой мэтай сучасны беларускі паэт звяртаецца да падзей далёкай сярэднеазіяцкай гісторыі, да тэмы Тамерлана, у якім святле паказвае яго. Бо *робяцца часам спробы*, гаварыў ён, ідэалізаваць асобу Цімура, шукаць станоўчыя бакі ў яго дзейнасці. Калі я сказаў, што паэма І. Ласкова якраз і завострана палемічна супраць такіх спроб, такога аб'ектывізму, што асноўны яе пафас заключаецца ў выкрыцці заганнай ідэалагічнай тэндэнцыі, згодна з якой (тут я прывёў радкі з паэмы)...

(Заканчэнне на стар. 6).

# «Кінула Люда, маніла Святлана...»

Першую кнігу маладога аўтара заўжды бярэш у рукі з хваляваннем. Хто ідзе ў родную літаратуру? З якім багажом? Не прапусціць, заўважыць першым жарынку сапраўднага таленту, а калі трэба, то і падтрымаць як-небудзь пры сустрэчы ці цёплым словам у друку — гэтыя думкі знаёмы кожнаму аматару прыгожай пісьменнасці. А тут, у калектыўным зборніку, цэлы набор свежых імёнаў: Міхась Барэйша, Зянон Дабрынеўскі, Мікола Зыль, Алесь Казаннікаў, Яўген Раманенка, Уладзімір Цвяткоў. Аўтары маладыя і, як сведчаць рэцэнзенты, «кожны з іх адрозніваецца сваёй творчай манерай, жыццёвым вопытам». Каму ж, як не ім, быць першаадкрывальнікамі сацыяльна-этычных праблем, маляваць запамінальныя вобразы сучаснікаў?! Старэйшае пакаленне пісьменнікаў ужо заявіла аб сабе на поўны голас. А што скажуць маладыя? Чаго ад іх можна чакаць? Тым больш, што ў зборніку змешчаны не толькі апавяданні, але і аповесці Зянона Дабрынеўскага «Грай, скрыпка...» і Алеся Казаннікава «Вясна надзей». Як бачым, маладым аўтарам становіцца цесна ў малафарматных межах, каб выказаць тое, што накіпела на душы, здалося ім вартым увагі іншых.

Пра што ж пішуць маладыя аўтары? Вядома, пра тое, што ім бліжэй, што па-сапраўднаму хвалюе. Гэта — каханне, вытворчыя пытанні, праблемы чалавечых узаемаадносін, жыццёвая пазіцыя сучасніка. Але, гартаючы зборнік, міжволі здзіўляешся падобнасці сітуацый і твораў. Маладыя аўтары, ствараецца ўражанне, вельмі добра ведаюць, пра што трэба пісаць, але ўзняцца над будзённасцю апісаных сітуацый, стварыць запамінальны вобраз сучасніка ім не хапае духу. Таму апавяданні і аповесці, змешчаныя ў зборніку, насяляюць, як правіла, нейкія дзіўныя асобы: быццам і не адмоўныя персанажы, але ж і не героі.

Вось, напрыклад, Іван з апавядання Міхася Барэйшы «І тады зразумееш...» працуе недзе мантажнікам. Ягоная брыгада манціравала абсталяванне ў адным з цэхаў хімічнага завода. «Напачатку то трубаў не хапала, то апарат не ў тэрмін адгружаў нейкі завод». Карацей, вытворчасць, як гэта і бывае часцяком у жыцці, пачало ліхаманіць. Начальнік цэха просіць брыгаду папрацаваць звышурочна. Усе згаджаюцца. А «за месяц трэба было зрабіць столькі, што і на два хапіла б».

У выніку Іван (у яго нават няма прозвішча!) прыходзіць дамоў стомлены, маўклівы. Жонка не разумее, што робіцца з мужам, таму паміж імі адбываюцца вось такія дыялогі:

«— Я чакаю цябе, а ты вунь які!— сердавала яна.

— Хутка закончым мантаж, пойдзем тады і ў кіно. І на раку, і на край свету.

— Я зараз хачу!

— Людачка, гэта капрыз! Ідзі лепей укладзі мяне.

— Не магу, другая серыя!

— Не сярдуй, ідзі!

— Не пайду!»

Наспявае канфлікт. Урэшце Іван і Люда не вытрымліваюць такога жыцця і разыходзяцца. Чытач тут, канечне, у здзіўленні: можа, сапраўды, сучасная вытворчасць перашкаджае сямейнаму шчасцю! Адсюль... Але яшчэ большае здзіўленне бярэ праз некалькі старонак. Аказваецца, Іван, праблукаўшы некаторы час па горадзе, вяртаецца дамоў.

«— Іван?— на парозе стаяла Люда. Такая ж, быццам не было ніякага расстання.— Яначка! Прыйшоў чаканы!—і прытулілася да грудзей».

На гэтым апавяданне канчаецца. Міжволі ўзнікае пытанне: а навошта было плот гарадзіць? Рэцэнзенты ж, а іх у зборніку пяць — Уладзімір Шыцік, Любоў Філімонава, Алесь Марціновіч, Уладзімір Ларчанка, Іван Капыловіч запэўніваюць чытача, што творы «падымаюць важныя сацыяльныя пытанні». Што гэта — злабадзённая праблема разводаў? Калі і так, то колькі ўжо разоў гаварылася, што актуальнасць тэмы ніяк не выратоўвае беднасць і павярхоўнасць зместу твора!

Варта адзначыць, што адносіны аўтара да сваіх герояў надзвычай яскрава праяўляюцца ў мове апавяданняў. А над ёю Міхась Барэйша працуе мала. Чаго, напрыклад, варты такі дыялог паміж закаханымі ў апавяданні «Светлае-светлае...»

«— Я табе раджу дзіцё. Хочаш? Мне не позна яшчэ. Толькі б усё добра было! Божа, як я шчасця хачу!

—Так і будзе! Я ўсё зраблю для гэтага!»

Двухсэнсоўнасць такой размовы стварае камічны эфект.

Шмат у творах Барэйшы і тэхніцызмаў, якія зразумелыя вузкаму колу людзей. Для іншых жа чытачоў яны абсалютна нічога не гавораць. Напрыклад, «цэх нізкатэмпературнай рэктэфізацыі газаў», «трубныя пучкі» і многія іншыя.

Трошкі каханню, трошкі вытворчасці прысвячае сваю аповесць «Вясна надзей» і Алесь Казаннікаў. Яго «герой» Андрэй Гуліч працуе брыгадзірам на ўчастку шліфоўкі. Яму за трыццаць. Як і герой Барэйшы, быў жанаты, працаваў недзе ў Сібіры, потым развёўся і вярнуўся дамоў. Жыве ў двухпакаёвай кватэры разам са старэнькай маці. Але «думка аб арганізацыі скразной брыгады» не дае яму спакою. Зразумела, што такога чалавека пачынаюць кахаць жанчыны. Нават не адна, а дзве. Нарэшце скразная брыгада арганізоўваецца і Гуліч супакойваецца.

Неяк А. Твардоўскі ў адным выступленні сказаў наконт такіх твораў, што калі пісьменнік бярэ гатовую ідэю з газетнай передавіцы ці з партыйнага дакумента і толькі ўпрыгожвае яе «сродкамі мастацкага афармлення», то ён, па сутнасці, не дае ніякага прыбытку — гэта амаль тое ж, што выконваць

«Сустрэча». Творы маладых аўтараў. «Першая кніга празаіка», Мінск, «Мастацкая літаратура», 1985.

# ТРЫ АЎТОГРАФЫ, ТРЫ КРУГІ ГІСТОРЫІ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

**...так розна з даўніх дзён**
**Кваліфікуе белы свет калегаў:**
**Пяток зарэзаў—на табе праклён;**
**Забіў мільён—бяры жазло стратэгаў, —**

то Кахары горача ўхваліў аўтарскую пазіцыю. Папрасіўшы ў мяне кнігу, спрабаваў нават сам чытаць яе, нягледзячы на моўны бар'ер. Вылучыў у прыватнасці той раздзел паэмы, у якім гутарка ідзе пра сербядараў-«шыбенікаў»—адной з першых спроб народаўладдзя ў гісторыі чалавецтва. Калі б не розныя чынгісханы і тамерланы, гісторыя чалавецтва, яго цывілізацыя маглі б быць зусім іншымі—на такой выснове сыходзіліся мы, дзелячыся ўражаннямі ад паэмы І. Ласкова.

Паэт узяў на сябе нялёгкую місію—выступіць на судзе гісторыі над ліхадзеямі ўсіх вякоў і народаў, узведзенымі ў ранг «великих мира сего», уведзенымі ў пантэон «неўміручых», і выказаць з усёй бескампраміснасцю сваю

**Бязмежную нянавісць да Кульгоў**
**За *ненажэрнасць* іх і неўміручасць.**

Трэба сказаць, што многія радкі паэмы сапраўды гучаць як абвінаваўчы акт. Ад імя мільёнаў нявінных ахвяр. Імем чалавека, у імя чалавека, з пазіцый чалавечнасці. І мае, безумоўна, рацыю Сяргей Грахоўскі, які ў сваёй змешчанай нядаўна на старонках «Звязды» рэцэнзіі ацэньвае новы твор І. Ласкова як арганічны сплаў гісторыі і сучаснасці, называе паэму «сучаснай і актуальнай». Менавіта такое ўражанне яна і робіць.

Выбраная мной форма не дазволіла мне больш падрабязна спыніцца на кнізе І. Ласкова «Кульга». Але я не сумняваюся, што мы будзем яшчэ не раз пра яе гаварыць, да яе звяртацца, што яна прыцягне ўвагу чытача і крытыкі і зойме належнае месца ў нашай сучаснай беларускай паэзіі, у прыватнасці ў тым яе раздзеле, які значыцца пад рубрыкай «Паэма».

## КАМУНІСТАМ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

«Камуністы» — пад такой назвай у аднолькавым мастацкім афармленні выйшлі два тамы выбраных твораў вядомых савецкіх пісьменнікаў у выдавецтве «Художественная литература». У першым з іх змешчаны апавяданні і нарысы, якія расказваюць пра барацьбу бальшавікоў за рэвалюцыйнае пераўтварэнне свету, раскрываюць воблік камуністаў, паказваюць кіруючую і накіроўваючую ролю партыі ў жыцці савецкага грамадства. Вершы аналагічнай праблематыкі прадстаўлены ў другім томе.

Сярод іншых твораў у кнігах надрукаваны апавяданне Якуба Коласа «Сяргей Карага» (пераклад Я. Мазалькова), вершы Якуба Коласа «Раскуты Прametэй» (пераклад М. Сідарэнкі) і Аркадзя Куляшова «Камуністы» (пераклад Я. Смелякова).

М. ВАРАНЦОЎ.

## «ПРЭМ'ЕРА АДБЫЛАСЯ»

Так называецца новы цыкл творчых вечароў рэспубліканскага Дома работнікаў мастацтваў. Распачалі яго стваральнікі спектакля «Бура» У. Шэкспіра ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

Пастаноўка гэтага шэкспіраўскага твора ажыццёўлена купалаўцамі ўпершыню ў нашай краіне, вось чаму ўдзельнікі вечара з вялікай цікаўнасцю слухалі выступленне галоўнага рэжысёра тэатра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР В. Раеўскага. Пастаноўшчык расказаў, як адбывалася ўвасабленне творчай задумы новага спектакля, прадставіў тых, хто яго стварыў, пазнаёміў з планамі купалаўцаў на будучыню.

П. ГАРДЗІЕНКА.

Барыс САЧАНКА

# ДУМКІ ЎРОССЫП

Мастацкая літаратура... Якіх толькі папрокаў, нападкаў, наскокаў і нават атак не вытрымала яна! У апошні час, асабліва ў сувязі з пагрозай атамнай вайны, некаторыя дагаварыліся да таго, што, маўляў, сёння не да эпапей, раманаў, паэм, аповесцей... Публіцыстыка — вось той жанр, які павінны ўзяць на ўзбраенне пісьменнікі, ды і ўсе, хто любіць жыццё і хоча яго абараніць, не даць знішчыць. Публіцыстыка—сапраўды дзейснае, аператыўнае ўмяшанне пісьменніка ў жыццё, падзеі, і забываць на яе каму б там ні было не варта, проста не маем на тое права! Але ж... У публіцыстыкі свае задачы і зусім іншыя — куды больш глыбінныя, можна сказаць, глабальныя — у мастацкай літаратуры. Пра гэта гаварыў некалі Л. Талстой, падкрэсліваючы, што «літаратура народа ёсць поўнае, усебаковае ўсведамленне яго, у якім аднолькава павінны адлюстроўвацца як народная любоў, так і сузіранне прыгажосці ў вядомую эпоху развіцця»; літаратура, акрамя «часовых інтарэсаў грамадства», павінна адлюстроўваць «агульначалавечыя інтарэсы, самыя дарагія, задушэўныя ўсведамленні народа».

Так, Л. Талстой жыў і гаварыў гэта, калі не было атамнай бомбы, калі разбуральныя і знішчальныя сілы новых відаў зброі не былі вядомы, калі пагрозы знішчэння чалавецтва і наогул жыцця не існавала. Гэта праўда, як праўда і тое, што час уносіць свае папраўкі ў любыя, нават самыя, здавалася б, правільныя, неабвержныя выказванні. Што ж, спашлёмся яшчэ на адно выказванне, таксама волата думкі і мастацкай літаратуры, які, дарэчы, жыў у нашым трывожным, зменлівым, хуткаплынным і небяспечным часе (памёр у 1962 годзе) — У. Фолкнера: «Трагедыя нашага часу — усеагульны жывёльны страх, у якім мы жывём так даўно, што ўжо звыкліся з ім. З усіх пытанняў чалавечага духу асталося адно пытанне: калі нас знішчаць? Таму сучасныя маладыя пісьменнікі забылі на праблемы барацьбы чалавечага сэрца з самім сабою — а толькі яны нараджаюць сапраўдную літаратуру, толькі пра іх варта пісаць, і толькі гэта варта працы і пакут.

Пісьменніку трэба ўспомніць іх. Яму варта зразумець, што страх—гэта ганебнае пачуццё, і, зразумеўшы гэта, назаўсёды забыць пра страх, прыбраць са сваёй майстэрні ўсё, акрамя праўды сэрца, акрамя старых і вечных ісцін: кахання, гонару, шкадавання, гордасці, спачування, самаахвярнасці, без якіх усякі твор эфемерны, асуджаны на забыццё. І пакуль пісьменнік не зробіць так, над яго працай будзе вісець праклянцце». І далей, ужо ў іншым творы: «Страх — вось што нам сёння пагражае. Не атамная бомба і нават не жах перад ёй... Небяспека для нас — тыя сусветныя сілы, якія выкарыстоўваюць страх чалавека, каб пазбавіць яго індывідуальнасці, духоўнасці...»

●

На тлумнай гаварыльні-нарадзе, якіх у нас яшчэ, на жаль, так многа, успомніў раптам, як, будучы ўлетку дома, у сваёй вёсцы, кіраваўся ў лес і ля канавы, што перабягала дарогу, у лазняку, убачыў ласіху і ласяня, — прыпаўшы пысамі да люстраное роўнядзі, яны прагна, са смакам пілі ваду. І толькі тады, калі ласіха і ласяня напіліся ўволю і спаважна — ласіха першая, за ёй ласяня—падаліся ў гушчар, пайшоў далей па дарозе...

Успомнілася гэта, і я падумаў: «Забудзецца, ніколі не згадаецца гэтае яшчэ адно нуднае, невядома каму патрэбнае пасяджэнне, як забыліся ўжо, не згадваюцца дзесяткі, сотні іншых... А ласіха з ласянём, што ўбачыў улетку дома, не забудуцца... Згадаюцца, неаднойчы яшчэ згадаюцца...»

І захацелася, нясцерпна захацелася зноў дадому, у сваю вёску...

●

Падліць вядзерца дымнай саляркі ў агонь спрэчак — вось сапраўдны сэнс некаторых выступленняў у рознага роду творчых абмеркаваннях, дыскусіях, «круглых сталах». Ды ісціна — на шчасце! — у гэтым агні не гарыць і ў вадзе пустаслоўя не тоне...

●

«Адламала галіну, на якой поўна зялёных яблык. Я як гэтая галіна. Поўна ва мне задум, якія прападуць са мною». (І. Мележ, «Дзённікі. Запісныя кніжкі»).

Колькі іх гэтых без пары адламаных галін... Ні ў адной, здаецца, літаратуры няма так многа, як у нашай, беларускай... С. Палуян... Цётка... М. Багдановіч... П. Трус... У. Жылка... Л. Калюга... М. Чарот... П. Галавач... Э. Самуйлёнак... М. Гарэцкі... У. Хадыка... М. Зарэцкі... Я. Купала... Р. Мурашка... З. Астапенка... К. Чорны... С. Крывец... М. Сурначоў... В. Таўлай... А. Чарнышэвіч... М. Лупсякоў... У. Нядзведскі... А. Сербантовіч... С. Блатун... Сам Іван Паўлавіч Мележ... Ды і пасля яго ўжо... Е. Лось... Р. Семашкевіч... У. Караткевіч... В. Бечык... Колькі няздзейсненых задум, надзей, колькі недапісаных ці і зусім ненапісаных твораў!

Крыўдна і горка! І галоўнае — ніхто нічым памагчы не можа, каб спыніць гэта...

Быццам наканаванне, пракляў нас хто...

●

Таямніц творчасці многа. І назваць, пералічыць усе іх... Не ведаю, ці зможа хоць калі хто-небудзь. Але ва ўсякай творчасці, акрамя самавыяўлення, ёсць яшчэ і тое, без чаго яна траціць мэту, сэнс — надзея, жаданне творцы, каб яго пачулі, зразумелі. Нават больш — прызналі, палюбілі, шукалі ў яго творах падтрымкі, апірышча. І хто-хто, а самі творцы пра гэта ніколі не забывалі. Як пацвярджэнне таму

план здачы малака маслам, якое купляеш у магазіне. Ці не ў аналагічным становішчы апынуўся і Казаннікаў, які праілюстраваў сваёй аповесцю партыйна-дзяржаўныя рашэнні, пазбягаючы вострых сацыяльна-этычных праблем?

Цікава, з веданнем справы апісвае вясковае вяселле ў аповесці «Грай, скрыпка...» Зянон Дабрынеўскі. Адчуваецца, што народныя звычаі малады аўтар ведае не толькі па кнігах. У творы Дабрынеўскага таксама ёсць па-трошку ўсяго: сялянскай працы, музыкі, сяброўства і кахання. Яго «герой» — вясковы хлапчына-музыкант. Дзякуючы здольнасцям ён паступае ў кансерваторыю. Родзічам было «нялёгка прывыкаць да думкі, што, скончыўшы кансерваторыю, Ромка не вернецца назад у вёску». Аўтар жа і надалей разважае ў гэтым кірунку, і развагі гэтыя не маюць пад сабой ніякага грунту. «Самі яны, іх бацькі і дзяды ўвесь свой век жылі на зямлі. І хто мог папракнуць іх, што жыццё пражыта марна, што жылі яны не так, як усе людзі». Потым, быццам спахапіўшыся, аўтар настройваецца на рэалістычны лад— «праўда, яны кожны дзень ад усходу і да захаду сонца кланяліся хлебнаму коласу». І тут жа сам сабе зноў пачынае супярэчыць: «але былі шчаслівыя, бо жылі на сваёй спадчыне з працы сваіх рук». Цікава, а як жа жывуць зараз? Можа, не працуючы, як птахам нябесным, можна карміцца? І аб якім шчасці гаворыць аўтар, аб якой спадчыне, калі селяніну ў тыя часы не хапала ад ураджаю да ўраджаю хлеба? І толькі зараз ён, гэты хлеб, можа ў любы момант купіць у магазіне? Дзед і бабка Рамана Навіцкага, а з імі і сам аўтар дзівуюцца, чаму гэта маладыя пакідаюць зямлю. «Чаго ім не хапае? *І хлеб, і да хлеба ёсць*, і не голыя ходзяць. Мала весялосці? То хто ў гэтым вінен, калі не яны самі? Навучыўся ты, другі іграць на скрыпцы, ну і весялі сваю душу, сэрцы людзей. І чаму гэта ў маладых засела незразумелая туга, калі от табе і радыё, і тэлевізары, і магнітафоны! Чаго яшчэ бракуе? Толькі весяліся».

Карацей, аўтар хоча запэўніць чытача, што ў вёсцы — не жыццё, а суцэльнае вяселле. Нягледзячы на такую арыгінальную думку, твор Дабрынеўскаму не вельмі ўдаўся. Чаму? У ім адсутнічае скразны сюжэт і пабудаваны ён па прынцыпе — што некалі бачыў, чуў, пра тое і пішу. І не трэба, маўляў, мяне вучыць, што ёсць нейкія апавядальныя законы, без якіх твор не толькі перастае быць творам, але і ператвараецца ў нешта бясформеннае. Завязка, кульмінацыя, развязка, сюжэт — *гэта для Дабрынеўскага* анахранізм. Можа, гэта эксперымент у пошуках новай формы? Калі так, то няўдалы. Шмат у аповесці русізмаў. Тут і «ўшчэрбны месяц», і «вяснушкі», і «палок у лазні». Відаць, над рукапісам аўтару працаваць трэба было больш дбайна. Як кажуць, на рэдактара спадзявайся, але і сам ўважлівы будзь.

Матывы кахання, узаемаадносін бацькоў і дзяцей гучаць і ў апавяданні Уладзіміра Цвяткова. У творы «Чужыя» аўтар спрабуе зразумець, як так сталася, што зараз большасць *дзядуль і бабуль не хочуць* займацца выхаваннем унукаў. Ім лягчэй сядзець у прэзідыумах розных сходаў, слухаць удзячнасці ад піянераў за ўдарную працу ў мінулым, быць актыўнымі членамі саветаў ветэранаў, чым спрачацца са сваімі дзецьмі наконт выхавання ўнукаў і практычна выхоўваць іх. Сына з яго сям'ёй бацькі выганяюць з кватэры. Маўляў, жаніўся без нашага дазволу, вось і жыві, як хочаш. Навошта ж рабіць сябе сіротамі пры жывых дзецях? — вось асноўная думка твора. Але вырашае яе аўтар спрошчана і схематычна. Маладыя пакідаюць кватэру бацькоў і становяцца ім чужыя.

У апавяданні «Палымяны верасень» герой знаёміцца з дзяўчынай на вуліцы. Затым яны пачалі сустракацца. Нарэшце ён даведваецца, што яна замужам, і муж безніякага канфлікту ўступае яму сваю жонку. *Пасля такой лёгкай* перамогі герой па-філасофску разважае: «Зрэшты — час лепшы лекар. Вельмі кахаў я яе, маю Веру. Яна мяне — таксама. Таму і пажаніліся мы з ёю.

Аднак часам думаю я міжвольна пра яе першага мужа. Пра добрага, мусіць, хлопца... Напэўна, ён і цяпер не ведае: жанчыну кахаць куды прасцей, чым разумець». Такая вось канцоўка ў гэтага твора. Як тут не ўспомніць вядомую песню Булата Акуджавы пра жонку, якая пайшла да другога! І каму тут пашэнціла больш.

Напэўна, дзіўна было б патрабаваць ад кожнага твора маладых адкрыцця, новых тэм, вострага канфлікту, новага героя, але як тут не ўспомніць словы з артыкула крытыка Міхася Тычыны, змешчанага ў зборніку літаратурна-крытычных артыкулаў «Змена квадры»: «Шмат якія сюжэтныя павароты, многія вобразы эксплуатуюцца нашымі празаікамі і паэтамі так часта, што павінны ўжо быць «табу»: дзяды і бабулькі, скептыкі і геронікі, героі, што разводзяць глыбокую філасофію на мелкім месцы, *апранутыя ў касцюмы* мінскага «Прагрэсу» і абутак фабрыкі «Прамень», рацыяналізатары, якія знаходзяць вынайдзенае, «людзі збоку», якія ўсё вырашаюць лёгка і проста». Заўважым, што зараз да іх далучыліся яшчэ і разведзеныя ці нясчасныя закаханыя. Як тут не ўспомніць таго ж Міхася Барэйшу. «Што ж гэта робіцца: кінула Люда, маніла Святлана... Няўжо ён нікому не патрэбны!»

Думаю, не памылюся, калі скажу, што, сапраўды, такія «героі» і сітуацыі, у якіх яны праяўляюцца, сучаснай літаратуры не патрэбны. Чытач чакае твораў, дзе аўтар, даследуючы пытанні чалавечага існавання, імкнецца ўзрушыць і яго сваёй трывогай і болем, а не дэманструе дылетанцкія веды аб праблемах, якія нас акружаюць (хоць апошняе не зусім бескарысна). І ўсё ж, калі справа абмяжоўваецца толькі гэтым, ніякага катарсіса мы не адчуваем. *Такія «героі», як у дрэнным* спектаклі, ходзяць па сцэне, аб нечым гавораць, спрачаюцца, нечаму радуюцца ці плачуць, але іхняе жыццё нашым не становіцца.

Канечне, не ўсе творы зборніка аднолькавыя па мастацкіх вартасцях. Ёсць тут і апавяданні, якія запамінаюцца сваёй праўдзівасцю, псіхалагічнай пераканальнасцю. Гэта творы Міколы Зыля «Скібка хлеба», Яўгена Раманенкі «Рэха вайны» і некаторыя іншыя.

«Скібка хлеба» — гэта рэт*распекцыя аўтара ў далёкае*, халоднае і галоднае маленства. Ён вылучаецца эмацыянальным запалам, болем і любоўю да жанчыны-маці, якая штодзень ратуе сваіх дзяцей ад галоднай смерці. Вобразу маці ў нашай літаратуры прысвечана шмат старонак. І прыемна, што і Міколу Зылю ўдалося стварыць запамінальны вобраз.

Але такіх апавяданняў у зборніку мала. Ці ж толькі віна маладых у тым, што «шэрая» плынь у апошні час перапаўняе берагі нашай літаратуры. Думаецца, рэдактараў і выдаўцоў таксама.

**Уладзімір ЗАМКАВЕЦ.**

---

— словы «Калумба новых паэтычных мацерыкоў» (У. Маякоўскі), стваральніка «заумі» ў паэзіі В. Хлебнікава. «Адна з таямніц творчасці — бачыць перад сабою народ, дзеля якога пішаш, і знаходзіць словам месца на восях жыцця гэтага народа». Залатыя, вешчыя словы! Не забываць бы іх, часцей бы ўспамінаць!

●

Трагедыя таленту не ў тым, «што яго надзяляюць «мiленькай утульнай славай» (Акутагава), а хутчэй за ўсё, што ён пачынае верыць гэтай славе, жыць ёю, а то і купацца, як сыр у масле, у яе залацістых, але падманлівых, здрадлівых промнях.

●

Чым больш нацыянальны, самабытны твор, напісаны жывой багатай народнай мовай, з глыбокім, праніклівым веданнем побыту і характараў, тым цяжэй яго *перакласці* на іншую мову. Ці не таму Пушкіна па-сапраўднаму разумеюць і цэняць толькі ў Расіі, Міцкевіча — у Польшчы, Шаўчэнку — на Украіне, Купалу і Коласа — у Беларусі... За межамі сваіх літаратур гэтыя пісьменнікі і іх творы не такія папулярныя, як у сябе дома.

І наадварот — творы, напісаныя *несамабытна, неарыгінальна*, без глыбокага ведання і пранікнення ў мову, побыт і характары, на «агульнадаступным», як некаторыя пішуць, узроўні, лёгка перакладаюцца і выдаюцца, нават іншыя робяцца папулярныя сярод чытачоў. Але што дзіўна — гэтыя быццам папулярныя творы адыходзяць разам са сваім часам, да іх больш ніхто не вяртаецца, не перакладае, не перавыдае, не чытае... Да твораў жа глыбока нацыянальных, арыгінальных, самабытных звяртаюцца зноў і зноў, зноў і зноў спрабуюць іх перакласці, перасадзіць з аднаго нацыянальнага грунту на іншы... Кожнае пакаленне, якое нябачнымі ніцямі звязвае мінулае з будучым, імкнецца, нібы тыя альпіністы, пакарыць самую высокую вяршыню гары — данесці да чытачоў усё непаўторнае багацце думак і мовы арыгінала, па-свойму яго зразумець і патлумачыць...

**НЕКАЛЬКІ ПАРАД (не маіх) ПІСЬМЕННІКАМ**

«Не апранай сваю думку ў пышныя формы». (Марк Аўрэлій).

*«Ад крытыкі нельга ні выратавацца, ні абараніцца; трэба паступаць ёй назло, і мала-памалу яна з гэтым звыкнецца».* (Гётэ).

«Пісьменнік, вядома, павінен зарабляць, каб мець магчымасць жыць і пісаць, але ён ні ў якім разе не павінен жыць і пісаць дзеля таго, каб зарабляць». (К. Маркс).

*«Галоўная* вартасць пісьменніка — гэта ведаць тое, чаго пісаць не варта». (Г. Флабэр).

«У кніг тыя самыя ворагі, што і ў чалавека: агонь, вада, звяры, час — і іх уласны змест». (П. Валеры).

«Ці можа пісьменнік адказваць свайму крытыку?.. Лепш пісьменніку ўстрымацца. Лепш не ўмешваць сваё самалюбства ў справу свайго жыцця. Няхай твор гаворыць сам за сябе». (А. Блок).

«Пісаць трэба для моладзі свайго пакалення, для крытыкаў таго пакалення, якое прыйдзе на змену, і для прафесараў усіх наступных пакаленняў». (Ф. С. Фіцджэральд).

«Усё, што пісьменнік мае сказаць людзям, ён павінен не гаварыць, а пісаць». (Э. Хемінгуэй).

●

Яшчэ старажытныя грэкі ведалі, што двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку нельга. А двойчы перажыць тое самае? Вось чаму так часта і не вераць тым, хто піша пра самімі перажытае. І наадварот — чым больш фантазіі, выдумкі, уяўлення — тым быццам больш і праўды. «Паэма ўражвае тады, калі мы ўлоўліваем у ёй страснае жаданне, а не радасць перажытага». (Х. Л. Борхес).

●

«Так, як пісаў раней... не хачу. А па-новаму... не магу».

Што гэта? Проста незадаволенасць сабою? Стома? А можа... «крызіс»?

Не я першы і, мусіць, не апошні — каторы ўжо раз! — мучу, пілую сябе, даводжу да вар'яцтва ў дні, калі не ідзе — хоць плач, воўкам вый — работа. Слабое суцяшэнне нават словы, якія аднойчы сказаў І. Бэхер: «Без крызісу няма *творчасці. Гора тым, каму ўжо* няма пра што спрачацца з самім сабою ці з тымі, хто нас акружае. Яны кончаныя людзі, гэтыя «закончаныя майстры», і іх вырабы, што сыходзяць з канвеера—не больш, чым тан*ныя ўпрыгожванні, у лепшым* выпадку — па-мастацку — промыславы тавар».

І ўсё ж... Куды іншы настрой, весялей, лягчэй на душы, калі працуецца — пішацца...

●

Закончана доўгая, карпатлівая, пакутлівая праца — новы твор. А. Пушкін, як ён сам паведамляў П. Вяземскаму, пасля напісання трагедыі «Барыс Гадуноў», перачытаў яе ўслых, адзін, і біў у далоні і крычаў: «Ай-да Пушкин, ай-да сукин сын!»

Але не ва ўсіх, далёка не ва ўсіх такая бурная радасць і задаволенасць. М. Гоголь, перачытаўшы другі том «Мёртвых душ», спаліў яго, хоць працаваў над ім дні і ночы дзесяць гадоў! Не быў задаволены вынікамі сваёй працы на ніве літаратуры і Л. Талстой. Так, чытаючы ў снежні 1864 года раздзелы *рамана «1805 год»*, дзе апісвалася жыццё старога князя Балконскага і яго сям'і ў Лысых Гарах, яму здалося ўсё гэта «очень гадко» і ён наогул расчараваўся ў сваім таленце. У 1871 г. Л. Талстой паведамляў А. Фету, што пісаць «дребедень многословную вроде Войны» ніколі не будзе. У студзені 1873 г. у лісце да А. А. Талстой ён прызнаваўся, што цяпер яму «Вайна і мір» «отвратительна вся», і ён адчувае «чувство раскаянья, стыда», «чувство вроде того, которое испытал человек, видя следы оргии, в которой участвовал». Прыкладна тое ж пачуццё было ў славутага мастака слова і калі ён перачытваў раздзелы рамана «Ганна Карэніна», які яму таксама не падабаўся («ужасно противно и гадко»). У 1876 годзе, чытаючы карэктуру раздзелаў «Ганны Карэнінай» для красавіцкага нумара «Русского вестника», ён знаходзіць, што ўсё ў іх «скверно» і ўсё трэба «переделать»; яму «противно» тое, што ён напісаў. Не ў захапленні ад сваіх твораў, вельмі самакрытычны быў і Ф. Дастаеўскі. Вось, напрыклад, што ён пісаў 11 красавіка 1880 г. у лісце да мастачкі і грамадскай дзеячкі Е. Ф. Юнге: «Я ведаю, што ў мяне, як у пісьменніка, *ёсць шмат недахопаў, таму што* я сам, першы, сабою заўсёды незадаволены. Можаце ўявіць, што іншы раз у цяжкія хвіліны ўнутранай справаздачы я часта з болем усведамляю, што не выказаў, літаральна, і 20-й долі *таго, што хацеў бы, а можа* быць, і мог бы выказаць. Ратуе пры гэтым мяне толькі заўсёдная надзея, што калі-небудзь пашле бог гэтульки натхнення і сілы, што я выкажуся паўней, адным словам, што выкажу ўсё, што ў мяне ёсць у сэрцы і фантазіі».

Цікавыя ў гэтай сувязі прызнанні і яшчэ двух вялікіх майстроў прозы XX стагоддзя — У. Фолкнера і І. Мележа. «Ні адзін з маіх твораў мяне цалкам не задаволіў,— паведамляў сакратару Амерыканскай Акадэміі мастацтва і літаратуры стваральнік свайго свету — цэлай краіны «акругі Йокнапатофы».— Кожны раз, калі я дапісваў якую-небудзь кнігу, мне прыходзіла ў галаву, што я мог бы перапісаць яе і зрабіць такім чынам лепш, можа быць такою, якой я і хацеў бы яе бачыць. Але на гэта мне ніколі не хапала часу — на чарзе заўсёды стаяла новая кніга».

А вось што напісаў незадоўга да смерці ў дзённіку І. Мележ, чытаючы карэктуру апошняга свайго рамана «Завеі, снежань»: «Адчуваю незадавальненне зробленым. Цяжка пісаць гэта. І пісаць цяжка, і кінуць не магу. Не магу спыніцца на дарозе. Як — падарожны, што стаміўся целам і душой, *а павінен брацца далей.*

Усе, хто пачыталі раман... — пакуль хваляць. А ў мяне незадавальненне!»

**З АДНАГО НАШАГА — ПІСЬМЕННІЦКАГА — СХОДУ**
(НАЗІРАННІ)

Няма чаго сказаць, а гаворыць.
Гаворыць, але і сам не ведае
што.
Ведае што сказаць, ды не хоча.
Хоча і ведае што сказаць, але
не ўмее.
Умее і ёсць што сказаць, ды
маўчыць.

Маўчыць, бо гавораць тыя, хто не варта было б, каб гаварыў.

Гавораць, займаюць час, каб не гаварылі іншыя, хто мае, умее і ведае што сказаць.

А ў выніку — нудна, прэсна, нецікава; сходу як бы і не было...

●

Баімся, каб не зніклі асобныя віды раслін, птушак, жывёл — *заносім іх у «Чырвоныя кнігі»*, усяляк аберагаем, ахоўваем, бо са знікненнем іх бяднеем мы самі, бяднее наша матухна-зямля... І разам з тым... Марым пра адну-адзіную, агульную, зразумелую для ўсіх людзей мову, у якую быццам зліюцца ўсе мовы. Першыя пра гэта загаварылі французскія утапісты... Ну, а потым... Надта ж гэтая думка спадабалася ўсім, хто лянуецца ці не хоча, не можа вывучыць па-належнаму і адной мовы, каму хапае для абыходку і некалькіх дзесяткаў слоў... Памірае адзін чалавек, і то яго шкада. А калі памрэ народ, яго мова, а, значыцца, і нацыянальная самабытнасць, своеасаблівасць, непаўторнасць, яго душа — культура?.. Ды не адзін жа народ, не адна культура, а ўсе народы, усе культуры? І будзе... Што б ні было, але яно будзе адно, аднолькавае для ўсіх і ўсюды. А прыгажосць жа, радасць жыцця якраз у непаўторнасці, разнастайнасці, зменлівасці... Мудрая прырода стварыла столькі ўсяго featurednага, ані не падобнага ні на што — жыцця не хапае, каб усё ўбачыць, вывучыць, спазнаць. *І нівеліраваць*, знішчаць тое, што стварыла прырода... Ці не лепш будзе вывучаць, спазнаваць, узбагачаць, развіваць, яшчэ больш разнастаіць, удасканальваць... Асабліва, калі размова ідзе пра такія багацці, як мовы, культуры...

●

І яшчэ дзень адзін адышоў, кануў у вечнасць. Здаецца, нічога асаблівага і не зрабіў я ў гэты дзень. І ўсё адно шкада яго. Ніколі ж больш ён ужо не вернецца, не паўторыцца...

●

Калі папракаюць каго-небудзь у недаглядах, недахопах ці памылках, я заўсёды ўсміхаюся — на памяць прыходзіць размова, якую чуў выпадкова на вуліцы пры адной аварыі:

«— Як гэта ён, дзівак, на слуп наехаў?»

«— Вы бачыце той слуп?»

«— Вядома!»

«— А ён, як вы называеце яго, дзівак, не бачыў...»

●

«Маленькія і вялікія таленты, ад Пушкіна і Гоголя, працуюць: «Ах, нядобра, як бы лепш!» Цяперашнія: «Э! не варта, і так сыдзе». (Л. Талстой, «Дзённікі»).

Злосць Л. Талстога можна зразумець... І ўсё ж, мабыць, *мала такіх*, хто знарок хоча нешта зрабіць абы з рук. Звычайна, імкнуцца, з апошніх сіл выжыльваюцца, каб зрабіць лепш. Іншая справа, як у каго гэта атрымліваецца. Тут, як кажуць, меркаваць не аўтару...

## ПАЭЗІЯ

Пімен ПАНЧАНКА



### *Залатое зерне*

Цаніце чалавека
Заўсёды пры жыцці.
Калі заплюшчыць векі —
Ён згіне ў небыцці.

Труну заб'юць цвікамі,
І — белы свет, бывай!
Быць вечна з мерцвякамі
Зусім, браткі, не рай.

Смерць многіх перацерла,
Пажыў — і памірай...
Мы і святло, і цемра,
Мы пекла, мы і рай.

Жыццё, каб адкупіцца,
Наводзіць часам форс:
І з'явіцца Капіца,
Эйнштэйн ці Розерфорд.

Ці Гогаль ты ці Гегель,
Курчатаў ты ці Бор,
Ды зробішся нягеглым —
І пад магільны горб.

Але пакуль так будзе,
Пакуль жыццё гарыць,
Сябе не хочуць людзі
Са смерцю прымірыць.

Бо крыўдна:
Ты мізэрны
І на зямлі ты госць...
А залатое зерне
У кожнага з нас ёсць.

Як полюс той палярны,
Сцюдзёны пуп зімы —
Ў адзіным экземпляры
Народжаны ўсе мы.

І ў тым людскім бязмежжы
З нас кожны, як Байкал,
Як Эйфелева вежа
Ці белы Тадж-Махал.

Мы — залатыя каплі:
І я, і ты, і ён,
Як Райкін, альбо Чаплін,
Дзісней ці Сімянон...

Няма дзяцей бяздарных,
Мы з талентамі ўсе:
І лекар, і пажарнік,
І слуцкі хлебасей,

Каваль, даяр, ліцейшчык
І кожны чалавек —
У геніяльнай дзежцы
Замешаны навек.

### *Вяртанне ў строй*

Былі баі у той вайне вялізнай,
Была прыфрантавая паласа,
Дзе мылі закарэлую бялізну
І хлеб пяклі салдацкі па лясах.

Я часта быў у ротах між салдатаў,
І зрэдку ў наступ з імі разам пёр.
Пасля баёў любіў я да санбата
Забегчы да ўрачоў і да сясцёр.

У тое лета быў санбат наш блізка,
Сюды зайшоў, калі заглохнуў бой...
Шкраблі аперацыйныя там міскі
Жарствой і содай, шорсткай дзеразой.

Была цяжкая служба у санбатах...
Стаяў там пазбіваны спехам стол.
Пагаварыў з параненым камбатам
І марыў праглынуць хоць грамаў сто.

І раптам да прыстанішча санбата
Ішлі ў гразі, ў задымленых бінтах
Параненыя ў наступе салдаты,
Што вызналі адвагу, гнеў і страх.

Адзін крычаў: «І я прыкончыў гада!»
Мурзатыя ў крыві жартаўнікі.
Медсёстры пазіралі са спагадай,
Адна мне прашаптала: «штрафнікі».

Гарластыя, нібы ішлі з вяселля,
Хацелася ім плакаць і грымець.
Пасечаныя лапкі хвой віселі
Над імі,
Спрабавалі зашумець.

Забылі пра адлучкі, баязлівасць,
І трыбунал, і сорам, і баі.
І шмат вачэй смяяліся шчасліва:
Яны ўжо між сяброў,
Яны ў страі.

Вучыла іх святая праўда бою,
Хоць там не вымаўлялі гучных слоў.
І змыў сваёй крывёй у бітве воін
Злачынства,
Чалавекам стаў ізноў.

Адзін кагосьці кляў
І не хацеў ён есці:
«Паклалі полк, а вёску не ўзялі...»
Не ведаў той салдат, што ў іншым месцы
Галоўны быў удар на змучанай зямлі.

Брызантныя іrваліся пад небам...
Я з воінамі рад быў піраваць:
Тушонку мы глыталі з чорным хлебам
І нам было на ворага пляваць.

### *Бацькі і дзеці*

Сто тысяч жонак ныюць
І горка слухаць мне:
«Дурныя мы, дурныя,
Вароны — разумней.

Няма бяднейшых дзетак,
Чым нашы, чым твае.
Які у іх адзетак?» —
Па сэрцу мужа б'е.

«Нічога не здабудзеш...
А тыя — каралі,
Сабе багацце людзі
Дастануць з-пад зямлі.

Дачку сваю ў «бананах»
Прапхнуць у інстытут.

## ПРОЗА

Яраслаў ПАРХУТА



Яраслаў ПАРХУТА




### СПОВЕДЗЬ

— І чаго гэта яны з таею бомбаю ў космас лезуць? Мала на зямлі псоты панарабілі? Мала народу паназнішчалі? Мала людзей панакалечылі?

Андрэй плюнуў сабе пад ногі і не пераставаў абурацца:

— Вазьму хоць сябе. Ну які з мяне быў увесь гэты час работнік? Так, адна назва...

І далей ужо расказваў быдта не мне, а сам сабе, быдта думаў услых:

— Узялі тады ўсю нашу сямейку: бацьку, матку, мяне, траіх сясцёр і павялі за сяло, у кар'ер. Там да вайны мужыкі жвір бралі... Павялі, значыць, туды, паставілі і тут жа з аўтаматаў... Не, болю не чуў. Гарачынёю нейкаю ды цемнатою абдаць — абдало. А так — не, болю не чуў. Потым — як праваліўся куды.

Ён змоўк, а праз хвіліну паказаў кавенькаю на хату:

— Гаспадыня мая, Нюрка, тады яшчэ дзяўчом была, першай прыбегла ў кар'ер. Казала, бачу: жвір варушыцца! Кінулася разграбаць. Усе былі нежывыя, а я, казала, стагнаў яшчэ. Карнікі збольшага, на скорую руку, прысыпалі нас. А так бы... Тут і матка яе, Тэкля, з'явілася, і яны ўдзвюх перацягнулі мяне да сябе. Хаты ж нашай не было ўжо — галавешкі курэлі толькі...

Андрэй пачаў кавенькаю на пяску крэсліць крыж. Потым хуценька, здаровай нагою, зацёр той крыж і ўжо спакайнейшымі вачыма зірнуў на мяне:

— І што думаеш? Выхадзілі! Нага зраслася, хоць і кульгавіла адразу. З рукою — горай. Жылы перасекла. Матляцца стала. А раны ў грудзёх зацягнула хутка. Толькі даўгавата чырвоным харкаў.

Выйшла з хаты Нюрка — худзенькая, невысокага расточку, прысела да нас на лавачку, прапанавала:

— Ішлі б у садок яблычкаў пашукаць. Каторыя на зямлі, тыя ўжо есці можна. Салодкія!

— Выдумала! — сярдзіта кінуў Андрэй і адвярнуўся.

Гаспадыня як бы пакрыўдзілася на яго, пасядзела трошкі і пайшла назад, у хату. А ён сказаў:

— Адным словам, калекаю стаў! Усе гады толькі вартаўніком пры ферме і трымаюць. А яна, Нюрка, даяркаю. Па дзень сённяшні ўкалвае.

Андрэй дастаў кісет, скруціў «казіную ножку», усыпаў туды махоркі, прыпаліў і тут жа раскашляўся. Кашляў доўга, надрыўна. А супакоіўся — наслініў пальцы, затушыў імі «капыток» агню і недакурак схаваў у нагрудную кішэню.

— Аднак не дарма кажуць: бяда адна не ходзіць —за сабою другую водзіць,— прамовіў ён. — Усё гэта: кульгавая нага, рука папсаваная, грудзі — драбяза. Па гэтым жыць можна. А вось...

Ён заварушыўся, нібы хацеў адсунуцца на край лавачкі, але не зрабіў гэтага і працягваў тлумачыць:

— А вось далей... Не давядзі бог, што было... Выхадзіла, значыць, Нюрка, мяне, калі ўжо нашы прыйшлі. Я рашыў быў падацца ў белы свет, а Нюрчына матка, Тэкля, кажа: куды табе такому? Заставайся б! Браў бы Нюрку маю і жыў бы на здароўечка.

Нюрка тады спраўная была, прыгожая. Шкадаваў яе. Навошта звязваць чалавека! А потым падумаў-падумаў і рашыў: было не было! Застануся за прымака!. Згулялі такое-сякое вяселле, працаваць пачалі (я ўжо казаў: пры ферме!), двух сынкоў прыдбалі — Віцьку і Саньку. Разумныя былі хлопчыкі. І абодва тварам у матку...

Андрэй уздыхнуў:

— Дык вось. Віцьку было ўжо дзесяць, а Саньку — восем. Надышла, як на тое ліха, у той дзень нам калейка пасвіць вясковую худобу. З мяне вядома які пастух. Нюрцы таксама не выпадала. А цешчы ўжо не было — памерла. І пагналі тую худобу сынкі. А там, у Грудах, у старым акопе, знайшлі нейкую халеру, пачалі калупаць. І тут— усё. У адзін міг. Канец абодвум! Віцьку дык таго хоць... А Саньку...

Андрэй расшпіліў здаровай рукою каўнер сарочкі, правёў даланёю па голай грудзіне і ўсё адно як выдыхнуў:

— Карацей, у адной труне і пахавалі...

Пасля гэтых слоў маўчаў доўга, і думалася, што не загаворыць, не стане варушыць даўні боль. Але загаварыў, толькі прыглушана, быдта пошапам:

— Не давядзі бог як цяжка хаваць дзяцей!! Не давядзі бог!..

Праз хвіліну як бы ўзяў сябе ў рукі, як бы супакоіўся.

Пазіраючы сабе пад ногі, прамовіў:

А яны вунь з бомбаю ў космас...

І палез у кішэню па недакурак. Курнуў колькі разоў і загаварыў развамліва, быдта не было толькі што тае споведзі:

— Мой бацька любіў некалі казаць: «Жытка чалавечая — цень птушкі. О, каб яна была ценем дрэва!..» А я думаю іначай: мучыўся б толькі болей чалавек! Вось каб усе тыя бомбы пад корань!... Тады б, можа...

І ён зноў надрыўна раскашляўся.




Яна жыла за Гутай, на хутарку.

На пачатку вайны неяк быў прыбіўся да яе акружэнец. Ён то памагаў Маньцы ў няхітрай гаспадарцы, то некуды надоўга знікаў. І бабы ўсялякае сарочылі пра яго.

У адзін з такіх дзён, калі акружэнца не было дома, у Маньчыну хату ўварваліся паліцаі, пачалі чапляцца да гаспадыні:

— Куды бальшавіка падзела? Дзе хаваеш бандыта?

Манька маўчала.

І тады ў сенцах пачулася валтузня. Потым расхлябеніліся дзверы, і парог пераляцеў яе Сцёпка, увесь акрываўлены, са звязанымі рукамі. Як зірнула Манька, так ногі ў яе і падцяло.

Мардаты паліцай, відаць, старшы, дапытваўся:

— Кажы, падла, дарогу? Дзе лагер? Сцёпка маўчаў.

— За траіх нашых...— нечакана ціха прагаварыў мардаты і падаў знак сваім.

Сцёпку павялі з хаты. Праз хвіліну Манька пачула: нібы хто па сцежцы дошкаю ляпнуў — такі глухі стрэл быў. А калі зноў у хату ўбег мардаты, па вачах зразумела, што са Сцёпкам. Накінулася на мардатага, учапілася пазногцямі ў твар, закрычала:

— Шкура прадажная...

Не дагаварыла. Паліцай выцяў яе па галаве, збіў з ног і пачаў таўчы ботамі. Яна качалася па падлозе, старалася, каб удары міналі жывот, але такое ўдавалася не доўга — страціла прытомнасць.

Мардаты загадаў адліць яе вадою. І калі адлілі, Манька ледзь чутна варухнула губамі:

— Прыйдуць нашы...

Зноў не дагаварыла. Мардаты працягваў зганяць злосць на Маньцы. А яна, як і тады, старалася захіліць жывот, моўчкі зносіла ўдары. Траціла прытомнасць, зноў прыходзіла ў сябе, зноў правальвалася ў небыццё.

Такой, беспрытомнай, і знайшлі яе на падлозе бабы, калі пад вечар прыбеглі на Маньчын хутар. Паднялі на ложак, укрылі радзюжкай. Манька, як у сне, кідалася, нешта крычала, а потым толькі глуха стагнала.

У тую ноч яна і нарадзіла дзіця. Нежывое. А як зведала пра такое, уся неяк сцялася, змоўкла і нікога не падпускала да сябе. Бабы ўпрошваюць, а Манька сядзіць на ложку, люляе на руках дзіця, дае яму, нежывому, грудзей і ўсяго што кажа:

— Спі, мая донька, спі...

Вочы ў Манькі пазіралі на свет неяк нязвыкла. І бабы пра ўсё здагадаліся, у соннай забралі дзіця і патаемна ад яе пахавалі на магілцы акружэнца.

Ды Манька назаўтра хадзіла па хаце са скруткам у руках. І хоць там была толькі зрэбная анучка, перавязаная чырвоным каснікам, усё адно люляла і прыгаворвала:

— Спі, мая донька, спі...

Бабы наглядалі за Манькай, стараліся нечым дапамагчы, меркавалі, што ўсё

А ты — як конь загнаны.
І я — уся з пакут...»

Шабашнікі нахабныя,
Дзялкі і махляры,
І подкупу, і хабару
І крадзяжу майстры

Па нітцы, па саломінцы
Абрабавалі свет.
І свеціцца, і ломіцца
Ад крышталю буфет.

І дочкамі там цешацца
Бацькі, дзядзькі і цешчы:
Красуні — пашукай,
Для іх патрэбен рай.

І завушніцы — золата,
Пярсцёнак — дыямент.
Дачка — такое золатка,
Жыве з калыскі соладка —
Атрутны элемент.

І рук яна не пэцкае:
З маленства — абібок,
І вырабы савецкія
Адкідвае набок.

Давай усё замежнае —
Панчошкі і духі.
На просценькіх з насмешкаю
Мармыча: «Лапухі...»

Глядзіць на тых з пагардаю,
Хто робіць ля станкоў.
Разбэшчаная гвардыя
Нахрапістых бацькоў.

На кніжцы ў бацькі — тысячы:
Як гордаю не быць!
Іх бы па... высекчы
І прывучыць рабіць.

А з-за бацькоўскай вышкі
Напаў на дзевак псіх:
Як шэранькія мышкі
Равесніцы для іх...

А дочкі небагатыя
Рабочых і служак
Мяркуюць, як расплатаю
Уцяць такіх вужак.

Дурніца ім зайздросціць,
Не спіць за ноччу ноч,
Пасля глыне са злосці
І возьме ў рукі нож...

Закон патрэбен моцны:
Ліквідаваць у нас
І гультаёў з чырвонцамі,
І паразітаў клас.

## Сармацкае кадзіла

Адспявалі трубы залатыя,
Лета захлынулася ў расе
Кветкі ў лесе ёсць,
Але не тыя:
Да Чырвонай кнігі збеглі ўсе.

Дзе ты, КУРАСЛЕП ЛЯСНЫ?
Дзе ВОРЛІК?
Дзе МЯДЗВЕДЖАЯ ЦЫБУЛЯ— ЧАРАМША?
Ходзіш, ходзіш —
І пяршыць у горле...
Плач. асіроцелая душа.

А калісь было ўсяго надзіва!
Як збяднеў у нас зялёны свет.
Дзе знайсці САРМАЦКАЕ КАДЗІЛА,
СОН-ТРАВУ і МЕЧ-ТРАВУ і ПОЗНАЦВЕТ?

Вінаваты ў гэтым не сарматы,
Вінаваты ўсе мы: ты і я.
Каб адчуць сцюдзёны водар мяты,
За сто вёрст ляціць мая сям'я.

Душна ад жалезнага прагрэсу:
Дружна падразаем жылы лесу,
Траў і кветак топчам карані,
Ад зялёнай адракаемся радні.

Што ты плачаш па траве і кветках?
Адрадзілі ж мы зуброў, баброў...
Ну, а чорны бусел?
Вельмі рэдкі.
А заўсёды быў з людскіх сяброў.

Многа ліха—ды усюды ціха.
А зямля дакуль будзе цярпець?
А нашчадкам нашым
Чым жа дыхаць? —
Мы ўжо задыхаемся цяпер.

Трэба нам і захады і меры,
Каб між светлых беларускіх рос
Зноў расцвіў ЧАРАВІЧОК ВЕНЕРЫН
І ЗВАНОЧАК СІНІ ў лесе рос.

## Ружа

Куст ружы цвіў
І пышна, і нахабна...
І з двух бакоў
Глядзелі на яго:
Спакойны пасівелы чалавек
І хлапчанё, што летась
Навучылася хадзіць.
Стары глядзеў
І ціха жмурыў вочы,
І прывіды далёкія ўставалі
У белым,
У ружовым,
У зялёным...
А здзіўлены хлапчук
Глядзеў на ружу,
Як на цацку,
І захацеў сарваць,
А ружа
Ўпілася ў пальцы кволыя,
І на руцэ малога кроў была,
Як грозная перасцярога,
Што прыгажосці
Не заўсёды трэба верыць.

## Калі мы губляем час

Мы марна трацім час
На чаканне
Раствору, дэталей, патрэбных папер,
Начальства, цягніка,
Добрай пагоды,
Сустрэчы.
Рабуюць наш час
Памылковы план,
Канцылярская блытаніна,
Бюракратызм,
Нудныя даклады,
Абмеркаванне глабальных пытанняў,
Чытанне хлуслівых кніг,
Прагляд ідыёцкіх фільмаў...
Губяць наш час
Непатрэбная сварка,
Сапсаваны настрой,
Тэлефоннае пустаслоўе,
Перакур...
І толькі калі мы працуем са смакам —
Мы не губляем часу.
І толькі калі мы з вадою і сонцам —
Мы не губляем часу.
І толькі калі мы слухаем вецер,
Які ў лістоце шуміць зялёнай—
Мы не губляем часу.
І толькі калі мы гуляем з дзецьмі —
Мы не губляем часу.
І толькі калі мы пішам да маці —
Мы не губляем часу.

гэта пройдзе з ёю. Але яна раптам пачала хадзіць па сяле і прыглядалася да чужых дзяцей — шукала свайго...

Калі ўсё перамалолася, калі закончылася вайна, Манька стала для ўсіх вельмі патрэбным чалавекам — вясковай пастушкай. Яна акуратна выконвала свой абавязак. Аднак тое, даўняе, не пакідала яе і тады. Часам ні з таго ні з сяго магла заплакаць і плакала ціха, бязгалосна ці не ўвесь дзень. Або ўзрывалася дзікім рогатам і рагатала да слёз, да знямогі. Часцей за ўсё гуляла ў лялькі: скруціць хустку, перавяжа каснікам, гушкае, седзячы на выгане, пры каровах, і ўсё дае грудзей свайму «дзіцяці». У такія дні на выган разбіраць сваіх кароў хадзілі гаспадыні, а Маньку вяла якая-небудзь з баб дамоў і ўкладвала спаць. Іншы раз, праўда, на Маньку находзіла як бы праясненне. Яна, відаць, успрымала рэальны свет і тады рабілася як нямою. Ні слова ад яе, ні паўслова.

Аднойчы я дабіраўся ў Гуту напрасткі, ляснымі ды палявымі дарогамі. Выйшаў на выган, убачыў Маньку і прывітаўся. На маё прывітанне яна не адказала, а толькі запатрабавала:

— Цукерку дай!

Цукеркі пры сабе не меў. Паабяцаў прывезці ў наступны раз, калі збяруся ў Гуту. Манька ўнурыла галаў і ўжо як бы прасіла:

— Толькі тры цукерачкі... Сцёпку майму, доньцы і мне... У бліскучастых паперках!..

Летась мне зноў трэба было ў далёкую Гуту. Рыхтуючыся ў дарогу, успомніў Маньчын наказ. Але на выгане яе не застаў. Незнаёмы дзяцюк, што быў пры каровах, растлумачыў:

— А дурная Манька на касніку засілілася! На тым тыдні.

Тры цукеркі, загорнутыя ў чырвоную, жоўтую і зялёную паперкі, так і засталіся ў маёй кішэні.

## БЕЛАЯ ГАЛУБКА

Мы былі яшчэ ў такім стане, што хацелася аднаго — спакою. І выгляд, відаць, у нас быў яшчэ той. Прынамсі, я меркаваў так па суседу. Нейкае глыбокае раўнадушша ляжала на яго твары. раўнадушна мы елі, раўнадушна глядзелі на тое, што з намі рабіла сястрычка Нінка, наша дакторка і іншыя ў белых халатах, што прыходзілі да нас.

Адзінай уцехай, нейкай светлай кропкай надзеі была галубка. Яна прылятала да нас у палату праз адчыненую фортку кожны дзень у адзін і той жа час — у «мёртвую гадзіну». Спачатку садзілася на фрамугу, нейкі час пазірала ўніз, нібы пераконвалася, ёсць яшчэ мы ў палаце ці няма, пакручвала галоўкай, рабіла колькі крокаў управа, потым улева і тады злятала на білца майго ложка.

Падымацца яшчэ я не мог, таму працягваў руку да тумбачкі, браў з яе лустачку батона, крышыў у пальцах і высыпаў побач з ложкам. Галубка злятала туды, і чулася пастукванне дзюбкай аб падлогу. Я не бачыў, што рабіла там галубка, але здагадваўся: збірала крошкі.

Затое мой сусед, што ляжаў насупраць, нагамі да маіх ног, бачыў усё, пазіраў з ложка і каменціраваў:

— А скарыначак не хоча. Толькі мякіш дзяўбе. Даўкія, відаць, скарыначкі.

Голас яго быў спакойны, ціхі, нібы сыходзіў аднекуль здалёк, з самай глыбі ягоных грудзей.

Мне не відно было ўсяго таго, пра што казаў сусед, не відно было і галубкі, таму нецярпліва чакаў, калі яна выйдзе на сярэдзіну палаты. Яна выходзіла, і я ўжо мог добра разгледзець яе. І чырвоную дзюбку, трошкі з гарбацінкай, і пацеркі чорных вочак, і ружовыя, як з марозу, ногі, каструбаватыя пальцы з зеленаватымі кіпцюрыкамі. Яна ўся была такая чысцюткая — быдта грудка свежага снегу. Рабілася на душы светла. Недзе ў падсвядомасці нараджалася надзея на добрае. Думалася: прыляціць галубка яшчэ разоў пяць, і дакторка дазволіць нам, хоць трошкі, пасядзець на ложку. Прыляціць яшчэ разоў пяць, і мы з таварышам зможам ужо і да акна дакляпаць, зірнуць, што робіцца на волі. А яшчэ дзён праз пяць нам дазволяць выходзіць у калідор...

Увогуле, белая галубка была для мяне як знак нечага дарагога, чаканага.

Аднойчы пайшоў няспынны восеньскі дождж, і галубка да нас не прыляцела. Ці ад таго, што яе не ўбачыў, ці ад таго, што вельмі ўжо «плакалі» вокны, рабілася блага. Адчуваў, што блага было і суседу. Ён ляжаў тварам дагары, скрыжаваўшы на грудзях рукі, пазіраў у столь і маўчаў. Маўчаў ён амаль увесь дзень. Нават калі прыбягала сястрычка Нінка рабіць уколы, нават калі ў абед бралася яна пакарміць яго.

Хто ён быў? Прыезджы? Тутэйшы? Я не ведаў. Пытацца было не час і не з рукі. Вунь ужо каторы дзень ляжым разам, а да яго ніхто не прыходзіць, не прыносяць нават перадач. Паспрабаваў загаварыць з ім, але з гэтага нічога не атрымалася. У адказ ён толькі заплюшчыў вочы і ледзь прыкметна махнуў рукою. У думках я ахрысціў яго Маўчуном.

Пад вечар неспадзеўна і неяк паспешліва ўсё ж прыляцела наша галубка і пачала танцаваць на маім білцы. Маўчун раптам загаварыў. Ён сказаў:

— Як смерць, белая...

— Чаму, як смерць?— запярэчыў я.— Хутчэй, як анёл. Маўчун махнуў рукою:

— Усё адно адтуль...

І заплюшчыў вочы.

Я па-ранейшаму ўзяў з тумбачкі акрайчык батона, што застаўся з абеду, раскрышыў і стаў высыпаць на падлогу. Галубка саскочыла, пачала частавацца. Але я не ведаў, як яна тое рабіла — Маўчун не каменціраваў.

Ноччу я прачнуўся ад прадчування чагосьці нядобрага. Моцна хроп Маўчун, а ў кароткія хвіліны зацішша—стагнаў і ўсё клікаў:

— Ма-ам-ка! Мамка!..

Сніў, відаць, нешта. Ці мо балела вельмі. Але калі я гукнуў яго і запытаўся, мо што трэба, ён не сонным, а спакойным, нават разважлівым, голасам прамовіў:

— А нічога не трэба.

Раніцою, пасля абходу, яму паставілі кропельніцу. Увесь гэты час у палату забягалі то дакторка, то сястрычка Нінка, то яшчэ нейкія людзі ў белых халатах. Прыбеглі і з кардыёграфам — здымалі чарговае паказанне сэрца. А ён быдта і не заўважаў усяго гэтага, ляжаў спакойна і толькі зрэдку клікаў:

— Мамка! Ма-ам-ка!..

— Колькі яму?— ціха спытаў у дакторкі высокі мужчына, відаць, старэйшы з іх.

— Шэсцьдзесят два.

Высокі хітнуў галавою, даў нейкія парады дакторцы і пайшоў з палаты.

У абед Маўчун быдта павесялеў. Прыўзняўся на падушцы, абвёў далонёю твар, аброслы густой шчаціннай, і папрасіў:

— Паголіцца б...

Цырульнік, у гадах ужо жанчына, галіла яго доўга і акуратна, нібы рыхтавала бог ведае да якой урачыстасці. Напаследак выцерла ручніком лішнія намыліны, акрапіла твар адэкалонам і пажартавала:

— Цяпер хоць пад вянец!

Маўчун ледзь прыкметна ўсміхнуўся ёй:

— Але, у самы раз.

І змоўк. І зноў неяк дзіўна паклаў рукі на грудзі, утаропіўся ў столь і ўжо не падаваў голасу. Нібы спаў.

Ад яды ў абед ён адмовіўся.

А калі потым уляцела ў фортку галубка, села на білца майго ложка ды пачала вуркатаць, Маўчун як бы прачнуўся. Вочы яго здаліся страшнымі:

— Па мяне... Прыляцела!..

Ён гэта не сказаў — амаль пракрычаў. Галубка спалохалася, кінулася ў фортку і знікла.

І тады Маўчун ухапіўся рукою за парэнчыну ложка, падцягнуў сябе па падушцы трошкі вышэй, клікнуў «Ма-ам-ка!» і стаў асоўвацца. Твар яго рабіўся сінім.

Я штосілы закрычаў:

— Сястра-а-а!..

Уляцела Нінка, кінулася да Маўчуна.

— Дзедка!— прасіла яна, і ў яе голасе былі і просьба, і слёзы.— Не трэба, дзедка! Вазьмі сябе ў рукі! Усё будзе добра!..

Я і не згледзеў, як ля ложка Маўчуна з'явіліся людзі ў белых халатах, прыцягнулі вазкі з нейкімі апаратамі, пачалі нешта з ім рабіць.

— Адрэналін!—ціха, але патрабавальна сказаў высокі мужчына.

Але было позна. Маўчун змоўк. Назаўсёды. Яго накрылі прасцінаю і разам з ложкам вывезлі з палаты.

Я ляжаў, узрушаны ўбачаным, і раптам пачуў усхліпы. Перавёў пагляд туды, адкуль яны даносіліся, і заўважыў: за рукамыйнікам, у куточку, абхапіўшы далонькамі галаў, на белай табурэтцы сядзела сястра Нінка і плакала.

Увесь наступны дзень ложак Маўчуна пуставаў.

На душы было маркотна.. Вось і закончыў чалавек свой шлях! Быў ён, відаць, не лёгкім, калдобістым, пакручастым. Але на кожным яго зломе чалавек помніў, трымаў у сэрцы найдаражэйшае слова. Ён і пайшоў з ім туды, адкуль ужо ніхто не вяртаецца.

Апоўдзень зноў прыляцела белая галубка. Рука, было, сама пацягнулася да тумбачкі, але раптам перад вачыма паўстаў твар Маўчуна, успомніліся ягоныя апошнія словы, і мяне ажно сцепанула. Чамусьці не ўзяў прызапашаную лустачку батона, не стаў раскрышваць яе, не стаў ссыпаць крошкі на падлогу.

Галубка пільна, нібы з дакорам, пазірала мне ў вочы.

На трэці тыдзень пасля Маўчуна мяне выпісалі. Асцярожна ступаючы, ішоў даўжэзным бальнічным калідорам, як раптам убачыў: насустрач бегла-ляцела наша сястрычка Нінка. Яна была ў бялюткім халаціку. Параўнялася, прыпынілася, узялася за мой рукаў, як гэта робяць мацяркі, выпраўляючы дзяцей у далёкую дарогу, нешта хацела сказаць, але не сказала, самотна ўсміхнулася і пабегла далей.

Я пастаяў трошкі і азірнуўся.

Нінка была далёка.

ваць сябе па-сапраўднаму шчаслівымі, паколькі яны, дзякуючы сваім поспехам, знаходзяцца ў саюзе з будучыняй, працуюць на яе. Пра зямлю, пра людзей працы чытае свае вершы Ю. Свірка: «Заглядаю я у вёску, як у слоўнік, каб упэўніцца, што правільна пішу».

На праблемы, якімі жыве сёння і кожны сумленны чалавек і ўсё чалавецтва, звяртае ўвагу В. Казько, адзначаючы, што літаратура заўсёды павінна быць у добрай меры публіцыстычнай, бо надышла пара актыўнага ўмяшання пісьменнікаў у жыццё, і тут шмат залежыць ад грамадзянскай пазіцыі кожнага аўтара. Пра публіцыстычнасць не павінна забываць і паэзія. Таму не выпадкова сярод прачула-лірычных, засяроджана-роздумных вершаў, прачытаных Я. Міклашэўскім, гучыць і гэты, у якім заклік да дзейсных дзеянняў: «За жыццё патрэбна ўсім змагацца, за жыццё патрэбна ўсё аддаць!»

З увагай слухае зала пісьменніка-земляка В. Дайліду, які неаднаразова бываў і ў Казловічах, пра справы кіраўцаў расказваў у сваіх нарысах. У. Скарынкін знаёміць прысутных са сваімі вершамі, у якіх паяднаны дзень учарашні і сённяшні, жыве заклапочана роздум нашага сучасніка.

Раз-пораз у прэзідыум паступаюць запіскі, у якіх чытачы цікавяцца, над чым працуюць пісьменнікі. Людна было і ля кніжнага кіёска. Працаўнікі вёскі з задавальненнем куплялі кнігі ўдзельнікаў вечара, тут жа атрымлівалі аўтографы. Завязвалася шчырая, непасрэдная гаворка, якая яшчэ раз пацвярджала, што такія сустрэчы патрэбны і пісьменнікам і іх чытачам.

**А. КУНЦЭВІЧ.**

Фота Ул. КРУКА.

---

дзяліцца з суседзямі тэхнікай. А калі ўсё ж прыгоняць камбайны на поле ў адстаючы калгас, Трафімыч звыкла растлумачыць: «Толькі з павагі да цябе, Нікіціч...»

Словам, праблемнасць фільма робіцца фонам, на якім фігуруе яркая і прывабная ў акцёрскім выкананні асоба героя.. Дапусцім, так фільм адгукаецца на грамадскае запатрабаванне — паказаць сацыяльна значны вобраз. З ідэйнасцю, значыць, у карціне парадак. Трывожыць іншае. Пошук «параднага ўваходу» ў кінапрацэс нівеліруе мастакоўскую індывідуальнасць. Небяспечны такі «пошук» для чалавека маладога, які яшчэ не мае досыць грунтоўнага, сталага меркавання пра жыццё. На жаль, Б. Гарошка, які паставіў толькі другі поўнаметражны фільм (пасля «Дачкі камандзіра»), а ўслед за ім і вопытны аператар Э. Садрыеў не прапанавалі цікавы мастацкі спосаб увасаблення «ідэі». Мала таго: яны ўбачылі яе як голую самамэту, дзеля якой аказалася зручным выкарыстаць усе знойдзеныя іншымі кінематаграфістамі мастацкія сродкі.

Уражанні ад фільма «З юбілеем пачакаем» зноў пераконваюць, што паняцці «сацыяльная значнасць», «ідэйнасць» — не сцягі, якімі трэба ўпрыгожваць мастацкі твор. Гэта паняцці, звязаныя з маральнай і грамадзянскай пазіцыяй мастака, і яны ні ў якім разе не замяняюць майстэрства.

Сказаць сваё слова пра сучаснага станоўчага героя ў перыяд інтэнсіўнай перабудовы грамадскіх запатрабаванняў — пакуль прыярытэт на гэтай пазіцыі застаецца за беларускімі кінадакументалістамі. Быццам у прадчуванні такога Ткачука, які вырас на гарадской глебе, рэжысёры Ю. Лысятаў (фільм «Круглы год») і І. Калоўскі («Зерне») далі нам моцныя ў сваёй канкрэтнасці і ў той жа час абагульненасці вобразы рэальных старшынь. Не збоку, а **разам** з імі «пражываюць» дакументалісты жыццё, напоўненае свежымі пахамі зямлі. Гэтыя напружаныя, пульсуючыя будні імклівыя ў плыні вострых сумненняў, пошукаў. Таму такая дарагая паўза на экране, калі, спыніўшыся на імгненне ў хуткай плыні часу, гэтыя людзі сённяшняй вёскі прыслухоўваюцца да сябе, каб зразумець вечна чалавечае: «Чаму гэтак неспакойна на душы?». Так спыталі аднойчы сябе героі «Зерня». Ці думаў над гэтым старшыня Ткачук?

**Ніна ФРАЛЬЦОВА.**

---

## МУЗЫКА

НАСУСТРАЧ XXVII З'ЕЗДУ КПСС

# РАДАСЦІ, ТРЫВОГІ І НАДЗЕІ

ЖЫЦЦЁ творчага калектыву неадлучнае ад жыцця краіны, рэспублікі. Як кожны жывы арганізм, тэатр — гэта няспынныя пошукі, пралікі, перамогі, засмучэнні, спадзяванні і радасці. Гэта — рух.

**Сёння вельмі карысна і патрэбна азірнуцца на пройдзенае пяцігоддзе, ад з'езда да з'езда, каб многае асэнсаваць, каб непрадузята ацаніць як дасягненні, так і пралікі. Гаварыць буду пра тое, што мне бліжэй, — пра оперную трупу тэатра, у якім працую (наш балет, зразумела, заслугоўвае асобнай гаворкі). Пры ўсёй пахвальнай сціпласці і вострай самакрытычнасці ёсць падставы сцвярджаць, што зроблена за міжз'ездаўскі час нямала. Паспрабую назваць хоць бы некаторыя падзеі, якія я лічу важнымі, прынцыпова значнымі ў жыцці калектыву за гэты перыяд. Сярод новых спектакляў — «Снягурачка» М. Рымскага-Корсакава, «Казкі Гофмана» Ж. Афенбаха, беларуская опера «Новая зямля» Ю. Семянякі, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа; opернае палатно С. Пракоф'ева «Вайна і мір», увасобленае да ўсенароднага святкавання 40-годдзя Вялікай Перамогі; опера М. Глінкі «Іван Сусанін», якой адкрыліся гастролі нашага тэатра ў Маскве, прысвечаныя 40-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў.**

**Творчая справаздача ў сталіцы нашай Радзімы прайшла на высокім ідэйна-мастацкім і арганізацыйным узроўні — пра гэта паведамлялася ў друку. Спектакль тэатра па оперы Г. Вагнера «Сцяжынаю жыцця» быў адзначаны спецыяльнай прэміяй міністра культуры СССР П. Н. Дземічава.**

**За апошні час у Мінску прайшоў традыцыйны III Усесаюзны фестываль творчай моладзі музычных тэатраў. Многія маладыя салісты беларускай оперы вылучыліся на адказных усесаюзных і міжнародных спаборніцтвах, сталі лаўрэатамі і дыпламантамі. Гэта М. Мурадзян, В. Полазаў, Л. Колас, М. Рысаў, А. Дзічкоўскі...**

**Яшчэ адну падзею нельга абмінуць: у Мінску створаны Клуб сяброў оперы, папулярнасць якога павялічваецца.**

**Наш тэатр урачыста адзначыў 50-годдзе, пачаўся новы перыяд яго жыцця. Аддамо належнае здзейсненаму і паглядзім зараз на некаторыя нявырашаныя пытанні.**

АСНОВА жыцця творчага калектыву — рэпертуар. У ім не толькі ідэйна-мастацкая і эстэтычная накіраванасць, але, што не менш важна, і рытмічнасць дзейнасці вялікай тэатральнай гаспадаркі. **Стабільнасць** рэпертуару адлюстроўвае цвёрдыя, прынцыповыя пазіцыі кіраўніцтва. **Стыхійнасць** жа ў гэтым галоўным пытанні, пэўная хісткасць, — прыкметы мікробаў, якія праніклі ў здаровы арганізм. І вось вынік: адна назва замяняецца другой; нечакана з'явіўшыся ў планах, яна гэтак жа нечакана знікае. А, бывае ж, на працу ўжо затрачаны час, і значны! Прычым, матывы такіх «творча-няпланавых» перападаў застаюцца загадкай нават для членаў мастацкага савета. (Можна ўспомніць у сувязі з гэтым «Аптэкара» І. Гайдна або «Лекара міжволі» Ш. Гуно). Не заўсёды рэпертуарны план, які прапаноўваецца, прадуманы да канца, усебакова ўзважаны, творча і арганізацыйна матываваны. А рэпертуарны план — гэта пазіцыя тэатра, не проста пералік назваў. І тады сход салістаў (дый мастацкага савета) ператвараецца ў своеасаблівае «веча», калі ў шматгалоссі цяжка пачуць голас ісціны.

«Трэба ставіць «Паяцы»! — Нічога падобнага — «Атэла»!» — гэта спрачаюцца тэнары. З імі не згаджаюцца каларатурныя сапрана, сцвярджаючы, што «...толькі ў «Лючыі дэ Ламермур» або ў «Лакме» выратаванне тэатра». Басы патрабуюць «Руслана»; барытоны не могуць жыць без «Дэмана» і г. д. Кожны паасобку і кожны пра сваё. Аднойчы з такога «веча» пераможцамі выйшлі мецца-сапрана і ўсе вырашылі тэрмінова (тэрмінова — гэта надзейная прыкмета будучай штурмаўшчыны) ставіць «Кармэн». Рэжысёр, акунуўшыся ў матэрыял, шукаў сцэнічную трактоўку; дырыжор паехаў у Маскву вывучаць аўтарскую партытуру оперы; мастак начамі працаваў над макетам. Нарэшце, мастацкі савет абмяркоўвае экспазіцыю будучага спектакля, дэкарацыйнае вырашэнне, ухваленае пастановачнай групай і... пасля ўсяго гэтага — спектакль не ідзе! Чаму? Ніхто толкам адказаць не можа, пры тым, што «калідорных» тлумачэнняў хоць адбаўляй.

Я разумею, што жывое жыццё кожнага тэатра часам карэкціруе прынятыя рашэнні, ды толькі ў тым выпадку, калі гэтыя карэктывы сур'ёзна матываваны і даведзены да ведама калектыву. Я разумею, што план — не догма, а кіраўніцтва да дзеяння. Але ці можна ўсур'ёз лічыць кіраўніцтвам да дзеяння загад аб бліжэйшых пастаноўках, у якім не ўказаны ні рэжысёр, ні мастак, ні даты, хоць бы прыблізныя, выпуску гэтых спектакляў? Спецыфіка опернай вытворчасці (у адрозненне ад драматычнага тэатра) у яе шматмернасці, шматпластавасці, і гэта вымагае вызначыць назву пастаноўкі мінімум за год да яе ажыццяўлення. Ды і гэты год часта нічога не гарантуе, бо наперадзе такі цярністы шлях абмеркаванняў, узгадненняў, зацвярджэнняў, такое крутое кола інстанцый, што не кожная назва прыходзіць да фінішу «ў добрым здароўі». А завяршае ўсё і канчаткова зацвярджае план калегія Міністэрства культуры БССР ужо тады, калі што-небудзь змяніць практычна немагчыма. Праблема гэта шырока абмяркоўваецца ў маштабе краіны, але адносна толькі драматычных тэатраў, хоць і да нашай опернай справы яна мае непасрэднае дачыненне.

КАЛІ ЗЫХОДЗІЦЬ з таго, што праца над нацыянальным рэпертуарам — не часовая кампанія, прымеркаваная да якой-небудзь значнай даты, а планамерная, найважнейшая ў сваёй перспектыве дзейнасць тэатра, дык трэба прызнаць з усёй шчырасцю, што становішча тут даволі трывожнае.

Оперы піша кампазітар, і калі іх няма — тэатр бездапаможны. Але ніводны кампазітар не пачне гэтую тытанічную працу без хоць бы надзеі (я не кажу — упэўненасці), што яго твор убачыць святло рампы. І ў гэтым сэнсе ад тэатра многае залежыць: залежыць жаданне або нежаданне кампазітара брацца за оперу.

Цяперашнія сувязі тэатра і беларускіх кампазітараў значна паслаблі. **На сённяшні дзень ніводзін кампазітар, наколькі мне вядома, не піша для нашага тэатра.** Я быў бы шчаслівы памыліцца, выказваючы гэтую горкую думку. Ці вінаваты тэатр? Не зусім. А паставім пытанне інакшай: ці ўсё зрабіў тэатр, каб зацікавіць, а не адштурхнуць аўтараў? Некалькі гадоў назад прынеслі свае партытуры С. Картэс і Д. Смольскі, прынеслі пасля паспяховых дэбютаў у оперным жанры. Як склаўся лёс новых твораў? Кампазітар Д. Смольскі мае рэдкі меладычны дар, валодае вакальнай палітрай як у сольных, так і ў харавых партыях, што выявілася і ў новай яго партытуры «Францыск Скарына». Аднак драматургія оперы аказалася рыхлай, з яўнымі слядамі аўтарскай паспешлівасці, пра што і сказалі члены мастацкага савета тэатра. Але тады ж была ўнесена прапанова стварыць пастановачную групу і паспрабаваць разам з аўтарам па магчымасці пераадолець адзначаныя недахопы. На жаль, усё засталося на словах.

Іншы лёс, хоць не менш сумны, у оперы С. Картэса «Матухна Кураж». Адобраная Міністэрствам культуры СССР, двойчы аднагалосна падтрыманая мастацкім саветам нашага тэатра; нарэшце, з поспехам пастаўленая ў тэатрах Літвы і Малдавіі, да гэтага часу яна так і не прагучала на беларускай сцэне. Знакамітая першаснова оперы, п'еса Б. Брэхта, як і сам аўтар, не мае патрэбы ні ў якіх рэкамендацыях; што датычыць музыкі, то яна даўно і грунтоўна ацэнена ў саюзным друку. «Опера «Матухна Кураж» С. Картэса... стала своеасаблівым маніфестам Міру, гнеўным выкрыццём тых, хто рыхтуе новую імперыялістычную бойню», — пісаў часопіс «Советская музыка». Ці ж у дадзеным выпадку тэатр не адштурхоўвае кампазітара, прычым, аднаго з самых перспектыўных, улюбёных у тэатр, які жадае з тэатрам супрацоўнічаць? Ці ж мы не сячом сук, на якім сядзім?

А пакуль, акрамя «Каваля» Л. Шлег, прынятага да пастаноўкі, практычна нічога няма.

Нас часта папракаюць за адсутнасць у рэпертуары беларускай класікі. Не заўсёды гэтыя папрокі справядлівыя. Не надта даўно тэатр, канкрэтныя кіраўнікі звярнуліся да оперы А. Багатырова «У пушчах Палесся», у свой час высока ацэненай крытыкай і грамадскасцю. Кампазітар разам з тэатрам стварыў новую рэдакцыю оперы, дапісаў цэлую карціну, увёўшы вобраз Ф. Дзяржынскага. У гэтым выглядзе твор быў праслуханы і ўхвалены мастацкім саветам тэатра. Здавалася б... Але опера не пайшла з-за нейкіх, дасюль загадкавых, матываў... Разабрацца ў прычынах такой непаслядоўнасці не пашкодзіла б, тым больш, што праз некалькі гадоў опера была пастаўлена Беларускім тэлебачаннем. Дзе ж логіка і прынцыповая пазіцыя?

Не сакрэт, мы, дзеячы мастацтва, навучыліся вельмі таленавіта тлумачыць недахопы ў сваёй рабоце. А «недахопы — на гэтым мы цвёрда настойваем — трэба не апраўдваць, а выпраўляць». (Цытую словы М. С. Гарбачова з яго адказаў на пытанні газеты «Юманітэ»). Упэўнены, што творчыя ўзаемаадносіны тэатра і кампазітараў вымагаюць карэннага перагляду. Бо абодва бакі зацікаўлены ў добразычлівых, скажу больш — улюбёных адносінах адно да аднаго.

**БУДУЧЫНЯ тэатра нараджаецца сёння. Мы з надзеяй думаем пра нашу Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, дзе, урэшце, і павінны гадавацца кадры для нашай опернай сцэны. Нас трывожыць і засмучае адсутнасць якой бы то ні было творчай сувязі паміж тэатрам і кансерваторыяй. Глухая сцяна аддзяляе нас. Пазбаўленыя канкрэтнай тэатральнай практыкі, студэнты-вакалісты нагадваюць людзей, якія вучацца плаваць, не ўваходзячы ў ваду. Існуюць як быццам дзве адасобленыя сферы творчасці — кансерваторыя і тэатр. Гэта тым больш дзіўна, што ў сумежных відах мастацтва даўно задумаліся пра непасрэдную сувязь тэорыі і практыкі. Не выпадкова пры многіх акадэмічных тэатрах узніклі школы, студыі, у тэатральных інстытутах уводзіцца сумеснае навучанне акцёраў і рэжысёраў. А хіба можна сёння ўявіць прафесійны балет без удзелу харэаграфічнага вучылішча? Менавіта таму калектыў балета штогод папаўняецца маладымі выхаванцамі, для якіх вялікая сцэна, святло рампы, аркестр, партнёры не з'яўляюцца чымсьці нечаканым, што бянтэжыць, скоўвае.**

**Опера наша двойчы спрабавала прапанаваць кансерваторыі руку творчай дружбы, але... Рыхтуючыся да пастаноўкі «Вайны і міру», мы прапанавалі праслухаць студэнтаў 4 і 5 курсаў і даручыць ім невялікія і нескладаныя ролі. Упэўнены ў велізарнай карысці з гэтага пункту гледжання і асваення прафесійнай сцэны, і далучэння да сучаснай мовы С. Пракоф'ева і філасофскай глыбіні талстоўскіх вобразаў. Наша прапанова не была прынята: адзін І. Шупеніч аказаўся выключэннем, якое пацвярджае правіла. (Ставячы гэтую оперу больш за 20 гадоў назад у Новасібірску, я звяртаўся з аналагічнай прапановай да кіраўніцтва мясцовай кансерваторыі і сустрэў радасную і ўдзячную падтрымку. Студэнты прайшлі тады добрую прафесійную школу, і не выпадкова многія з іх цяпер вядучыя салісты буйных оперных тэатраў краіны).**

Думаецца, трэба абмеркаваць практыку студэнтаў-вакалістаў, дапусцім, з 3 курса навучання: няхай у эпізодах або нават у масавых сцэнах, але ў **тэатры** праходзіць яна — там, дзе ім наканавана прадоўжыць свой творчы шлях. Дарэчы, рэпеціруючы оперу Г. Вагнера «Сцяжынаю жыцця», мы таксама хацелі на ролі сучаснікаў запрасіць студэнтаў, што было б надзвычай карысна і для спектакля, і для вакалістаў. На жаль, наш намер так і застаўся намерам. Дык ці не варта карэнным чынам перагледзець узаемаадносіны кансерваторыі і тэатра? Упэўнены: у адзінстве тэорыі і практыкі кроўна зацікаўлены абодва бакі.

МАЕ РАЗВАГІ, крытычныя меркаванні, якія далёка не вычэрпваюць вялікіх і малых праблем (хоць у тэатры дробязей няма), ні ў якім разе не могуць кінуць цень на дасягненні, на яркі творчы шлях, пройдзены калектывам ад з'езда да з'езда. У праекце новай рэдакцыі Праграмы КПСС ёсць такія радкі: «Перад дзеячамі літаратуры і мастацтва — шырокі прастор для далейшага развіцця разнастайных рэалістычных форм, стыляў і жанраў». І наш оперны калектыў павінен рыхтавацца да вырашэння на новым этапе больш складаных ідэйна-мастацкіх задач.

**Сямён ШТЭЙН,**
**народны артыст БССР,**
**рэжысёр-пастаноўшчык**
**Дзяржаўнага тэатра оперы**
**і балета БССР.**

## ПОМНІКІ РОДНАГА КРАЮ

# ЗБЕРАГАЦЬ, АДНАЎЛЯЦЬ, СКАРЫСТОЎВАЦЬ

На працягу шэрага год у нашай газеце існуе рубрыка «Помнікі роднага краю». Пад ёй было змешчана нямала артыкулаў па пытаннях аховы і выкарыстання помнікаў гісторыі і культуры, асвятляліся праблемы архітэктурнай спадчыны, друкаваліся шматлікія допісы і фотаінфармацыя. Ёсць падставы лічыць, што публікацыі мелі рэзананс, спрыялі актывізацыі грамадскай думкі, паскорылі практычныя крокі ў галіне аховы гістарычнай спадчыны.

Партыя і дзяржава заўжды надавалі вялікае значэнне поўнаму і глыбокаму асваенню працоўнымі масамі багаццяў духоўнай і матэрыяльнай культуры, актыўнаму далучэнню іх да мастацкай творчасці. Гэта адзначана і ў праекце новай рэдакцыі Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза: «Паслядоўна кіруючыся ленінскімі прынцыпамі культурнага будаўніцтва, партыя будзе клапаціцца аб эстэтычным выхаванні працоўных, падрастаючых пакаленняў на лепшых узорах айчыннай і сусветнай мастацкай культуры». Прыгадаем і тое, што наша Канстытуцыя вызначае клопат аб ахове гістарычна-культурнай спадчыны як абавязак савецкіх людзей.

Вялікая справа непазбежна нараджае пытанні, якія патрабуюць тэрміновага вырашэння. Сваімі думкамі пра ахову і скарыстанне помнікаў і ролю ў гэтай справе сродкаў масавай інфармацыі мы папрасілі падзяліцца прадстаўнікоў аб'яднання «Белрэстаўрацыя», Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Міністэрства культуры БССР, Саюзаў мастакоў і пісьменнікаў Беларусі, Акадэміі навук БССР. Вось што яны паведамілі нашаму карэспандэнту.

**Алег ТРУСАЎ**, археолаг, кандыдат архітэктуры, намеснік загадчыка праектнага бюро Беларускага спецыяльнага навукова-рэстаўрацыйнага вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя»:

— Па-першае, я хацеў бы адзначыць, што публікацыі ў «ЛіМе» адыгралі станоўчую ролю ў справе асвятлення нашых праблем, у фарміраванні грамадскай думкі. Калі раней для нас звычайным было пытанне «Каму патрэбны тыя замкі і цэрквы, калі не хапае кінатэатраў?», дык зараз у рэстаўратараў пытаюцца, чаму яны працуюць марудна і з нізкай якасцю. Так што, як бачыце, рух наперад ёсць. І ёсць у гэтым пэўная заслуга «ЛіМа». Хай гэтая справа і будзе надалей падоўжана.

Але, мне здаецца, сёння ўжо недастаткова паставіць пытанне. Трэба дамагацца рашэння на месцы.

На сённяшні дзень вельмі важна падтрымліваць і развіваць ініцыятыву на месцах. Так, дзякуючы ініцыятыве мясцовых улад, у Мсціславе, Вілейцы, Полацку адноўлены шматлікія помнікі гісторыі і культуры. У адных выпадках зроблена рэстаўрацыя, у іншых — кансервацыя, і помнік можа спакойна чакаць рэстаўратараў. Я падкрэсліваю, лёс помнікаў, іх ураташанне — у руках мясцовых улад. Трэба не забываць і пра пісьмовыя помнікі, і пра выяўленчае мастацтва, этнаграфію, фальклор, бо культуру нельга ўспрымаць інакш, як суцэльную сістэму.

**Валянціна ЦІХАНАВЕЦ**, сакратар прэзідыума рэспубліканскага савета Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры:

— Вельмі важнай, можа, нават ключавой, з'яўляецца сёння праблема другога жыцця помніка. Адзін лепш падыходзіць пад канцэртную залу, другі — пад музей, трэці — пад навучальную ўстанову. Прапановы адносна скарыстання яго пасля рэстаўрацыі ці рэканструкцыі павінны абмяркоўвацца шырокай аўдыторыяй, і «ЛіМ» у гэтым выпадку можа выступаць у ролі каардынатара грамадскай думкі.

Мне здаецца, што вырашаць гэтую праблему немагчыма без адказу на пытанне, хто ў кожным канкрэтным выпадку павінен несці адказнасць за захаванасць таго ці іншага помніка.

Варта было б арганізаваць у рэспубліканскім друку абмеркаванне па пытаннях мастацкага вобраза адноўленых помнікаў, у якім прынялі б удзел усе зацікаўленыя: Акадэмія навук, «Белрэстаўрацыя», Таварыства аховы помнікаў, творчыя саюзы, прадстаўнікі грамадскасці. Гэта дало б магчымасць спрыяць комплекснаму вырашэнню названай праблемы. Мы хацелі б, каб сродкі масавай інфармацыі шырэй асвятлялі некаторыя аспекты дзейнасці таварыства. Напрыклад, як вядзецца прапаганда гістарычнай спадчыны. Мы выдаём штогод 8—10 брашур. Тыраж невялікі. У асноўным яны служаць метадычным матэрыялам для пярвічных арганізацый, да шырокага чытача не падыходзяць. Нават кароткая інфармацыя ў рубрыцы «Помнікі роднага краю» ці ў якой іншай была б для нас карыснай.

Не так даўно арганізаваны Фонд аховы помнікаў, куды кожны, хто жадае, можа зрабіць грашовы ўзнос. Ёсць прыклады, калі добраахвотнікі працуюць у свой вольны час бясплатна на рэстаўрацыі помнікаў. Гэтыя патрыятычныя ініцыятывы таксама павінны асвятляцца і прапагандавацца.

І яшчэ адно балючае пытанне —не выкананне заканадаўства аб ахове помнікаў. Я не памятаю выпадку, каб за гэта каго-небудзь каралі.

**Валянцін ЗАНКОВІЧ**, скульптар, адзін са стваральнікаў Хатынскага мемарыяла, лаўрэат Ленінскай прэміі:

— На маю думку, трэба не толькі аналізаваць існуючыя помнікі, іх гісторыю і сучасны стан, але і думаць пра будучыя. Пра тое, што нам трэба і чаго мы, на жаль, не маем. У нас, напрыклад, няма помнікаў Каліноўскаму і іншым героям 1863 года, Міколу Гусоўскаму, Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, Францішку Багушэвічу, Максіму Гарэцкаму, і гэты спіс можна было б доўжыць.

У шырокім сэнсе ўся наша зямля — гэта велізарны храм памяці, помнік мужнасці, гераізму, таленту, самаадданасці беларускага народа. Таму варта больш расказваць пра мясціны, якія звязаны з імёнамі слаўных людзей Беларусі.

Мяне, напрыклад, здзіўляе, што да гэтага часу прэса аніяк не адгукнулася на стварэнне выдатнага ў мастацкіх і ідэйных адносінах мемарыяла «Рудабельскай рэспублікі» (скульптар Ю. Палякоў, архітэктары У. Кузьменка, В. Крамарэнка, У. Шчарбіна). Мае сэнс расказваць не толькі пра існуючыя помнікі, але і асвятляць ход рэспубліканскіх конкурсаў, каб стварэнне мемарыялаў, увогуле пытанні манументальнай прапаганды былі агульнаграмадскай, а не вузкаспецыяльнай справай.

**Аляксандр КАНАВАЛЕНКА**, начальнік Упраўлення музеяў і аховы помнікаў Міністэрства культуры БССР:

— З усіх публікацый «ЛіМа» па пытаннях аховы помнікаў найбольшы рэзананс меў артыкул «Выбух», дзе былі выкрыты факты парушэння заканадаўства. Тое, што адбылося ў Віцебску, нельга класіфікаваць інакш, як выпад супраць духу і літары закона.

Шчыра кажучы, у самім Віцебску мала што змянілася, але факты, адлюстраваныя ў артыкуле, былі разгледжаны Саветам Міністраў рэспублікі. У выніку падрыхтаваны і прадстаўлены ў Савет Міністраў БССР новыя Дзяржаўныя спісы помнікаў гісторыі, археалогіі, архітэктуры і горадабудаўніцтва, манументальнага мастацтва. Вядзецца карэкціроўка Дзяржаўных спісаў помнікаў гісторыі і культуры мясцовага значэння, якія будуць прадстаўлены на зацвярджэнне аблвыканкомаў.

Створана аб'яднанне «Белрэстаўрацыя». Прымаюцца меры па ўмацаванні матэрыяльнай базы рэспубліканскай рэстаўрацыйнай арганізацыі. На стадыі завяршэння будаўніцтва вытворчай базы Мінскай міжабласной спецыяльнай навукова - рэстаўрацыйнай вытворчай майстэрні. Гродзенскім аблвыканкомам вырашана пытанне перадачы вытворчай базы зноў створанай Гордзенскай міжабласной СНРВМ. У 1987 годзе плануецца стварэнне СНРВМ у Магілёве, рыхтуецца абгрунтаванае рашэнне на стварэнне рэспубліканскага спецыялізаванага праектнага інстытута. Гэта значны крок наперад, але негатыўных фактаў у нас і сёння хапае. У рэстаўратараў пашыраюцца магчымасці, і адпаведна, пашыраецца кола пытанняў, якія патрабуюць асвятлення. Вырашэнне многіх з іх залежыць ад зацікаўленых адносін шэрага міністэрстваў і устаноў, а таксама ад мясцовых Саветаў.

**Адам МАЛЬДЗІС**, пісьменнік, загадчык сектара Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР:

— Вельмі важная справа — прапаганда малавядомых помнікаў. Гісторыя не можа пісацца толькі вялікімі літарамі, такімі, як Мірскі замак ці Полацкая Сафія. З павагай трэба ставіцца да ўсяго тэксту. Тут можна прывесці і адмоўныя, і станоўчыя прыклады.

У Плябані Маладзечанскага раёна храм, пабудаваны ў XIX стагоддзі на падмурку XIV, выкарыстоўваюць для сваіх трэніровак альпіністы. Гэта, зразумела, не спрыяе яго захаванасці. А недалёка ад будынка — магілы паўстанцаў 1863 года. Тут сілай мясцовых энтузіястаў рыхтуецца помнік. Яшчэ прыклад. Недалёка ад Ляхавіч у маёнтку Грушаўка захаваўся будынак палаца, пабудаваны ў пачатку XIX стагоддзя ў неарамантычным стылі. Гэты помнік мае агульнаеўрапейскую вядомасць. У 1875 годзе ў Парыжы выйшлі «Успаміны літоўскія» Ганны Герычовай (па бацьку Рэйтан) з яго дакладным апісаннем. Сёння энтузіясты ставяць пытанне аб стварэнні ў будынку палаца цэнтра мясцовых рамёстаў, а ў будучым краязнаўчага музея. Такую ініцыятыву трэба падтрымаць.

Вось яшчэ тэма. Сёння агульнапрызнана, што Максім Гарэцкі — класік беларускай літаратуры. Але этапы жыццёвага шляху Гарэцкага да гэтага часу не ўвекавечаны. Тут ёсць над чым падумаць. Мемарыял у гонар роду Гарэцкіх можа быць зроблены ў Малой Багацькаўцы. Вопыт ёсць — мемарыялы ў Вязынцы, на Мікалаеўшчыне, на Ракуцёўшчыне.

Хацелася б, каб знаходзілася месца ў газетах і часопісах і літаратурнай геаграфіі Беларусі. А матэрыялы, на маю думку, павінны быць у роўнай ступені навуковымі і публіцыстычнымі.

**Вольга ЦЕРАШЧАТАВА**, кандыдат мастацтвазнаўства, загадчык сектара і Музея старажытна-беларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР:

— Мне здаецца, што праблем у галіне культуры хапае і заўжды будзе хапаць. Гэта датычыць канкрэтнага пытання аховы і скарыстання гістарычна-культурнай спадчыны. Возьмем наш музей. Без усякага перабольшання трэба сказаць, што гэта музей, пабудаваны на любові да бацькаўшчыны і энтузіязме. Калі мы збіралі абразы, драўляную скульптуру, ткацтва, у нас не было на гэта ні заказу, ні загаду — толькі ўласная ініцыятыва. Амаль тры тысячы ўзораў народнага адзення і ткацтва людзі перадалі музею ў большасці выпадкаў бясплатна.

Зараз наш музей адзін з самых папулярных у Мінску, наогул па Беларусі. З гэтай прычыны ўзніклі новыя праблемы. Абавязкі захавальнікаў, экскурсаводаў і наглядчыкаў вымушаны выконваць навуковыя супрацоўнікі, што адрывае іх ад асноўнай работы, ад даследчай працы над запланаванымі дзяржаўнымі тэмамі. Каб нам зацвердзілі штат тэхнічнага персаналу, музей мог бы выконваць не толькі навуковую, але і шырокую прапагандысцкую місію. Умяшанне прэсы можа наблізіць вырашэнне такіх і падобных арганізацыйных пытанняў. Яшчэ хацелася б пажадаць, каб у друку змяшчаліся матэрыялы пра найбольш важныя адкрыцці ў галіне культуры. Мы падрыхтавалі ўжо трэці зборнік, прысвечаны новым адкрыццям (два папярэднія выйшлі ў 1984 і 1985 гадах), але ахапіць увесь матэрыял, зразумела, не можам. Тым больш, што зборнікі арыентаваны пэўным чынам на спецыялістаў, ды і тыраж невялікі.

●

Помнікі роднага краю... Іх лёс залежыць ад кожнага з нас. І калі сёння аднаўляецца Траецкае прадмесце ў Мінску, ідзе рэстаўрацыя Мірскага замка і многіх іншых помнікаў, дык гэта дзякуючы таму, што істотна змяніліся адносіны да гісторыка-культурнай спадчыны, што ўсведамленне неабходнасці, асэнсавання мінулага стала агульнаграмадскім здабыткам.

Рэдакцыя звяртаецца да чытачоў з прапановай прыняць актыўны ўдзел у гаворцы пра помнікі роднага краю, пра месца спадчыны ў сучасным свеце.

**Гутарку правёў Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

## ПРЭМ'ЕРЫ Ў БРЭСЦЕ

**У Брэсцкім абласным драматычным тэатры імя Ленінскага камсамола Беларусі рэжысёр Т. Белічэнка ажыццявіла пастаноўку п'есы А. Арбузава «Вінаватыя». Мастацкае афармленне спектакля Т. Карвяковай. У ролях заняты заслужаная артыстка БССР Н. Ганчарэнка, артысты М. Маршын, М. Мятліцкі, Т. Кавалеўская, А. Цэцярчук, У. Пестуноў і іншыя.**

●

**Яшчэ адна прэм'ера тут жа — трагікамедыя «Цыліндр» Э. дэ Філіпа. Тэатр упершыню звярнуўся да творчасці гэтага вядомага італьянскага драматурга. Рэжысёр - пастаноўшчык спектакля — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР У. Забэла, мастак—В. Лесін. Ролі выконваюць народны артыст БССР, заслужаны артыст Літоўскай ССР А. Логінаў, заслужаныя артысты рэспублікі С. Еўдашэнка і Г. Токараў, артысты Н. Кафанава, Т. Ляўчук, А. Маркевіч, А. Казак і іншыя.**

**Р. БАКІЕВІЧ.**



«Вінаватыя» А. Арбузава. Тоня — Т. Кавалеўская. Саколік — М. Мятліцкі.



«Цыліндр» Э. дэ Філіпа. Сцэна са спектакля.

Фота Я. ПІЎНЕНКІ.

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Раман ТАРМОЛА**



●

Народ. Краіна.
Перамены...
Не школьны у руках званок,
А крык душы
усіх паймення
Склікае на жыцця урок.
Чаго разводзіць тары-бары,
У мора слоў даваць нырца —
Вучыцца трэба гаспадарыць,
Вучыцца праўдзе да канца.
З кляцьбой аб вернасці
не лезці,
Згінаючы свае гарбы,
А працаваць лепш чэсць-
па-чэсці
І вернымі на справе быць.
Праверана вялікім часам
Пакутным, роспачным, прамым,
Што лепшым залатым запасам
З'яўляецца працоўны ўздым;
Што славаю усенароднай
Пазначана ва ўсе вякі
Асобы чалавечай годнасць
І не хістанне ўбакі.
Калі не першы клопат сына
Пра бацькаўшчыну з першых
дзён,
Тады нашто яму Айчына.
Тады нашто Айчыне ён...

### Палёт

Калі ў сусвеце не адны
зямляне
Ляцяць у некуды...
ды ад людзей не прэч,
Апошняе з зямлёю развітанне,
Магчыма, недзе —
першая з сустрэч.

Не паяўляемся і не знікаем
Мы, людзі, як вядома,
а часцей
Адно на лёс ці старасць
наракаем
І ў вышыню
альбо углыб расцем.

Хіба так не было ужо вякамі..
Смялей сабе прызнаемся адно,
Што мы плылі аднойчы над
рукамі
І апускаліся на рукі зноў.

### «Ідзі і глядзі»

А. АДАМОВІЧУ
Э. КЛІМАВУ

«Ідзі і глядзі».
Ідуць і глядзяць...
І плачуць перад экранам.
І медалі на грудзях звіняць
У ветэрана...
У атаку рвецца салдат
З гэтае кіназалы:
Зноў перад ім — не экранны
кат,
Зноў
забойцаў
навала.
Побач руку сціскае рука —
Ён і Яна хвалюцца
За маладосць, за хлапчука,
Што ад жудасці жмурыцца...
Цяжка дыхае столькі душ.
Смерць — у агні пякельным.
Покуль жывы я —
іду...
Іду
На гэты крык суцэльны!
Можна памерці і—вечна жыць!
Ды,
не памёршы,
лепей
Адабраць у забойцаў нажы,
Бомбы, што сонца слепяць.
Адабраць
на разбой правы
Дзеля ўсяго жывога!
Сёння ж у маці, дрэва, травы
Вечна трывога.

### Вішня ў полі

Уз'юрыўся вецер увішны,
Паскручваў, паадрываў
Кволыя кветкі ў вішні,
Ветраная галава.

Прыдумаў сабе занятак,
Забаўку даўна...
Першых сваіх вішанятак
Не пабачыць яна.

Ноч адна перайначыла
Яе маладыя лёс.
Расхрыстана, раскудлачана,
Пялёсткаў унізе, як слёз...

Як нейчае вока сурочыла!
Сухая. Малая. Адна.
Жаночая доля сірочая
За паўвярсты відна.

●

Вятры, як забабоны,
У коміне гудуць.
Завею недзе бомы
У белы храм вядуць
Зімы і халадэчы...
Аж замак у Міры
Стаіць, нібы малеча,
На яе двары.
Зіма праз шыбу лезе.
Гародчык у акне
Увесь у снежным бэзе...
І не сцюдзёна мне.
Тут, дзе жыцця падмурак,
Дзе холад б'е ў вушах,
На сонца вочы жмурыць
Маміна душа.
І тата з ёю поруч —
Толькі што ўвайшоў —
Нешта ёй гаворыць,
Смяецца ўсёй душой.
Усё увачавідкі
У хаце, на двары...
...Бяруць да тых завідкі,
Хто зараз у Міры.
О, успаміну радасць
Між дзвюх найродных душ!
Час, снегам альбо градам
Адно не зацяруш...

●

Млечны шлях, як сусвету жыла,
Жывіць поступ наш агнявы.
Азіраемся на магілы.
Пазіраем услед жывым.

Спатыкаючыся аб зоркі,
Вечна падаем на зямлю
З яе полем
у полі зроку,
Напаўшы слязой раллю.

Скрыжаванні дарог падобны
На шляхі распластаных рук,
Па баках, дзе травы аздоба
І былінак спрадвечны рух.

Не спыніцца і нам ніколі,
Найапошні зрабіўшы крок.
Мы — дарогі, трава, і поле
І шматзорны расісты зрок.

●

Чалавек, ты прыгожы без
пахвальбы
І няма ў дабрыні табе роўні:
Умудраешся моцным быць
і слабым,
І ад зоркі святляк не адрозніць.

Ад прыроды відушчы, ты
ўмееш парой
Чалавечай прамашкі
не ўбачыць,
Узвялічыць каменьчык,
назваўшы гарой,
І сябе для другіх перайначыць.

Мне вучыцца ў цябе
глыбіні, вышыні
І любові да роднага дому.
Выплаўляць слова гулкае
з цішыні,
І маўчанне вялікае —
з грому.

●

Вятроў асенніх змоўкла
жудасць.
Прыйшла зіма з маўчаннем
рэк.
На першым снезе столькі
люду!
Прыкметны кожны чалавек.

Зіма не змеем папяровым —
Здзіўляе снегападам нас.
Штодня бялюткую нанова
Прасуе зранку сонца-прас.

Блішчаць сняжынкі, вочы, іней,
Блішчыць ружова ў снезе дом,
І лёд на рэчцы
небам сінім,
І неба
залатым ільдом.

З былых часоў, яшчэ з павета,
Дзе прадзед сеяў і араў,
Прымчаў зімой глыток паветра
Чысцюткі, як бяроз кара.

Ён распірае хмельна грудзі
Без дапамогі НТР.
Як дыхаецца! — кажуць людзі.
І лыжаў след вядзе у сквер.

## НА АБСЯГАХ КУЛЬТУРЫ

### 23 лютага — Дзень Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту

**Жыццё ў арміі ідзе па сваіх строгіх законах, але музыка даўно ўжо заняла ў ім дастойнае месца, стала неад'емным кампанентам воінскіх рытуалаў. Яны суправаджаюць савецкага воіна ў яго ганаровай службе ў арміі або на флоце. У кожным армейскім рытуале закладзены глыбокі сэнс, багатыя рэвалюцыйныя і баявыя традыцыі, кожны авеяны гістарычнай веліччу подзвігаў у славу**



# АРМЕЙСКІЯ ТРУБЫ ГУЧАЦЬ...

**Радзімы. Рытуалы актыўна ўдзельнічаюць у ваенна-патрыятычным выхаванні савецкіх воінаў, менавіта праз іх кожны малады чалавек па-новаму асэнсоўвае для сябе важнасць і адказнасць сваёй службы.**

**Музыка гучыць у час прынацця прысягі — гэтай важнейшай падзеі ў жыцці маладога воіна. Маляўнічую ўрачыстасць яна надае і вынасу баявых сцягоў, уручэнню ўзнагарод і баявых рэліквій, ускладанню кветак да магіл і абеліскаў. Памятаеце, як у дні святкавання 40-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне духавая музыка выйшла на плошчы і вуліцы гарадоў? Ва ўрачыстым маршпарадзе, узяўшы меддзю інструментаў, прайшлі лепшыя ваенныя духавыя аркестры.**

**Марш у ваеннай музыцы займае вядучае месца, яго гісторыя пачынаецца яшчэ са старажытнасці. У рэпертуар айчынных ваенных духавых аркестраў маршы ўвайшлі на пачатку XVIII стагоддзя. Гісторыя нашай ваеннай музыкі захоўвае маршы страявыя (або парадныя), паходныя — для шэсця, сустрэчныя — для суправаджэння сцягоў, военачальнікаў, пахавальныя (або жалобныя), канцэртныя, асаблівую цікавасць з якіх уяўляюць святочна-фанфарныя і інш. Няма, бадай, чалавека, якога не кранулі б за душу гукі слаўтага марша «Развітанне славянкі» або «Дня Перамогі» Д. Тухманава, «Непераможнай і легендарнай» А. Аляксандрава або «Марша» Б. Акуджавы да кінафільма «Беларускі вакзал»...**

**Урачыстым маршам пад бясконцыя авацыі праходзяць ваенныя аркестры перад удзячнымі слухачамі і яшчэ гучыць**



**іх пераможная звонкая медзь. Духавыя аркестры заўсёды ў баявым страі!**

**А. КАРАЦЕЕЎ.**

## УПЕРШЫНЮ ў «ЛіМе»

**Міраслаў ШАЙБАК**



**Міраслаў Шайбак (Міраслаў Вячаслававіч Адамчык) нарадзіўся ў 1965 годзе ў горадзе Мінску. Скончыў школу. Паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Зараз служыць у радах Савецкай Арміі.**

**Вершы яго друкаваліся ў газетах «Чырвоная змена» і «Знамя юности», у часопісе «Бярозка» і ў зборніках «Маладыя галасы» і «Вусны».**

### БАЧУ РАДЗІМУ

Здаецца ўчора
Глядзеў на снег,— ды раптам
Каткі на вербах.

---

Галінка вярбы,
Дакрануўся, і зніклі
Кропелькі расы.

---

Цыгарэтны дым,
У паветры паплылі
Шэрыя кветкі.

---

Такія ж сосны
І на маёй Радзіме,
У сонечны дзень.

---

Ветрык-вятрыска,
Можа, гэтая хмарка
Над Мінскам плыла?

---

Ад ветра з дажджом
Хаваю пад пахаю
Зборнічак вершаў.

---

Як моцна дрэва
За глебу трымаецца.
Зрываю кветку.

---

На груду гляджу
У бок Радзімы сваёй.
Над полем туман.

---

Чыркнуў запалкай,
Вастракрылы матылёк
Свеціцца ў цемры.

---

Дзень нараджэння
Апрануў вайсковы фрэнч.
Халодны жнівень.

---

Чорны матылёк.
Што шукае ён? Можа,
Чорную кветку.

---

Жнівеньскі вецер.
У анучы на плоце
Выраслі крылы.

---

Месяц не ўзышоў

---

Ліхтары ўздоўж дарогі —
Сузор'е маё.

---

Восень. Сухую
Галінку не пазнаеш
На дрэве жывым.

---

Хто гэтай ноччу
Наведае ліхтары?
Холад верасня.

---

Зробіць смачнымі
Яблыкі з антонаўкі
Халодны вецер.

---

Сёння ноччу ў сне
Ізноў бачыў Радзіму.
Сумным прачнуўся.

---

Печку адчыніў,
Пасівелі вугалькі.
Попел варушу.

---

Адчыніў дзверы.
Варушыцца па сходах
Мой цень зламаны.

---

Брата б убачыць,
Яго руку пацісну
Хоць на імгненне.

## ЛЯЛЬКІ ІГРАЮЦЬ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

Значна пашырылася глядацкая аўдыторыя Брэсцкага тэатра лялек пасля пастаноўкі спектакля рэжысёра В. Казловай «Іншаземец у Рыме» паводле твораў М. Зошчанкі. У дзень прэм'еры ў госці да акцёраў прыйшлі не маленькія гледачы, як звычайна, а іх бацькі. І мяркуючы па тым, што спектакль прайшоў некалькі разоў пры перапоўненай зале, навінка, прапанаваная маладзёжным калектывам тэатра, дарослым спадабалася.

Удаламу дэбюту спектакля садзейнічалі не толькі добрая ігра акцёраў і дынамічнасць сюжэта, але і арыгінальнае лялечнае афармленне, музычнае суправаджэнне. У пастаноўцы былі заняты як вядучыя артысты лялечнага тэатра — І. Герасевіч, В. Зайцаў, Л. Зайвава, так і маладое акцёрскае папаўненне — Ю. Лахмакоў, Т. Грыфлюк, Ж. Гарошка і іншыя.

Ф. МУХА.

НА АБСЯГАХ КУЛЬТУРЫ

## ПРЫГАЖОСЦЬ, УВАСОБЛЕНАЯ Ў ДРЭВЕ

Калі праходзіш міма кінатэатра «Перамога», што ў Оршы, міжволі запыняеш увагу на драўляных скульптурах. Вось весяльчакі-музыкі. Глядзіш на іх і быццам чуеш жартоўную беларускую мелодыю. Побач да дрэва прытуліўся Несцерка. Тут жа — постаць упэўненага ў сабе пана суддзі, на паклон да якога прыйшоў бядняк. Апошні нізка апусціў галаву, скамячыў у руках капялюш. Як сімвал народнай мужнасці ўспрымаюцца вобразы дзеда Талаша, салдата і салдаткі.

Як не захапляцца ўмелымі рукамі людзей, якія прымусілі «загаварыць» кавалак дрэва, ператварылі яго ў твор мастацтва! Гэта — работнікі завода «Легмаш» С. Шаўроў. С. Цішкоў і былы мастак-афарміцель інструментальнага завода М. Пруднікаў, якога ўжо, на жаль, няма ў жывых.

З работамі народнага ўмельца Сямёна Шаўрова знаёмы не толькі аршанцы, але і жыхары Віцебска, Мінска, іншых гарадоў, дзе праходзілі выстаўкі народных мастакоў. Шаўрову па праву прысвоена званне народнага майстра.

Нягледзячы на свой пенсійны ўзрост, Сямён Сцяпанавіч не развітваецца з прадпрыемствам, выконвае афарміцельскія работы. Для цэха № 22 Сямён Шаўроў выканаў незвычайную «галерэю». У ёй — драўляныя барэльефы розных звяроў, якія сустракаюцца на тэрыторыі Беларусі. Гэтай работай можна любавацца гадзінамі. Колькі працы, колькі душы ў яе ўкладзена!

Раз убачыўшы творы Шаўрова, лёгка пазнаеш іх сярод мноства іншых. Мастак неаднойчы ўвасабляў у сваіх работах сюжэты беларускіх песень, казак. Дасціпным народным гумарам, лірызмам вее ад кампазіцыі «У суботу Янка»... У аснове яе — сюжэт вядомай песні.

Менавіта пасля знаёмства з работамі Шаўрова захапіўся разьбой па дрэве малады рабочы завода «Легмаш» Сяргей Цішкоў.

— Я доўга вагаўся, перш чым наважыцца паказаць першую сваю работу Шаўрову, — успамінае Сяргей Яўгенавіч. — Думаў — насмяецца. А ён, наадварот, падбадзёрыў.

Цяпер Цішкоў працуе над афармленнем заводскага пакоя адпачынку. Адначасова выконвае і яшчэ адзін заказ — для маладзёжнага кафэ, якое абсталёўваецца ў інтэрнаце завода. Неўзабаве работы С. Цішкова будуць дэманстравацца на выстаўцы народнай творчасці, якая адбудзецца ў Полацку.

Т. ГАЎРУСЕВА.

## ГАСЦІННА Ў ГАСЦІНАЙ

У інтэрнаце Гомельскага завода станочных вузлоў быў пакой, застаўлены старой мэбляй, рознай іншай старызнай. Актывісты вырашылі абсталяваць у ім гасціную. Дзякуючы іх ініцыятыве і намаганням пакой набыў прывабны выгляд. Тут чыста, утульна. пасярод стаіць прыгожы дубовы стол, на якім заняў сваё пачэснае месца самавар. Пачалі тут праводзіць розныя сустрэчы, дні нараджэння. Так. нядаўна ў гасцінай быў адзначаны дзень нараджэння інжынера Лілі Канавалавай. Моладзь спявала песні, складала вершы. прысвечаныя імяніннiцы, удзельнічала ў розных конкурсах.

Гасцiная хутка набыла папулярнасць. Аднойчы сабраліся тут і прадстаўнікі двух спаборнічаючых калектываў — заводаў станочных вузлоў і «Цэнтраліта». З кожнага боку прысутнічалі па дзве перадавыя брыгады: ад гаспадароў — Мікалая Арцёмавіча Гарэлага і Івана Кузьміча Надтачаева, ад гасцей — Мікалая Іванавіча Кандрацьева і Аляксея Фёдаравіча Цімакова. Цудоўна прайшоў гэты вечар. Спачатку госці і гаспадары расказалі аб сваіх працоўных дасягненнях, планах на будучае. а потым разам пілі чай, спявалі, жартавалі, гулялі ў розныя гульні. Асабліва запомніўся конкурс грыбнікоў.

Гасціная... Пасля працоўнага дня. у нядзелю і суботу спяшаюцца сюды людзі. бо ведаюць, што знойдуць сабе занятак па душы. Калі поўніцца галасамі месца адпачынку — значыць, тут цікава. Майстар Уладзімір Васільевіч Семчанка — вядомы ў калектыве чалавек, старанны працаўнік. А калі пабачылі заводчане на свае вочы, якія цудоўныя рэчы выразае ён з дрэва, яшчэ больш пачалі паважаць Семчанку. Мадэльшчык Б. Шатроў таксама заўзяты разьбяр. Эканаміст Н. Чмыхава прадставіла на выстаўку народнай творчасці свае макрамэ, якія былі прызнаны лепшымі. Інспектар Л. Сіненькая — майстар мастацкага вышывання.

Арганізоўваць вольны час чалавека так, каб жыццё стала больш змястоўным, багатым — дэвіз актывістаў завода станочных вузлоў. І прыемна, што жадаючых наведаць гасціную становіцца ўсё больш.

В. БАРХАНАЎ.

## *ПРАЦЯГАМІ НОВАЙ ПЯЦІГОДКІ*

Летась на Міншчыне створана 44 культурна - спартыўныя комплексы, 180 аматарскіх аб'яднанняў і клубаў па інтарэсах, двум калектывам прысвоена званне «народны». Кнігавыдача ў масавых бібліятэках павялічылася на 121 тысячу экземпляраў. Асноўны фонд музеяў узрос больш чым на 9 тысяч экспанатаў. Здадзена ў эксплуатацыю 10 клубных устаноў.

Аб гэтых і іншых фактах вялася размова на нарадзе культработнікаў Мінскай вобласці, прысвечанай вынікам работы за мінулы год і прыняццю сацыялістычных абавязацельстваў на першы год дванаццатай пяцігодкі.

Вызначаны канкрэтныя шляхі па далейшым развіцці мастацкай самадзейнасці. Колькасць удзельнікаў будзе даведзена да 60 тысяч. Запланавана ў культасветустановах вобласці правесці 1600 канцэртных выступленняў прафесійных калектываў і 15 тысяч аматарскіх, 60 тысяч масавых мерапрыемстваў, прысвечаных прапагандзе кніг.

— Усё, за што мы прагаласавалі на нарадзе, будзе выканана, — сказаў намеснік начальніка ўпраўлення аблвыканкома В. Гедройц. — Зарукай таму — высокі энтузіязм людзей. жаданне працаваць на ўзроўні патрабаванняў. якія ставіць партыя перад работнікамі культуры.

К. ВАЛЮШЭНКАЎ.

ПАДЗЕІ І ДАТЫ

# ІМЯ З ЛЕГЕНДЫ

***Да 80-годдзя з дня нараджэння Мусы ДЖАЛІЛЯ***

Песня навучыла мужна
жыць.
І калі ўжо сэрца абарвецца,
Смерць, як песня бою,
прагучыць
І ў жыцці народа
застанецца!

Муса ДЖАЛІЛЬ.

Прыкладаў легендарнага лёсу, які даў сваім жыццём Муса Джаліль, няшмат. У нас няма больш пісьменнікаў, чый воінскі і паэтычны подзвіг быў бы адначасова ўвекавечаны прысваеннем ганаровых званняў Героя Савецкага Саюза і лаўрэата Ленінскай прэміі.

Найвялікшы гераізм Мусы Джаліля рэхам адгукнуўся ў Беларусі яшчэ ў гады вайны. Вядома, што ў канцы лютага 1943 года ў Беларусь прыбыў эшалон з Волга-татарскім легіёнам, сфарміраваным гітлераўскім камандаваннем з ваеннапалонных для барацьбы з партызанамі. Размясціўся легіён на Віцебшчыне. Неўзабаве татарскія патрыёты наладжваюць кантакты з мясцовымі партызанамі і пераходзяць на бок народных мсціўцаў, уліваюцца ў брыгаду М. Ф. Біруліна. Татарскія воіны дапамаглі партызанам хутчэй разарваць вогненнае кальцо віцебскай блакады. Па ўспамінах відавочцаў і ўдзельнікаў гэтых падзей, паводле архіўных дакументаў нямецкіх штабоў установлена, што ініцыятарам зрыву злачынных планаў Гітлера, арганізатарам паўстання легіянераў быў Муса Джаліль. Менавіта за правядзенне агітацыйна-выхаваўчай работы сярод ваеннапалонных гестапаўцы схапілі Мусу Джаліля і 12 яго памочнікаў. Так ён апынуўся ў Маабіцкай турме ў Берліне. Знаходзячыся за кратамі ў фашысцкіх лагерах смерці, паэт не чакаў пакорліва свайго канца: ён змагаўся.

Першыя звесткі аб лёсе Мусы Джаліля прыйшлі з Берліна ў Маскву вясной 1945 года. У 1946 і 1947 гадах былі дастаўлены ў СП СССР дзве цудам уцалелыя запісныя кніжкі з вершамі паэта-вязня. Адну з іх захаваў савецкі ваеннапалонны Нігмат Церагулаў, другую — бельгійскі антыфашыст Андрэ Цымерманс. Сапраўднае другое нараджэнне Мусы Джаліля, які раздзяліў лёс невядомых герояў, пачалося толькі ў кастрычніку 1953 года, калі ў «ЛГ» з'явіліся першыя, ажыццёўленыя І. Фрэнкелем пераклады на рускую мову маабіцкіх вершаў «Даруй, Радзіма!», «Неадчэпныя думкі», «Любімай», «Не вер!», «Чароўны клубок» і іншыя. Першаадкрывальнікам жа паэзіі Мусы Джаліля на беларускай мове быў Мікола Аўрамчык. Ён яшчэ ў час святкавання пяцідзесяцігоддзя з дня нараджэння Мусы Джаліля надрукаваў у «Маладосці» свой пераклад верша «Мае песні». Потым ім былі перакладзены вершы «Аб гераізме», «Да Дзвіны», «Адна парада», «Кату», «Воля», «Смерці». Тады ж, у 50-ыя гады, узніклі першыя старонкі беларускага джалілезнаўства.

Мікола Аўрамчык у сваім артыкуле «Пясняр мужнага змагання» выказвае думку, што верш «Да Дзвіны» напісаны Мусой Джалілем у Дзвінскім лагеры смерці. Тое, што гэты верш-запавет, пад якім стаіць дата «кастрычнік 1943 года», быў выкліканы да жыцця падзеямі на Беларусі, бясспрэчна.

Перакладалі на беларускую мову вершы Мусы Джаліля М.

НА ХВАЛЯХ ЭФІРУ

# ЗАБЫЦЬ—НЕЛЬГА

**Радыёспектакль па творы У. КАРАТКЕВІЧА**

...Тыя даўнія дні, калі мы ўпершыню перагортвалі старонкі часопіса з гэтым раманам, аказваецца, не забыліся. Запомнілася адчуванне летуценнасці, рамантыкі кахання, свежасці, водар паветра ў тую вераб'іную ноч, светлая раніца, калі «раскашазала мокрая лаза, цяжкія някошаныя травы на берагах дымелі, з улоння Дняпра плыла сытая пара, як з вядра з сырадоем...»

У рамане Уладзіміра Караткевіча «Нельга забыць» былі пасеяны амаль невідочныя зярняткі, з якіх узышлі потым і «Каласы пад сярпом тваім», і «Дзікае паляванне караля Стаха», і «Мая Іліяда». У гэтым, вельмі асабістым, вельмі лірычным рамане, наскрозь прасякнутым паэзіяй, — і ў вершах, і ў прозе, была тая прыхільнасць, любоў да гісторыі роднага краю, такое дасканалае веданне яе, калі творца не проста ўяўляе, а жыве, існуе, пакутуе ці адчувае моманты невыразнага шчасця — у ім самім «прапанаваных абставінах».

Важная і ўсебаковая эрудыцыя ў спалучэнні з магутным паэтычным пачуццём, з чуйным — бы сейсмограф — адчуваннем часу, з тонкай, бадай, толькі Караткевічу ўласцівай іроніяй, з нечаканымі ўсплёскамі рамантычнасці — усё гэта брала чытача ў палон, рабіла яго назаўсёды Караткевічавым прыхільнікам, прымушала шукаць у кнігарнях, на паліцах бібліятэк ягоныя кнігі...

Таму кожнай сустрэчы з яго творчасцю — няхай гэта тэатральны ці тэлевізійны спектакль, кінафільм ці радыёспектакль — чакаеш, як сустрэчы з аўтарам, які так дачасна пайшоў з жыцця.

Таму да кожнай такой работы ставішся з папярэдняй прыхільнасцю — але і з рэўнасцю таксама. Бо ў нас ужо ўтварыўся — у кожнага свой — свет Караткевічавых герояў, і кожная неадпаведнасць яму,— а ў мастакоў кіно, тэатра, радыё ёсць жа і ўласнае бачанне! — насцярожвае і нават крыўдзіць. Відаць, таму да радыёспектакля адчуваем большы давер і часцей за ўсё не спрачаемся з выбарам выканаўцаў. Бо і нам, слухачам, даецца свабода — свабода фантазіі, уяўлення, што не перашкаджае нам у самы кароткі час прывыкнуць да голасу выканаўцы.

Як прывыклі мы — літаральна праз момант — да голасу Віктара Тарасава ў ролі Андрэя Грынкевіча і Галіны Кухальскай — Ірыны Горазай у спектаклі Беларускага радыё па рамане «Нельга забыць».

Ужо другі раз звяртаецца радыётэатр да гэтага твора. Колькі год назад мы слухалі радыёпастаноўку «Паром на бурнай рацэ», дзе пісьменнік У. Мехаў і рэжысёр А. Вавілаў прапанавалі слухачам пралог рамана — падзеі трывожнага жніўня 1863 года, калі «перасспелае жыта плакала зярнятамі, а ў жыце стаялі шыбеніцы...», кардон, дзе рота выпрабаваных у баях салдат павінна была абараняць паром праз Днепр ад паўстанцаў. Адзін толькі пралог стаў тэмай радыёспектакля — удумлівага, паэтычнага, жорсткага, і таму натуральныя страты, якія звязаны з любой інсцэніроўкай, тут былі найменшымі. Пастаноўка была ўхвалена аўтарам — і гэта прынесла асаблівую радасць яе стваральнікам.

І ўсё ж раман, зразумела, не вычэрпваўся пралогам. Таму радыё зноў звярнулася да рамана: сцэнарыстка Т. Абакумоўская і рэжысёр В. Анісенка задумалі новую радыёпастаноўку, якая б перагарнула тыя старонкі рамана, якіх не закранулі раней. Але тут адразу ўзнік шэраг пытанняў, галоўнае з якіх — як умясціць усю складанасць рамана, яго праблематыку, філасофскую глыбіню, каб не быць захліснутым усім гэтым багаццем. Як перадаць тую чароўную «ігру розуму», зіхаценне слова, то вытанчана-інтэлігентнага, то сакавіта «зямнога»...

Была выбрана адзіная сюжэтная лінія — тэма вялікага Кахання (менавіта з вялікай літары). Відаць, адчуты мастакамі сённяшні «дэфіцыт духоўнасці» патрабаваў расказаць на поўны голас аб каханні, нібы наканаваным лёсам, нават фатальным, якое захапіла на ўсё жыццё, зрабіўшы Яе і Яго нябывала шчаслівымі — і нябывала няшчаснымі. Каханне, якое не абысці, ад якога няма ратунку — тое самае, непадробнае, якое толькі і мае права звацца гэтым словам.

Запрасіўшы на ролі Кухальскую і Тарасава, стваральнікі спектакля зрабілі вельмі ўдалы выбар: гэтыя артысты без націску змаглі стварыць гэткі «сённяшні» варыянт Рамэа і Джульеты. Тарасаў расказаў аб мужным, гордым і сумленным чалавеку, для якога немагчыма крывіць душой, таіцца і ўцякаць ад небяспекі. Яго Грынкевіч бярэ на сябе адказнасць за лёс каханай, не вагаючыся, не падлічваючы, што гэта яму прынясе: толькі мы разумеем, які боль абрынецца на яго, але ён думае не аб сабе — толькі аб ёй. Ён сапраўды мужчына, які ведае, хто чаго варты, і адказвае за свае словы. Калі ён вырашыў забраць каханую з утульнага, уладкаванага дома,— то ведае: ён павінен здабыць для яе і прытулак, і першапачатковы дабрабыт. І на здзеклівае пытанне: «Што вы можаце даць ёй?»— адкажа: «Сёння — нічога... Але і зараз, і праз тры месяцы, і да канца дзён я дам ёй самае патрэбнае: цеплыню» — і голас яго, дагэтуль халодны і варожы, пацяплее і задрыжыць ад пяшчоты... Бо ён, Грынкевіч,— паэт. І мы пераканаемся ў гэтым, калі ён будзе чытаць свае вершы. Не таленавіты артыст Віктар Тарасаў будзе чытаць вершы цудоўнага паэта Уладзіміра Караткевіча, а паэт чытае вершы, якія, здаецца, нарадзіліся толькі што, і мы — першыя, хто чуе іх, хто знячэўку падслухаў іх, бо яны — для сябе і для Яе.

Трэба сказаць, што вершаў у спектаклі шмат: іх — і вельмі добра — чытае вядучы Валерый Анісенка.

(Дадамо яшчэ, што для некаторых чытачоў Караткевіча нечаканасцю аказалася, што ён — паэт. Аднойчы, спытаўшы пра вершы Караткевіча, пачула ў адказ: «А ён пісаў і вершы?» Ці не азначае гэта, што з духоўнага быцця нашага знікае нешта вельмі дарагое? І ці не варта выдаўцам перавыдаць менавіта вершы Уладзіміра Караткевіча?)

У тканіну радыёспектакля ўведзены не толькі вершы з рамана, але і даўнейшыя — з паэтычных зборнікаў. Вершы гэтыя патрэбны рэжысёру і як эмацыянальны ўсплеск, і як роздум, і як кампазіцыйная адбіўка. І хоць, як ужо было прыгадана, вершаў многа, але... іх не хапае! Не хапіла ў фінале, калі патрэбна было, проста неабходна заключыць спектакль вершамі. Не бяруся сказаць якімі... Але, думаю, у радыёспектаклі патрэбны быў славуты, класічны ў сваёй прастаце і прыгажосці верш «Цуд на Нерлі»: «Белая-белая, чыстая-чыстая, нібы дзяўчына, царква на Нерлі»... Не прагучаў... Хоць была ў прысутнасці гэтага верша эмацыянальная, мастацкая патрэба — патрэба ў яго крынічнай празрыстасці, калі героі наведалі царкву Пакрава на Нерлі. «Згасала ў сяйве майскага дня вясёлка над белым дзівам...— Як свечачка.— ціха сказала Горава...» Бо ў гэтым эпізодзе раскрываецца жаноцкасць, прывабнасць гераіні, яе захопленасць мастацтвам, якое робіць чалавека вышэйшым...

Галіна Кухальская здолела

Калачынскі, Я. Семяжон, П. Прыходзька. Да 30-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй у Мінску, у бібліятэцы «Паэзія народаў СССР» выйшаў у свет «Маабіцкі сшытак» (1975) у перакладзе А. Пысіна і С. Гаўрусёва. Прадмову да зборніка напісаў татарскі паэт Закі Нуры, сабрат Мусы Джаліля па паэтычным цэху і баявых справах. У гады вайны Закі Нуры быў начальнікам разведкі ў партызанскім атрадзе К. Заслонава, пасля вызвалення Беларусі працаваў намеснікам старшыні гарвыканкома Оршы, ганаровым грамадзянінам якой ён з'яўляецца зараз. У Мінску, у выдавецтве «Вышэйшая школа» выходзіла «Избранное» Мусы Джаліля з прадмовай татарскага паэта Сібгата Хакіма.

А выдавецтва «Юнацтва» выпусціла ў мінулым годзе ў свет зборнік дзіцячых вершаў Мусы Джаліля «Я гляджу на зоры» ў перакладзе на беларускую мову паэтэсы Эдзі Агняцвет. (Ганарар за пераклад вершаў перададзены ў Савецкі Фонд міру). Выхад у Мінску кнігі дзіцячых вершаў Мусы Джаліля акрэслівае шырыню і шматграннасць яго мастацкага воблiку. Варта заўважыць, што ў пачатку пісьменніцкай дзейнасці Мусу Джаліля ведалі ў Казані ў першую чаргу як дзіцячага паэта. Як маладзёжны арганізатар, рэдактар дзіцячых часопісаў Джаліль увесь час быў цесна звязаны з дзецьмі і сістэматычна пісаў для іх вершы, прозу і п'есы. Простыя, змястоўныя і захапляючыя, яны і цяпер застаюцца ўзорам дзіцячай татарскай літаратуры. Некаторыя з іх пакладзены на музыку і сталі любімымі песнямі дзетвары.

Імя легендарнага паэта, які загінуў за вызваленне роднай краіны, жыве на беларускай зямлі. Тут ведаюць яго творчасць, свята ўшаноўваюць яго воінскі і паэтычны подзвіг.

**Міхась НЯХАЙ.**

---

**выявіць у сваёй вельмі складанай радыёролі менавіта гэтыя якасці Ірыны Горавай, яе прагу жыцця і кахання — і сумленнасць: яна, невылечна хворая, з асколкам каля сэрца, ці мае права на каханне, якое, напэўна, перайначыць жыццё Андрэя?.. Ці мае права абрынуць на яго тое, што можа з ёй здарыцца ў кожны наступны дзень?**

**Калі Андрэй вершамі выказвае свае найтанчэйшыя і глыбока схаваныя пачуцці, дык Горава для гэтага мае свае маналогі — лекцыі, што чытае студэнтам. І ў гэтых расказах аб старадаўніх мастаках адбіваецца, як у люстэрку, душа сучаснай жанчыны — з яе адвечным неадольным жаданнем кахаць і быць каханай — і з недаверам, са звычкай сарамліва хаваць пачуцці. У іх адбіваецца яе чароўная душэўная чуйнасць...**

**У радыёспектаклі не ўсё атрымалася на зададзеным высокім узроўні. Думаецца, пралог аказаўся неабходным толькі для таго, каб звязаць падзеі былыя і сённяшнія; скарочаны, ён спрасціў характары герояў — Пора-Леановіча (В. Філатаў) і Юрыя Горава (В. Мішчанчук). Міжволі скарачэнні, вылучэнне з рамана адной лініі збядняюць унутраны свет герояў. Тэма вайны, Леанідаў — зорнага дажджу, у які трапляе зямля кожныя трыццаць тры гады, і зоркі лятуць, і зноў бачаць на зямлі кроў і забойствы, тэма нянавісці да вайны, якая знявечыла жыццё Ірыны, а потым забіла яе,— хоць і прысутнічае, але адступае на другі план. Зразумела, усё гэта выдаткі пераводу твора літаратуры ў другі род мастацтва, і, відаць, яны непазбежныя. Але ж галоўнае адбылося: сустрэча з раманам, які забыць — нельга, немагчыма...**

**Р. ДЗМІТРЫЕВА.**

---

**ВІНШУЕМ**

# *Лідзіі ВАКУЛОЎСКАЙ—60*



20 лютага споўнілася 60 год пісьменніцы Лідзіі Вакулоўскай. Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР павіншавала яе з юбілеем.

**«Дарагая Лідзія Аляксандраўна!**

**Шчыра вітаем Вас, вядомую рускую пісьменніцу, з нагоды Вашага юбілею.**

**Вы нарадзіліся ў горадзе Шчорс Чарнігаўскай вобласці ў сям'і служачых. Скончылі акцёрскі факультэт Кіеўскага тэатральнага інстытута імя Карпенкі-Карага. Некалькі гадоў працавалі літсупрацоўнікам раённай газеты «Сталинский путь» на Чукотцы, потым былі літсупрацоўнікам абласной газеты «Калининградская правда».**

**На Поўначы пачалася Ваша творчая біяграфія. Спачатку былі замалёўкі, нарысы, што друкаваліся ў Магаданскай абласной газеце, затым надрукаванае ў «Пионерской правде» апавяданне «Сын охотника», якое адкрывала Вас як празаіка.**

**Людзі суровага краю сталі Вашымі любімымі і нязменнымі героямі. У 1956 годзе ў Магадане асобным выданнем выйшаў нарыс «Первый снег». Потым былі кнігі «Толино детство», «Свой след на земле», «Пурга уходит через сутки», «Сашка, моя знакомая», «Последняя радиограмма», «200 километров до суда», «Хозяйка птичьей скалы», «Улица вдоль океана», «Свадьбы», «Женщины», выдадзеныя ў розныя гады ў *выдавецтвах* Масквы, Мінска, Магадана і Калінінграда. Вы аўтар рамана «Путевка в «Белую долину», што надрукаваны ў часопісе «Дальний Восток». Па Вашых сцэнарыях пастаўлены фільмы «Лушка» (кінастудыя імя Даўжэнкі) і «Саша-Сашачка» («Беларусьфільм»). Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпускае новую кнігу «И снятся белые снега».**

**Ва ўсіх сваіх творах Вы імкнуліся зірнуць мастакоўскім вокам на шмат якія пытанні нашага быцця, абвострана ставіліся да маральна-этычнай праблематыкі.**

**Віншуючы з днём нараджэння, выказваем Вам, дарагая Лідзія Аляксандраўна, нашы шчырыя пажаданні моцнага здароўя і шчасця, плёну ў працы, новых творчых набыткаў».**

«Літаратура і мастацтва» таксама шчыра віншуе юбілярку і жадае ёй поспехаў.

# *Аляксандру СОПАТУ—50*



23 лютага спаўняецца 50 год Аляксандру Сопату. З гэтай нагоды Саюз пісьменнікаў БССР накіраваў яму прывітальны адрас, у якім гаворыцца:

**«Дарагі Аляксандр Сцяпанавіч!**

**Шчыра, па-сяброўску віншуем Вас, нашага таварыша па пяру, з пяцідзесяцігадовым юбілеем.**

**Нарадзіліся Вы ў вёсцы Партызанская Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці ў рабочай сям'і. Дзіцем, як і ўсе Вашы аднагодкі, зазналі жахі і пакуты вайны, пасляваеннай нястачы. Таму Ваша сталенне, самастойнае ўступленне ў працоўнае жыццё пачаліся рана. З пятнаццаці гадоў Вы — качагар, матрос, машыніст «Паўночнаморшляху». Затым служба ў Савецкай Арміі. Пасля службы — новы працяг працоўнай біяграфіі, удасканаленне ранейшых, набыццё новых прафесій. Вось яны: боцман, штурман на суднах Арктычнага параходства і тралавага флоту, слесар, вышкамантажнік. Цяпер Вы працуеце машыністам экскаватара *ва ўпраўленні* «Будрамбыт» у Гомелі.**

**Нямала ў Вашай працоўнай дзейнасці займала і займае Поўнач. У розны час Вы выязджалі на будаўніцтва газапровода Надым — Урал — Цэнтр, чыгункі Сургут — Урэнгой, ставілі нафтавыя вышкі на Саматлоры. Гэта не магло не *знайсці свайго адлюстравання* ў творчасці.**

**Яшчэ матросам Вы пачалі пісаць замалёўкі, нарысы, навелы. З гушчы жыцця на старонкі кніг выходзілі дзеці вайны, маракі, шафёры, буравікі, газавікі — людзі розных лёсаў, розных рабочых прафесій. Першай буйной публікацыяй быў нарыс у кнізе «Гаврошы сурового времени» — 1973, пяць Вашых аповесцей увайшлі ў кнігу «Трасса» — 1982. Затым былі новыя нарысы, апавяданні, аповесці.**

**Жадаем Вам, дарагі Аляксандр Сцяпанавіч, моцнага здароўя, шчасця, вялікіх творчых здзяйсненняў».**

Супрацоўнікі «ЛіМа» далучаюцца да гэтых цёплых слоў.

---

# ЗАЎСЁДЫ Ў РУХУ, ЗАЎСЁДЫ Ў ПОШУКУ



Балгарскаму вучонаму, дацэнту Сафійскага універсітэта імя Клімента Охрыдскага, старшаму навуковаму супрацоўніку Літаратурнага інстытута Балгарскай Акадэміі навук, першаму ў Балгарыі беларусісту Георгію Вылчаву — 60 год.

Думаю, што сёння нікога не здзіўляе цікавасць да беларускай літаратуры ў Балгарыі і да літаратуры балгарскай у Беларусі. Гэтыя літаратуры, як і народы, звязаны даўнімі братэрскімі сувязямі. А калі адна нацыянальная літаратура пранікае ў іншую, тады з'яўляецца неабходнасць у вывучэнні літаратурнага ўзаемапранікнення і ўзаемаўзбагачэння.

Адным з першых, хто загаварыў пра сучасны стан беларуска-балгарскіх літаратурных кантактаў, быў Георгій Вылчаў. Ён не толькі даў навуковую «прапіску» тэрмінам «балгарская беларусістыка» і «беларуская балгарыстыка», але і першым на справе ўзяўся даказаць наяўнасць трывалай глебы для іх існавання ў балгарскай літаратурнай навуцы.

Г. Вылчаву належыць першая ў балгарскім літаратуразнаўстве даследаванне сучаснага беларускага рамана, сучаснай беларускай аповесці і апавядання, сучаснай беларускай паэзіі, першыя ў балгарскай літаратуры творчыя партрэты беларускіх пісьменнікаў і паэтаў А. Адамовіча, Янкі Брыля, В. Быкава, І. Мележа, І. Шамякіна, Яна Скрыгана, А. Карпюка, У. Караткевіча, С. Гаўрусёва, А. Вярцінскага, А. Лойкі, Н. Гілевіча, П. Макаля, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, Г. Бураўкіна, Я. Сіпакова, Д. Бічэль-Загнетавай. З-пад яго пяра выходзяць адны з першых балгарскіх перакладаў (з мовы арыгінала) твораў Яна Скрыгана, Янкі Брыля, В. Быкава, У. Караткевіча, І. Навуменкі, І. Шамякіна, М. Стральцова, Б. Сачанкі, першы зборнік беларускіх народных казак. Адзін з першых Г. Вылчаў загаварыў і пра творчасць народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

Быць першапраходцам — заўсёды справа нялёгкая. Нялёгка, але цікава пратоптваць новыя сцяжынкі ў сучасным літаратуразнаўстве, адкрываць літаратурныя тэрыторыі.

Для Г. Вылчава, выпускніка славутага Карлавага універсітэта ў Празе і Інстытута сучаснай літаратуры Акадэміі навук у Браціславе, беларуская літаратура — не першая замежная літаратура, якую ён уводзіць у сферу балгарскай кампаратывістыкі. Хоць і не апошняя. Яго кандыдацкая дысертацыя прысвечана славацка-балгарскім літаратурным кантактам і аналогіям (1961), наступныя навуковыя даследаванні — славацка-балгарскім, лужыцка-балгарскім, фінска-балгарскім літаратурным узаемаадносінам. За асобыя заслугі перад фінляндскай славістыкай балгарскі вучоны-літаратуразнавец у 1978 годзе быў удастоены даволі незвычайнага для іншаземца ганаровага звання члена-карэспандэнта Фінляндскай літаратурнай Акадэміі.

І ўсё ж менавіта беларуская літаратура на працягу многіх гадоў у цэнтры яго навуковых інтарэсаў. Г. Вылчаў часта прыязджае ў Беларусь. Вывучае гісторыю, літаратуру, культуру братняга народа, даследуе, піша, друкуецца, выступае.

Большасць беларускіх пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў становяцца яго добрымі сябрамі. Побач з імёнамі Андрэя Германава, Найдзена Вылчава, Сімяона Уладзімірава імя Георгія Вылчава становіцца сімвалам літаратурнай дружбы нашых народаў.

Адна цікавая дэталь. Не раз заўважала, як толькі зойдзе гаворка пра Балгарыю, пытаюць: «А вы ведаеце Вылчава?» І пачынаюцца ўспаміны пра сустрэчы, пра размовы, пра яго жывы інтэлект, пра ўменне адчуваць літаратуру, разважаць, спрачацца, сябраваць... Відаць, таму з уласцівай беларусам цеплынёй і пяшчотай называюць яго тут «наш Юра, Юраська». І гэта адно «наш» — да таго ж «Юраська» — гаворыць пра многае.

Прыгадваецца, як гаварыў пра Георгія Вылчава У. Караткевіч: «Які вулканічны інтэлект! Так цікава размаўляць. У адной толькі размове ўзнікае сотні ідэй. Сапраўдны феерверк ідэй! Да таго ж, ён вечны падарожнік. Непаседа. Люблю такіх людзей, нястомных у сваім пошуку».

Сваё шасцідзесяцігоддзе Георгій Вылчаў сустрэў поўны энергіі і новых планаў. Ён заўсёды ў руху, у пошуку.

Карыстаючыся магчымасцю павіншаваць яго з юбілеем ад імя шматлікіх яго сяброў у Беларусі, акрамя традыцыйных пажаданняў здароўя і творчых поспехаў, хацелася б пажадаць яму працягваць высакародную і патрэбную справу — даследаваць узаемасувязь дзвюх нашых літаратур, якія сягоння, як ніколі, так актыўна і шматгранна ўзаемадзейнічаюць.

**Роза СТАНКЕВІЧ.**

---

# Родам з Асвеі

Сярод многіх пісьменнікаў нашай краіны, чый лёс знітаваны з Беларуссю, ёсць празаік і публіцыст Генадзь Героднік. Некалькі радкоў пра яго можна прачытаць у другім томе «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», але ўвогуле наш зямляк яшчэ мала знаны ў рэспубліцы.

Генрых Іосіфавіч (Генадзь Героднік) нарадзіўся 20 лютага 1911 г. у Асвеі. У 1930 годзе скончыў Полацкае педагагічнае вучылішча. Настаўнічаў у пасёлку Ветрына, а з 1934 па 1939 год вучыўся на механіка-матэматычным факультэце Ленінградскага універсітэта. Да самага пачатку вайны выкладаў матэматыку ў адной з сярэдніх школ Магілёва.

Генадзь Героднік ваяваў на Волхаўскім, Ленінградскім, Трэцім Прыбалтыйскім франтах.

Пасля Перамогі дэмабілізаваўся ў Эстонію, якую ён вызваляў, там па сённяшні дзень жыве ў горадзе Валка. Да 1960 года працаваў дырэктарам сярэдняй школы.

Першая кніга ў Генадзя Герódніка выйшла ў 1958 годзе. З таго часу добры дзесятак твораў выдадзены ў Таліне, Рызе, Маскве. Ён стварыў шэраг дукументальна-публіцыстычных кніг. Я хачу назваць тут толькі тыя творы, якія напісаны на беларускім матэрыяле.

Аўтар, як ужо сказана, нарадзіўся ў Асвеі, якую ў час вайны акупанты амаль усю вынішчылі. Генадзь Героднік не мог не прыняць у сваё сэрца боль і пякучую памяць землякоў-асвейцаў. Так паявілася аповесць «Реквием деревне «Ярохи». У 1982 годзе часопіс «Неман» надрукаваў вельмі цікавы і арыгінальны твор Г. Геродніка «Поплачем и посмеемся» (Истории, услышанные от Марии Жавнерки), адзначаную прэміяй гэтага ж часопіса. Дакументальна-мастацкая аповесць «Моя фронтовая лыжня», дзе паказаны яркія карціны даваеннага Магілёва, таксама носіць аўтабіяграфічны характар.

У асобе Генадзя Геродніка беларуская зямля мае сціплага, але дасканалага летапісца. Шчырым, праніклівым словам Генадзь Героднік паказаў суседству лепшыя якасці свайго народа: духоўную стойкасць і незгінальнасць, сардэчную дабрыню і пяшчоту...

Каб шырэй мы ўведалі пісьменніцкі талент і багаты жыццёвы вопыт нашага земляка, выдавецтва «Юнацтва» запланавала выдаць асобны томік Генадзя Геродніка. А пакуль мы віншуем яго з 75-годдзем.

**Сяргей ПАПАР.**

**ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ**

# Вуліца імя лётчыка-героя

Віцебшчына, чэрвень 1944 года. Грукат тысяч гармат і мінамётаў абвясціў аб пачатку рашаючага наступлення Чырвонай Арміі ў Беларусі. Разгром гітлераўцаў пад Талачыном — адзін з самых яркіх эпізодаў бліскучай аперацыі «Баграціён». 26 чэрвеня 1944 года танкісты 19-й танкавай брыгады палкоўніка Пахадзеева з 3-га Кацельнікаўскага гвардзейскага танкавага корпуса пры падтрымцы нашай штурмавой авіяцыі нанеслі гітлераўцам раптоўны флангавы ўдар у раёне горада і чыгуначнай станцыі Талачын. «Пахадзееўскі мяшок», як трапна назвалі нашы воіны акружэнне і разгром гітлераўцаў пад Талачыном, выліўся ў сапраўднае пабоішча.

Неўзабаве пасля вызвалення Талачына ў горадзе пабываў ваенны карэспандэнт газеты ваенна-паветраных сіл «Сталинский сокол» Г. Эль-Рэгістан. На старонках газеты ён апісаў подзвігі нашых лётчыкаў-штурмавікоў у небе Беларусі, іх удзел у разгроме ворага. Апісаў ён і цікавы эпізод, пра які яму расказалі мясцовыя жыхары.

Адступаючы пад ударамі нашых войск, гітлераўцы захапілі з сабой да 450 чалавек—групу жыхароў саўгаса «Райцы» Талачынскага раёна. Калону нявольнікаў заўважылі лётчыкі Першай гвардзейскай штурмавой авіядывізіі. На брыючым палёце яны абстралялі фашысцкія машыны і канвой. Гітлераўцы ў паніцы разбегліся. Мірныя савецкія людзі былі выратаваны.

Жыхары папрасілі ваеннага карэспандэнта знайсці лётчыкаў, якія ўдзельнічалі ў гэтай аперацыі, і Г. Эль-Рэгістан выканаў іх просьбу. Ад фашысцкай няволі жыхароў саўгаса «Райцы» вызвалілі лётчыкі эскадрыллі, якой камандаваў ураджэнец горада Куйбышава гвардыі капітан Пётр Мікалаевіч Жаўтухін.

Слаўны сокал і яго баявыя сябры разам з гвардзейцамі-кацельнікаўцамі ў раёне вёскі Азерцы (за чатыры кіламетры ад Талачына па шашы Масква — Мінск) удзельнічалі ў знішчэнні жывой сілы і тэхнікі гітлераўцаў. Гэта яны разбамбілі варожыя эшалоны на ўчастку Орша—Барысаў, не далі гітлераўцам пераправіцца, уцячы за Бярэзіну. Жаўтухін, а таксама гвардыі маёры Кандакоў і Герасімаў, гвардыі лейтэнанты Казянкоў і Асадчых з той жа Першай гвардзейскай штурмавой авіядывізіі бадай першымі ў нашай ваеннай авіяцыі былі прадстаўлены да значкоў... «Ганаровы чыгуначнік»! Гэтай адзнакі нашы сокалы былі ўдастоены за разгром варожых эшалонаў на перагоне Орша—Талачын—Барысаў.

Вось пра што расказалі радкі даўніх публікацый. Хто ж ён, капітан Жаўтухін, як склаўся яго далейшы лёс, ці дачакаўся Перамогі? Так, дачакаўся. Пра гэта сведчыць пошук, які я распачаў напярэдадні знамянальнай саракавой гадавіны Перамогі.

Пётр Мікалаевіч Жаўтухін — ураджэнец горада Куйбышава. І першае сваё пісьмо два гады назад аўтар гэтых радкоў адрасаваў у Куйбышаўскі аблваенкамат.

І вось адказ за подпісам куйбышаўскага аблваенкома. «На ваша пісьмо паведамляю, што Герой Савецкага Саюза падпалкоўнік у адстаўцы Пётр Мікалаевіч Жаўтухін, 1916 года нараджэння, памёр 23 сакавіка 1971 года. Яго жонка Жаўтухіна Марыя Цімафееўна жыве ў горадзе Куйбышаве»...

Горкая вестка. Жыццё героя абарвалася ва ўзросце 55 гадоў. Падумалася, хто ведае, мо і тут зноў нагадала пра сябе вайна...

Пісьмы ад Марыі Цімафееўны Жаўтухінай пацвердзілі гэта.

Расказала яна і пра жыццёвы шлях мужа, яго ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне. У 1937 годзе быў прызваны ў Чырвоную Армію. Закончыў Тоцкую ваенную авіяцыйную школу пілотаў, быў інструктарам у званні старшага сяржанта. З верасня 1941 года на фронце, спачатку ў разведвальнай авіяцыі, потым у штурмавой, радавы лётчык, камандзір звяна, камандзір эскадрыллі. Паўднёвы фронт, баі за Крым і Данбас, вызваленне Беларусі, Літвы, штурмоўка і бамбёжка ворага ва Усходняй Прусіі. За гады вайны зрабіў 337 баявых вылетаў, збіў некалькі самалётаў гітлераўцаў, быў неаднаразова паранены. Вырас ад радавога лётчыка да маёра, штурмана палка. У партыю ўступіў у 1941 годзе, званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10 лютага 1945 года. Узнагароджаны таксама многімі ордэнамі і медалямі. Сама Марыя Цімафееўна была разам з мужам на фронце як вольнанаёмная.

Пасля дэмабілізацыі Пётр Мікалаевіч да апошніх дзён свайго жыцця працаваў на куйбышаўскім заводзе «Строммашына».

Жонка героя даслала фотаздымкі ваенных гадоў і два нумары заводскай шматтыражкі, якія расказвалі пра Пятра Мікалаевіча. Чулы, абаяльны. Часта сустракаецца з моладдзю завода, расказвае пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Нумары газет паспелі пажаўцець ад часу...

Хто можа дапамагчы ў пошуках? Ну, вядома ж, аўтар артыкула пра подзвігі нашых сокалаў у дні вызвалення Беларусі Г. Эль-Рэгістан — вядомы савецкі паэт, адзін з аўтараў тэксту Дзяржаўнага гімна СССР.

Званок у Маскву. Гарольд Эль-Рэгістан слухае. Не, карэспандэнтам газеты нашых ваенна-паветраных сіл быў не ён, а яго бацька, Габрыэль Эль-Рэгістан. Ён жа, Гарольд Габрыелевіч, таксама быў у дні Вялікай Айчыннай ваенным карэспандэнтам, але на іншым участку фронту. Бацькі ж даўно няма...

Час няўмольны. Радзеюць і радзеюць рады ветэранаў вайны...Пасля вайны ў Новасібірску памёр камандзір авіяпалка, дзе служыў Жаўтухін, В. Д. Жыхараў. Не адказалі аўтару гэтых радкоў і некаторыя іншыя героі векапомных дзён вызвалення Беларусі — пэўна, іх таксама няма ўжо сярод нас.

Ваенныя лётчыкі. Вось яны на здымку,— жыццярадасныя, бадзёрыя, вясёлыя — не за гарамі ўжо была Перамога. Першы злева — Буслаў, побач з ім камандзір палка Жыхараў, справа ад яго стаіць маёр Сяргей Дзмітрыевіч Герасімаў, які ў небе Літвы паўтарыў неўміручы подзвіг Мікалая Гастэлы і пасмяротна быў удастоены звання Героя Савецкага Саюза, сядзіць Пётр Мікалаевіч Жаўтухін, за ім лейтэнант Казянкоў (загінуў у баях), апошні на здымку Барыс Амялянавіч Асадчых (у пасляваенныя гады жыў у г. Кінешме)...



Закончыць гэтыя нататкі мне хочацца наступным паведамленнем. Рашэннем выканкома Талачынскага гарадскога Савета народных дэпутатаў адна з вуліц горада Талачына названа імем Героя Савецкага Саюза Пятра Мікалаевіча Жаўтухіна.

**Б. РАМАНАЎ.**




**з 24 лютага па 2 сакавіка 1986 года**

**24 лютага, 18.10**

**«І ПРАЦА, І РАДАСЦЬ, І ПЕСНЯ...»**

**Выязны канцэрт. З передавікамі вытворчасці сустракаюцца заслужаныя артысты рэспублікі В. Скорабагатаў, Г. Радзько, В. Шутава, Я. Еўдакімаў, В. Пархоменка, В. Кучынскі, ансамбль народнай музыкі «Свята».**

**25 лютага, 19.50**

**«КВІТНЕЙ, МАЯ РАДЗІМА!»**

**Канцэрт салістаў і музычных калектываў Беларускага тэлебачання і радыё. Прагучаць творы беларускіх кампазітараў у выкананні хору пад кіраўніцтвам народнага артыста БССР, прафесара В. Роўды, сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам заслужанага артыста БССР Б. Райскага, камерна-інструментальнага ансамбля пад кіраўніцтвам Я. Валасюка, дзіцячага хору пад кіраўніцтвам В. Лашук, заслужаных артыстаў рэспублікі Т. Раеўскай, В. Пархоменка, Г. Радзько, Я. Еўдакімава, Ю. Смірнова, Л. Барткевіча, В. Кучынскага, артысткі Т. Пячынскай.**

**1 сакавіка, 13.05**

**«КАНЦЭРТ-86. САКАВІК»**

**Перадачу вядзе заслужаны артыст рэспублікі У. Рагаўцоў.**

**1 сакавіка, 15.00**

**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**

**У чарговым выпуску агляд навінак беларускай літаратуры, паэтычны рэпартаж У. Някляева і М. Маляўкі з Дома-музея І з'езда РСДРП, прысвечаны XXVII з'езду КПСС. У рубрыцы «За рабочым сталом пісьменніка» — сустрэча з В. Адамчыкам. Янка Сіпакоў расказвае аб рабоце з маладымі літаратарамі на семінары ў Каралішчавічах; на заканчэнне рэпартаж з музея Якуба Коласа і рэпартаж з музея старажытнай кнігі ў Ветцы Гомельскай вобласці.**

**1 сакавіка, 16.15**

**Лаўрэаты Рэспубліканскага тэлевізійнага конкурсу «ЗЯМЛЯ МАЯ».**

**Выступае народны ансамбль танца «Вясёлка» Дома культуры Белсаўпрофа.**

**2 сакавіка, 15.40**

**«ПРА МУЗЫКУ АД «А» ДА «Я»**

**Тэлегледачы пачуюць расказ пра творчасць нарвежскага кампазітара Грыга, прагучаць фрагменты з яго канцэрта для фартэпіяна з аркестрам, музыкі да драмы Ібсена «Пер Гюнт».**

**Сустрэнецеся таксама з народнай артысткай рэспублікі Н. Гайда, пачуеце арыі з аперэт Легара «Джудзіта» і Ленона «Зялёны востраў», фрагмент аперэты Семянякі «Паўлінка».**

**Вядомы беларускі майстар рэстаўрацыі і ўдасканалення народных музычных інструментаў У. Пузыня раскажа пра беларускую дудку.**

**Эстрадную старонку прадставіць заслужаны артыст Украінскай ССР М. Гнацюк.**

**У перадачы прымаюць удзел саліст ДАВТа БССР М. Жылюк, Мінскі камерны аркестр, Дзяржаўны фальклорны харэаграфічны ансамбль «Харошкі» і сімфанічны аркестр Беларускага тэлебачання і радыё.**

**2 сакавіка, 19.50**

**«У НЯДЗЕЛЮ ВЕЧАРАМ»**

**Кінапраграма «Артысты кіно запрашаюць». Вы ўбачыце фрагменты з фільмаў «Зорка чароўная шчасця», «Белае сонца пустыні», «Мелодыі белых начэй», «Карнавальная ноч», «Нас вянчалі не ў царкве», «Вакзал для дваіх», «Той самы Мюнхгаўзен». Вядучы — артыст В. Манаеў.**

**«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.**

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 05573 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

**Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.**

**ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела тэатра і выяўленчага мастацтва — 33-21-53, аддзела музыкі і кіно —33-21-53, аддзела культуры —33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і машынапіснага бюро — 33-44-04, фоталабараторыі — 33-24-62, выдавецтва — 23-52-85, бухгалтэрыі — 23-77-65, карэктарскай — 32-20-64.**

Рэдакцыя прымае і разглядае апавяданні, нарысы, артыкулы — да 12 старонак, рэцэнзіі, інтэрв'ю, карэспандэнцыі, нататкі — да 6 старонак, вершаваныя творы — не больш як 150 радкоў. Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы ў двух экземплярах.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.